# Еўдакія Лось

# І КАЛАСУЕ ДАЎГАЛЕЦЦЕ

*Вершы*

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1998

УДК 882.6-1
ББК 84(4Беи)6
Л79

Серыя заснавана ў 1998 г.



*Укладанне М. Я. Ярашэвіч, М. Я. Клімовіч*

ISBN 985-02-0436-2

*Людзі добрыя,*
*не выбівайце*
*З рук маіх карандаш-бегунок.*
*Лепш пацешцеся,*
*паспагадайце,*
*Бо для вас мой шчырэйшы радок...*
*Я ж зраблюся*
*такім сустрэчным,*
*Што харошае дорыць усім...*
*Чалавеку*
*быць*
*чалавечным,*
*Мне здаецца, няцяжка зусім!*

*Еўдакія Лось*

* * *

Ах, Беларусь, мая ты доля,
Мая сляза і пацалунак,
Маё рунеючае поле,
Мой песнямі набіты клунак!

Нясу цябе праз далі ў далі,
Спыняюся на землях розных,
Каб скрозь пачулі і пазналі
Гамонку вёсен вербалозных.

Нясу цябе насустрач люду
У тых вачах, што мне дала ты,
У словах тых, якімі буду
Да скону марнага багатай.

Цябе гукаю, дзе ні стану,
З табой сябруючы, сябрую,
Гаю, калі наносяць, раны,
Дзеля цябе грахі дарую.

Імя тваё дае мне сілы,
Хоць не хвалюся я табою,—
Як пацалункам самым мілым,
Як самай горкаю слязою.

*1962*

* * *

Люблю цябе, мая зямля,—
З гразёй і хмарамі сівымі,
З дажджамі цёплымі начнымі,
З дзядзькамі ленымі сваімі
І цёткамі з-пад хатуля...

Люблю цябе, мой кут стары,—
Спрадвеку рэзаны, таптаны,
Грамамі, здзекамі пужаны,
Цярплівы, але да пары!..

Люблю цябе, мой добры край, —
Я прыняла тваё падданства,
А з ім — любоў і пастаянства
І ўсе даброты цераз край...

Люблю цябе, мой спеў і плач, —
Цябе, зямля мая, пакіну
На вечнае ўладанне сыну
І накажу яму — аддзяч!..

*1975*

* * *

Усе мае думкі з табою, Айчына,
Усе мае думкі з табою, зямля, —
Звонкая між мурагу ручаіна,
Чорная пад лемяхамі ралля!

Думкі з табою, багатая хлебам,
Простаю ежай, мядовым пітвом.
Смелыя людзі у небе, над небам,
Смелыя сэрцы пад кожным крылом!

Дзе ні жыву, мне ігрушынка сніцца,
Тая, што бацька-юнак пасадзіў.
Дзе ні хаджу, уяўляю сталіцу,
Тую, дзе песні Купала тварыў...

Я цябе ведаю светлай, аконнай,
Ясныя зоры, садовы спакой.
Я ж цябе ведала беднай палоннай —
Самай бяздомнай, няўроднай, сляпой.

Я цябе ведаю добрай і рознай...
Як чалавеку, табе гавару:
Не пакідай, абыходзься як з роднай,
Нават калі далюблю, дагару!

*1963*

* * *

Дай перамерзнуць у сцюжах тваіх,
Дай перамокнуць у сотнях дажджоў,
Дай перасмягнуць у тысячы спёк,
        Мая дарагая Радзіма!

Толькі не мерзні у сцюжах сама,
Толькі не ведай гарачай слязы,
Толькі не смягні ў спякотах сухіх,
        Мая дарагая Радзіма!

*1957*

## МАЦІ

Маці родная, маці мая!
Покуль буду жывая на свеце,
Покуль голас мой будзе гучаць,
Покуль вёсны, адзетыя ў квецень,
Буду сэрцам гарачым страчаць;
Покуль сонца нязгаснага промні,
Покуль месяца бляск бачу я,—
Ты са мной — буду век цябе помніць,
Маці родная, маці мая!..

Ты на шчасце мяне нарадзіла,
Над калыскай спявала начамі,
Каб я дужай і смелай хадзіла,
Смела мерала далі вачамі...

Дзякуй, маці, што мне падарыла
Ты любоў да зямлі маёй роднай,
Дзе ўсміхаецца сонца так міла,
Дзе бягуць хвалі рэк мнагаводных,
Дзе гамоняць вятры напрадвесні
З маладой сакавітаю рунню,
Дзе звіняць салаўіныя песні,
Лес іграе на тысячах струнаў...

Не бракуе на працу мне сілы,
Не згінаюся ў цяжкасцях я...
Гэта ты мяне ўсім надзяліла,
Маці родная, маці мая!

*1947*

## РОДНАЙ МОВЕ

Табе складаю шчыры свой санет,
Прапрадзедаў маіх жывая мова, —
Майго народа першая аснова,
Душы яго шырокі, чысты свет!

Калі і я ў табе пакіну след,
Хай не на ўсю ступню, хай напалову, —
Твая заслуга, казачнае слова,
Адзнака новых радасных прыкмет!

Да глыбіні душы мяне хвалюе,
Як пазнаю цябе і прагна п'ю я,
Нібы вады з крыніцы мне далі.

І крочу, маладая, з асалодай
Па гэтай любай, сонечнай зямлі,
Дзе роднай мовай дадзена валодаць!

*1957*

## САКАВІК

Абуджаюцца зямныя сокі,
Бродзяць хмелем п'яным, маладым.
На палях з праталін чарнавокіх
Ўецца тумано́ў бялявы дым.

Набіраюць сілу-моц рачулкі,
Каб пабегчы хутка як адна.
На палеткі, бальшакі, ў завулкі
Маладая сочыцца вясна...

Забывае дома рукавіцы
Муляр, на будоўлю ідучы...
Хутка загарацца бліскавіцы
І дажджы зашэпчуць уначы.

Хутка над зялёнаю прысадай
Прагучыць зязюльчына «ку-ку!».
Абудзіўся свет.
Я вельмі рада,
Што радзілася ў сакавіку!

*1957*

## У МЯЦЕЛІЦУ

Гудзе мяцеліца сівая,
Вятрамі дыхае яна...
Далёка родная, жывая
Мая старонка Старына.

Там ярына бяжыць на ўзгоркі,
Як лес, наўкола там сады,
Гучыць пявучая гаворка,
Бы ручаі жывой вады.

Там за салоўкам неўтаймоўным
Павеву ветру не чутно...
Як помнік былі векапомнай,
Ляжыць там замчышча адно...

Не занясе туды турыста,
Не забрыдзе туды мастак,
З дзяўчатамі там трактарысты
Да рання скачуць кракавяк.

Май зашуміць вясновым гулам —
Я аб дарозе дальняй сню,
Бо там я першы раз дыхнула,
На свет зірнула ўпершыню.

Гудзе мяцеліца сівая,
Бразгоча шыбамі акна...
Са мною ты, мая жывая
Радзіма — вёска Старына!

*1957*

## РОДНАЕ СЯЛО

Не, цябе я не забыла,
Роднае маё сяло,
Хоць гадоў гарачым пылам
Шлях дадому замяло!

Добра помню, як на клуні
Буслік ладзіўся ў палёт;
Добра помню, як у пуні
Сена пахла, нібы мёд.

Добра помню, як за хатай
Цёк руплівы ручаёк;
Добра помню, як дзяўчаты
Песняй клікалі дзянёк...

Потым помню, як пажары
Хаты знішчылі былі...
Варання ўзляталі хмары
Там, дзе пчол раі гулі.

Помню добра: грознай сілай
Зграі ворагаў змяло...
Не, нікольк і не забыла
Я цябе, маё сяло!

*1956*

## НА МАГІЛЕ БРАТА

Тады, сястрычка, успамяні
Усіх, хто з бою не вярнуўся,
Каб намі высненыя дні
Зноў паплылі над Беларуссю.

*В. Таўлай*

Я да цябе прыйшла здалёк...
Ты рады, брат мой? Я таксама.
Сюды, ў далёкі гарадок,
Нясу вітанне я ад мамы.

Матулю родную прабач:
Старая ўжо, самой не проста
Пад колаў стук, пад свой жа плач
Адлічваць шляху сотні вёрстаў.

Ты ў бронзе той жа, што ў жыцці:
Высокі, зграбны, твар прыгожы...
Як да цябе, аднак, зайсці? —
Твой двор абнесен агарожай...

Не на стале — на кургане
Кусты буйных духмяных кветак...
Хто пасадзіў іх? Піянер,
Дзяўчына, бабка ці падлетак?

Я слёзы выцерла, зірні:
Табою, брат мой, ганаруся,
Бо намі высненыя дні
Плывуць, звіняць над Беларуссю!

*1956*

* * *

Хударлявай дзяўчынкай бяляваю
Я расла у глухім мястэчку,
Дзе спяваліся песні слаўныя,
Дзе схіляліся вербы над рэчкай.

Я любіла матулю строгую,
І нястрогага бацьку з вусамі,
І ў палоскі сукенку новую,
Што куплялі ў раённай краме...

І на санках было мне хораша,
І на шыі ў асілка-брата;
Мне здавалася светлым хорамам
З сукаватых бярвенняў хата...

Не лічылася з гэтым вайна,
Як завыла над краем яна...
Палпаліла з бярвенняў хату,
Пахавала ў акопе брата...

І якой толькі ў свеце бяды
Не спазнала я ў тыя гады!..

Што такое бяздом'е сцюжнае,
Што такое бяссонне мужнае,
Што такое, як есці хочацца,
Што такое, як раны сочацца...

І хоць вырасла ўсё ж бялявай,
Не скалечанай, хударлявай, —
Я жадаю, каб век дзіцячы
Размінаўся з бядою, з плачам.

*1957*

## БАЛАДА АБ ПАЭТАВЫМ СЭРЦЫ

Мне гэта пад Каневам чуць давялося...
Стаяла глыбокая, сцюжная восень, —
Пажоўклае лісце з бярозы пахілай
Кружылі вятры над салдацкай магілай...

...Што быў ён паэтам, то ведалі травы
І кветкі яго Беларусі ласкавай,
То ведалі дрэвы у лесе высокім,
Што думалі думкі з хлапцом сінявокім,
Лагодней пішчалі ў гняздзе птушаняты,
Угледзеўшы хлопчыкаў носік кірпаты.
Ён быў іхнім сябрам і ўсюды, вядома,
Хадзіў па зямлі, як па роднаму дому,
І мог ён бясконца ўглядацца у неба,
Сачыць за травінкай, што вырасла з глебы...
Спаткаў васемнаццатым маем каханне,
А летам спазнаў ён слязу расставання.
Да зброі паклікалі гулка гарматы —
Вайна гартавала паэта-салдата.

...Радзіўся паэтам — дык будзеш паэтам,
Пакуль не расстанешся з радасным светам...
Радзіўся паэтам, дык будзеш ты ім,
Хоць станеш бязрукім, нямым і глухім.
Хай вочы аслепнуць, хай высахнуць грудзі —
Радзіўся паэтам — паэтам і будзеш!
Паэтава сіла, паэтава воля
У сэрцы гарачым...
Не знішчыш ніколі
Паэта, калі яго сэрца трывае,
Паэта, калі яго сэрца палае!
Дык ведала ж, пэўна, фашысцкая куля,
Што трапіла —
ў сэрца.
І сэрца заснула.

...Хаваў яго сябра, адбіўшы навалу;
Не плакаў. Што слёзы салдата? Іх мала.

Ім лепш выліваца дажджамі крутымі,
Дажджамі на ворагаў агнявымі!..

І ўсё. Але кропку паставіць зарана.
Палі навакольныя зноў зааранны...
...Жаданых сяброў-беларусаў прыезд
Вітаў украінскі пісьменніцкі з'езд.

Аднойчы нясмела ў пакой дэлегатаў
Зайшоў чалавек; ён, відаць, быў салдатам.
Прыціхла пісьменнікаў грамада:
Таварыш прастрэлены сшытак падаў...
— Не мог я яго у зямлю закапаць,
Не мог яго болей пры сэрцы трымаць!

Старонкі пісьменнікі разгарнулі —
Паэты паэтава сэрца пачулі...
Паэтава сэрца, што кніжкі гартала,
Што ў крылцах малых жаўрука трапятала,
Што чорнай гадзінай збірала ў дарогу,
Што верыла
                    у перамогу.

Залітае кроўю, прабітае куляй,
Паэты паэтава сэрца адчулі...
Мне гэта пад Каневам чуць давялося.
Стаяла цудоўная, звонкая восень.
А сонцам іскрылася мінскае лета —
Я сшытак гартала:
                              «Сэрца паэта».

*1953*

## СЛЯДЫ

Пралятаюць гады,
Праплываюць стагоддзі,
Нібы хвалі вады
Веснавога разводдзя.

Пралятаюць гады,
Як вятры тыя ў полі...
Вырастаюць сады
На пустэльным раздоллі.

Вырастаюць сады,
Расцвітаюць даліны...
Зарастаюць сляды,
Ападаюць галіны.

Зарастаюць сляды
Нават доўгага веку,
А жыве праз гады
Толькі след чалавека.

Чалавека сляды
У стагоддзях не гінуць.
...Гэта помні заўжды,
Перш чым след свой пакінуць.

*1957*

## СЯСТРА

Брат загінуў даўно... За другога братоўка
Выйшла замуж, дзяцей нарадзіла другіх...
А сястра ўсё прыходзіць; пагладзіць галоўкі
Ды ўглядаецца ў вочкі нярودныя іх.

Нібы хоча у чорненькіх тых вачанятах
Адшукаць гэткі мілы і родны блакіт...
Нібы хоча у ручках, угору паднятых,
Хоць на момант адчуць ласку братняй рукі.

Брат загінуў даўно; час забыўся суровы.
Не яго, а чужая у шчасці сям'я...
Дык чаму ты маўчыш, не прамовіш ні слова,
Ці не месціцца ў воку слязіна твая?

І журба, і сляза побач з ёю ступаюць,
Покуль будзе гарачай хоць кропля крыві...
Я не знаю, чаму пра сясцёр забываюць,
Як гавораць аб моцнай і вернай любві?

*1957*

## АДКРЫЦЦЁ

Прачытаеш верш адзін — зайздросна:
Гэткая ў ім думкі глыбіня!
А другі — нібыта ранак росны:
Зіхаціць іскрыста чысціня.

Непагасных талентаў багата, —
Чый жа з іх за ідэал прыняць?
Да чыйго зайсці пагрэцца ў хату?
Па чыім узоры мерку зняць?

Але думкі падышлі ціхутка, —
Я, прызнаўшы, што няма чужой,
Чыста аркуш падхапіла хутка
І рашыла быць сама сабой!

*1957*

## ПАДКОВА

Падарылі мне хлопцы на шчасце падкову,
Што знайшлі ў прыдарожным пяску выпадкова...
Уручылі ўрачыста, да дому паднеслі,
Пажадалі падкоўваць ёй звонкія песні.
Пажадалі падкутай імчацца ў прасторы,
Каб падкоўка выкрэсвала іскры, як зоры.
Каб ніводная з зораў не гасла да часу,
Каб не ведалі песні фальшывай акрасы...
Захаваю, сябры, я ваш дар жартаўлівы,
Накіруюся ў шлях, як ніколі, імклівай.
Абыду я за песняю межы, сцяжынкі,
Адсвяткую сяўбу, і касьбу, і дажынкі.
Пастаю за станком з працавітым рабочым,
З ім са змены дадому на золку пракрочу...
Знаю пэўна: не кіну яе на пароэе,
Не на ціхім прыпынку згублю, а ў дарозе...
І калі той дарогай дзяўчыначка пройдзе,—
Хай падкову, надзіва шчаслівую, знойдзе!
Калі будзе дзяўчына нявестай паважнай,—
Хай ёй знойдзецца хлопец, харошы, адважны!
Хай падыме падкову студэнтка, прафесар,
Ці жняя, ці пілот, ці яшчэ... паэтэса.
Хай яна, акрылёная светлай надзеяй,
Праспявае ўсё тое, што я не паспею!

*1957*

## ПЕСНЯ

Купала ночка зорачкі ў ставе,
Ды зорачку адну на дне згубіла.
Кахалі дзеўчыну дзве душачкі, ой, дзве,
А дзеўчына адну любіла.

Як тую зорачку на дне знайсці,
Калі яе вадою загасіла?
Як хлопцу лішняму, ой, як дамоў ісці,
Калі не мае сілы?

У ночкі многа зорачак заўжды,
Запаліць сотню замест той, што згубіць,
А хлопцу мучыцца, ой, мучыцца гады,
Пакуль хто сэрца прыгалубіць.

*1956*

## САНЕТ

Нашто ты мне, калі я не люблю
Цябе душою, думкай, летуценнем,
Калі між соцень гукаў, іх адценняў
Твой голас сэрцам чулым не лаўлю?

Нашто ты мне, калі я не раблю,
Каб ты ў жыцці не ведаў гора ценю,
Каб давяраўся чыстаму сумленню,
З якім ступіў на гэтую зямлю?

А ты хоць раз падумаў, мой адзіны,
Што часу непаўторныя гадзіны
Бяздумна і дарэмна траціш ты?

Згадай і, можа быць, тады адчуеш,
Што ты цвіцеш чарнобылем пустым,
А сэрца, што жыве табой, не чуеш...

*1957*

* * *

Прыйдзі, мой госць,
Я падару табе
Усё, што мо твае прывабіць вочы:
Травінку, што дзірван прабіла ўночы,
Расінку, што звініць, нібы званочак,
І цэлы лес я падару табе!

Нарву рамонкаў — ты не адрачыся,
Прымі мой падарунак весялей...
Падам праменьчык — ты не апячыся:
Гарачы ён, як вецер-санцавей!

Цябе сустрэнуць мурагі ласкава,
Атуліць засень векавечных крон...
Ты не здзіўляйся: тут такое права,
Маёй зямлі, маёй душы закон.

На гэта права, што цябе палоніць,
Калісьці вораг апантаны лез...
Пра што травінка тонкая гамоніць,
Пра што расінка срэбраная звоніць,
Аб чым шуміць мой падарунак-лес?!

Я ведаю: не трэба тлумачэння,
Ты зразумееш песні тыя сам...
Я не жадаю госцю засмучэння, —
Хай лепей усміхнецца каласам,

Хай лепш пабачыць ён мядовы ліпень,
Ля яблынь пачачуе ў будане.
Няхай над ім бушуе зорны лівень
І клён з рабінай шэпчуць аб вясне!

Пачуе госць мой, як пяе жанчына
Аб тым, чый сон травінкі сцерагуць,
Сустрэне пасівелага хлапчыну,
Пра подзвіг чый дубы усё гудуць...

Вось колькі я табе наабяцала!
І промняў, і рамонкаў, і вятроў...
Але баюся: можа, гэта — мала
Для самых блізкіх, дарагіх сяброў?

Тады ў сваёй я зачынюся хаце
І, покуль ты з дарогі моцна спіш,
Ад сэрца песню напішу, мой браце, —
І гэта ўсё, што абяцаю звыш.

*1961*

## ГНЯЗДО ЛАСТАВАК

*Сёстрам*

Вербы, абпаленыя перуном,
Вокал старога сяла — стаўкі...
Зляпілі гняздзечка над школьным акном
Дзве белагрудыя ластаўкі:
    Віць-віць-віць...
Крылцы пачысцяць да ўсходу яны,
Неба нап'юцца світальнага,
І да змяркання цвірчыць ля сцяны
Песенька іх прывітальная:
    Віць-віць-віць!
Перад кастрычнікам золкім, глухім
Птушак пацягне ў вырай.
Гняздо ж застанецца... І ўспомніцца ім
Радзіма з песенькай шчырай:
    Віць-віць-віць,
    Жыць-жыць-жыць!

*1961*

## ПРОДКІ

*П. У. Броўку*

Мая радзіма —
Жытні колас,
Сінь мурагу, язміну цвет.
Яна —
Пілы гарачай голас,
Калёс цяжкіх глыбокі след...
Мая радзіма —
Дзе з-за бору
Ўзыходзіць месяц уначы,
Дзе ў братнім ладзе, ў дружным зборы
Жылі калісьці крывічы...
Валілі лес, аралі ляды,
Сушылі гуртам нераты
І да туманных даляглядаў
Ганялі спраўныя плыты.
Дзяцей бацькі вучылі строга
Любіць саху, пчалу, зямлю
І аднаму маліцца богу —
Нялёгкай працы мазалю.
Таму і праўнуку, і ўнуку
Было няміла нішчыць, біць;
Ён вывучаў адну навуку,
Адно евангелле: рабіць...
Рабіў ён зрубы залатыя,
Нарогі, гонкія чаўны
І сцены белыя Сафіі[1]
Над плынню быстраю Дзвіны.
Умеў мой продак човен ладзіць,
Паліць іклastыя карчы,
Таму, хто ў роспачы,—
дарадзіць,
Таму, хто ў горы,—
памагчы...

*1960*

---

[1] Сафійскі сабор у Полацку.

## МОЙ ДЗЕД

Мой дзед быў добрым печнікам...
Ўжо ў дзевяноста год
Злажыў ён печку з камінком,
Старанна вымеў под.
Затым унучцы загадаў
Саломы даць жмуток, —
І вось агенчык запалаў,
І пацягнуў дымок.
Той дым паслаўся пеляной
Над стрэшкаю старой,
А ў хаце пахла чысцінёй
Ды цэглаю сырой.
Прылады дзед адкінуў прэч
І рукі, твар памыў...
Ён быў сляпы: ён тую печ
Навобмацак злажыў...

*1960*

## ШАРАНГА

Шаранга, пасёлак далёкі
У вяцкай старонцы лясной...
Там брат мой, юнак сінявокі,
Спыніўся мінулай вайной.
Паўночных завеяў краіна
Лагодна сустрэла яго:
Паклікала ў дом між ялінак,
Зацепліла ў лямпе агонь.
Абула ў вялікія боты,
Што мела, на стол падала,
Падкінула хлопцу работы —
Не стыла ля дрэва піла.
А ў дні развітання цяжкога,
Калі да прызыву дарос,
Праводзіла брата ў дарогу
Смуглянка, не тоячы слёз.
Не ведаю, ці цалавала
(Сачылі ж суседзі з дамоў),
А толькі пісаць абяцала,
Чакаць з перамогай дамоў.
Дамоў — не сюды, дзе народжан,
А ў той, за туманамі, край...
Няхай бы, раз быў заваражан,
Да шчасця вярнуўся б няхай!
Ёсць многа важнейшых па рангу
Ў Расіі мясцін-гарадоў,
А я вымаўляю: «Шаранга» —
І сэрца баліць маё зноў...

*1961*

## СЛІВЫ ЗА СМЕЦЦЕ

**Балгарская казка**

Адзін селянін ажаніць свайго сына
Задумаў з прыгожай стараннай дзяўчынай.
Паўнюткія сліў нагрузіў ён калёсы,
Кабылу запрог, тыя слівы павёз сам.
— Гэй, слівы за смецце, слівы за смецце! —
Едзе, крычыць, аж збягаюцца дзеці.
У вёсцы падгорнай дзяўчаты, кабеты
Спярша падзівіліся з воклічаў гэтых,
А потым па хатах разбегліся хутка,
Давай вымятаць з-пад палацяў, з закуткаў!
І вось да калёсаў з пляцёнаю тарай
Ідзе караван з небывалым таварам.
І сыплецца смецце з мяшкоў і з анучак —
Расце каля воза пярэстая куча.
— Дзівак,— між сабой гаспадыні гавораць,—
Бярэ што не трэба, патрэбнае дорыць.
А дзядзька за смецце адмервае плату
То спрытнай кабеце, то жвавым дзяўчатам.
Глядзіць, як жанчынкі руплівыя ўюцца, —
І хітрыя дзядзькавы вочы смяюцца!..
За ўсімі да воза з абменнаю слівай
Красуня адна падышла сарамліва.
— Што ж ты,— пытаецца дзядзька,— так мала
Смецця нягоднага ў хаце сабрала?
За жменю і сліў атрымаеш нямнога.
Глядзіць вінаватая ў вочы старога
Ды кажа: — І гэтую жменю суседка
Дала, я ёй вымела чыста паветку;
Свайго ж не было... — Селянін схамянуўся,
Да шляху знаёмага ён павярнуўся,—
Дадому дарога яго пачалася:
Добрая сыну нявеста знайшлася!

*1961*

## ТРЫ ДОБРЫЯ СПРАВЫ

Жартуюць — дзеля ўласнага бяссмерця
Тры справы добрыя спяшы зрабіць:
На роднай глебе пасадзіць хоць дрэўца,
Даць людзям кнігу, сына нарадзіць...

Малое дрэва ў садзе пасадзіла,
Сабрала ў кніжку сціплыя радкі, —
І толькі сына покуль не радзіла,
Не ўзгадавала светленькай дачкі.

Мне даспадобы дзедаўскі парадак...
І хай не ўспомніць свет мяне, калі
Не зробіць добрай справы мой нашчадак
Для чалавека, саду і зямлі!

*1961*

## ЧАЙКА

Белая чайка над хваляю сіняй,
Смелая, лёгкая, з крыллем чароўным,
Дружная з сіняй бязмежнаю плынню,
Бурамі, сонцам, прыбоямі поўнай!..
Мы з табой сёстры па лёту нястрымным,
Мы аднагодкі, нам лёгка ўзнімацца.
Добра ў дарозе, гарачай і дымнай,
Добра ў паветры салёным імчацца!
Сніцца бясконца мне: рукі, як крылле,
Пругка распростваю я і лятаю...
Скуль чалавечае гэта ўсёсілле,
Скуль легкакрылая плынь нелюдская?
Сны адлятаюць, а ў сэрцы не гіне
Сіла, імклівасць палёту такога...
Белая чайка ў бязвоблачнай сіні!
Што лепш за гэта? Нічога, нічога!..

*1959*

## ПАЛАЧАНКА

Можа, ты не такая і белая,
А празвалі бялянкай,
Можа, ты не такая і смелая,
А слывеш партызанкай.

Я з табою, зямлячка мая,
Ўжо тады падружыла,
Калі дзіцем, пад спеў ручая,
На сцяжыну ступіла.

Я з табою расла,
Ела хлеб травяны і бульбяны,
Я з табою была,
Калі ў лес ты ішла, ў партызаны.

Ты ішла ваяваць,
Хоць ніхто не прыносіў павесткі,
І прапала — а дзе, не відаць! —
І прапала без весткі...

Я іду па імшаніку золкім —
Гукаю, гукаю!
Я праходжу шыпшыннікам колкім —
Шукаю, шукаю!

Па сцяжынках іду,
На гасцінец выходжу шырокі...
Прыпыняю хаду
Толькі ў час, калі дрэмлюць
Аблокі...

Тваё сёстры жывуць,
І сябруюць яны з каласамі,
І кужэльнае ткуць,
І пяскі засяваюць лясамі.

Добры дзень ім заўжды,
Мір харошы утульным іх хатам!

Я нап'юся вады,
Што хлапчынка падасць зухаваты,

І пайду...
Я адзіную,
Тую,
Знайду.

*1959*

## БРАТ

Мой браток,
Я дасюль не веру,
Што цябе на зямлі няма...
Мне здаецца, адчыніш дзверы —
І сустрэну цябе сама.

Мо адразу і не пазнаю —
Гэта ж колькі мінула год!
Але кінуся, не стрываю,
Пацалую кірзавы бот...

Распластаюся пад нагамі,
І упрошвай — не адыду...
А спачнеш, дапаможаш маме —
Я з табою ў кіно пайду.

Мы змайструем ізноў альтанку,
Набудуем хат для шпакоў;
Накіруемся ў лес ад ранку —
Накапаем малых дубкоў.

Начытаемся разам кніжак,
Ты пахвалішся нават сябрам:
«Хоць маленькі, глядзіце, рыжык,
А не ўступіць, старыя, вам!»

І «старыя», каму па семнаццаць,
Будуць шчыра мяне хваліць...
Як без жартаў тваіх заставацца,
Як без дружбы тваёй мне жыць!

Мой браток,
Хто мне верне ласку
Рук тваіх, чысціню вачэй?
Хто прыдумае добрую казку
І раскажа яе хутчэй?..

У жыцці, на шляху палону,
Я прывыкла да розных страт...
Неаплаканая да скону
Мая крэўная страта — брат.

То дурэю з ім, як бывала,
То яго забаўляю малых...
Мне ягонай ласкі ставала —
І стае вось пясчынак злых...

Так стае, што часінай жалю
Я гатова легчы касцьмі,
Толькі б горкай зямлі загадалі:
«Хлопца добрага
Падымі!

Хай устане, загоіць раны,
Маладосць сваю дажыве.
Без пары
Вайною
Забраны,
Хай пацешыць ён матчын век.

Гарнітур хай адзене шлюбны,
Хай пляменнікаў дорыць сястры.
Каласам і лістоце любы,
Хай ніколі не будзе стары!»

Мой браток,
Ты даруеш, пэўна,
Што даўжэй за цябе жыву
І хвілінамі словам крэўным
Я чужых мне людзей заву...

*1962*

## ПА ДАРОЗЕ

*Пімену Панчанку*

Лён, і сосны, і ўзгорак пясчаны — Ушачы...
Гонта, брук, і платы, і каза ў палыне...
Каля хаты дзяўчынка бялявая плача...
Ля чаго ты, машына, праносіш мяне?

Што вы топчаце, колы, каб вы разумелі!
Ці ж пад вамі звычайнай зямлі паясок?
Тут глыжэўе, што пяткі маленькія грэла,
Тут, пад гумаю, мой «будаўнічы» пясок...

Дзесьці тут галышом загарала на гальцы,
Гаманіла з дзяўчынкамі сонечным днём.
Ад душы бедавала па згубленай ляльцы,
Над затрушчаным плакала я гусянём.

Па зямлі гэтай бегала зранку да стомы
І не ўгледзела, як падаўжэлі сляды...
Мела дом і шышкатыя мальвы ля дому
І не ведала назвы найгоршай бяды.

А яна прыпаўзла, прыкацілася потым,
Абакрала, зрабіла дзіця сіратой.
Заліла палыны мае кроўю і потам,
Зацягнула сінюткія далі слатой...

За машынай — муры і жыты палавыя,
Град пясчаны па шыбе сячэ і сячэ...
Адкажыце мне, вербы, слупы верставыя:
Хіба тая дзяўчынка
Плача яшчэ?

*1961*

## «ПРЫЯЗДЖАЙЦЕ ЧАСЦЕЙ!»

Шмат разоў у чужых мясцінах,
Ад чужых, здаецца, людзей
Чула я дарагі напамінак,
Шчыры кліч: «Прыязджайце часцей!»

Словы гэтыя спацяшаюць,
Робяць меншым усякі боль.
Людзі добрыя запрашаюць
Падзяліць з імі хлеб і соль...

Да развагі тоячы прагу,
Разважаю, шчаслівы госць:
Не павага, дык проста ўвага,
Але нешта ў тых словах ёсць,

З чым надзвычай утульна жывецца
У хаціне і ў будане,
З чым надзвычай лёгка пяецца
І што родніць з людзьмі мяне.

Словы гэтыя ўспамінаю —
І раблюся душою чысцей...
Вечна б чуць мне у родным краі
Шчыры кліч: «Прыязджайце часцей!»

*1960*

* * *

Я напісала вершаў цэлы «жмут»
І іх панесла на вялікі суд

Да тых лугоў, што бачылі, як я
Збіраю словы ціха між куп'я;

Да тых бяроз, на ветры трапяткіх,
Чые слязінкі на лістах маіх;

Да велічных дубоў, чые сукі
Калолі сэрца мне, нібы радкі...

Я ім сказала, вершам: «Вы адсюль.
Дык жалудоў не бойцеся, як куль!

Не бойцеся камення ўздоўж дарог —
Каменне ўзбочын аўтар перамог.

Не бойцеся, калі ў паўдзённы час
Сава-сляпуха не пазнае вас

Ці нейкая сарока ў сіняве
Вас нейкаю ж мянушкай абзаве!»

...Таму і любы мне мой родны кут,
Што чыніць ён свой справядлівы суд.

*1962*

* * *

Я прымаю цябе, жыццё,
Неспакойным і ціхім зусім,
Цвёрдым, нібы стальное ліццё,
І празрыстым, як верасня дым.
Для мяне ты не дзённы госць,
Я цябе нескончоным лічу
І прымаю —
якое ёсць,
Каб аддаць —
якое хачу.

*1962*

* * *

Мне ўсё цяжэй развітвацца з людзьмі,
З якімі лёс хаця на дзень братае...
Хоць упадзі балючымі грудзьмі
На роўны след, што вецер замятае.

Раней такіх пакутаў не было.
Ды я на іх ніколькі не сярдую:
Напэўна, сэрца ўмеласць набыло
Цаніць братэрства і любоў людскую.

*1962*





Я выбіраю вершы,
Якія прачытаю
На вечары сустрэчы
З гасцінным чытачом...
Пра шчасце будзе першы,
Другі аб родным краі,
Аб сонечным зарэччы,
Аб хаце над руччом...

Я выбіраю вершы,
Як добрых праважатых,
Яны са мной жартуюць
І плачуць, як сябры...
Для хлопцаў будзе першы,
Наступны верш — дзяўчатам,
А трэці аблюбую
Знарок дзеля старых.

Я выбіраю вершы,
І ў справе простай гэтай
Вялікая трывога
Турбуе песняра...
А ці навучыць першы,
Другі ці будзе спеты,
Ці клікне маладога
Да палкага кастра?

*1962*

## НЯЛЮБЫМ

Я не скажу, вы дрэнныя ці не,
І вам няшчасця я не пажадаю.
Служыце і выслужвайцеся;
мне
Прыемней дбаць пра тых, каго вітаю.

Вы для мяне не шкадавалі слёз,
Не шкадавалі здзекаў адмысловых...
Ды гонар мой адолеў, перанёс
Пагарды боль і ганьбаванні словам.

Я зноў жыву, хвала маім гадам,
Сябрую з полем, з сакавітым лісцем...
З дарог сваіх пясчынкі я не дам:
Бярыце тое, што далі калісьці!..

*1962*

## АДНАМУ КРЫТЫКУ

Пачуць як трэба не паспеў
Ты мой не шапялявы спеў.

Таму, калі ў мяне гасціў,
Яго ты «ціхім» ахрысціў...

Ну што ж, ёсць ціхая вада,
Яна вярней шумлівых вод.
Яшчэ ёсць ціхая хада,
Яе не ганіць пешаход.

Ёсць ціхі клён і карагач,
Ёсць ціхі гром і ціхі плач...

Ёсць крытык — ціхі, як трава,
Як ціхая удзень сава...

Не злуй: я ж ціхенька пішу,
Тваю «закалышу»
Душу...

*1962*



* * *

Калі здасца мне сумна ў свеце,
Перастану ўсміхацца сябрам,—
Пабудую хаціну
ў лесе,
Буду песні спяваць зайцам.

На рачулку хадзіцьму ціха,
Што хаваецца
у лагу.
Гаманіць буду там з бабрыхай
Між цікаўнага трыснягу.

Я падслухаю лёскат арэхаў
І шаптанне сухіх лістоў.
Падражнюся з гамонкім рэхам,
Што жыве паміж дрэў і кустоў.

Таўстаногаму беламу грыбу
Прызнавацца буду ў любві...
На лясную маю сялібу
Каго хочаш тады заві!

Хто знясілены славай, злосцю,
Хто зняверыўся ў барацьбе
І у вежу з слановай косці
Зачыніць
упрошваў
сябе...

*1962*

## ЛЕГЕНДА
## ПРА АТРАДНАГА ЦЫРУЛЬНІКА

Парикмахер юный Колька
образец нам показал:
не под польку,
а под пульку
десять фрицев причесал!

*Партызанская частушка*

Значыць, быў такі у лесе —
улюбёнец грамады.
Пры юнацкім інтарэсе,
без вусоў, без барады.

Са Смаленшчыны паходзіў,
песні рускія спяваў.
Партызанаў на паходзе
галіць-стрыгчы паспяваў.

Ні люстэрка вам, ні лаўкі —
сядзьце, дзядзька, на пянёк!
«Кіпень» з чыстае канаўкі,
з конскай грывы памазок.

Завіхаецца Мікола,
барада — за барадой!
Гарадская бачна школа
у рабоце маладой.

Не бракуе густу, меры,
і з-пад спрытнае рукі
прыгажэюць кавалеры,
маладзеюць мужыкі!

Праца скончана — у сумку
брытву, ножніцы кладзе.
І сваю ён мысліць думку,
тую, што не ў барадзе...

Думка ходзіць грознай ратай,
думка полымем гарыць:
як бы лепей з аўтамата
немцаў кулямі «пабрыць»!..

Ды паголішся, нябога:
вунь грыміць пад Тартаком!..

Лес, карчавая дарога,
дым над вёскаю слупом...

Вёскі,
        вёскі ў скрусе слёзнай,
вёскі —
        тут над кожнай плач:
ад смаленскіх стрэх да Лёзна,
з Докшыц, Ветрына да Ўшач!..

Вёскі,
        кволыя гняздзечкі
на палянках,
        на лугах!..
Толькі вугаль,
        толькі печкі,
рот якім разявіў жах...

Тут жа людзі, а не птушкі,
тут жа дзеці...
        Дзе яны?!
Пацягушкі-падрастушкі,
не званочкі,
        а званы...

...Ён галіў кагосьці, Коля,
калі грымнула вось-вось
і трафейнай фуры колы
гайданулі сваю вось.

Кінуўся пад мірг ракеты
недаголены стралок.
А за ім і майстар гэты,
пра якога наш радок,

ці легенда, ці прыпеўка:
абы жыў —
не паміраў!
Абы тою неспадзеўкай
міг да помсты падабраў.

Ой, рубіліся салдаты,
ой, хадзілі кулакі!
Не чакаў чужынец кляты,
што абсядуць мужыкі!

І цырульнік юны Колька
прыклад смелы паказаў:
не пад польку,
а пад кульку
дзесяць фрыцаў «прычасаў»!..

...Свеціць месяц,
свеціць месяц,
ясна зорачкі глядзяць.
«Прычасаў» ён
мо не дзесяць,
мо ўдалося толькі пяць!

А магчыма,
толькі пару —
дык і то,
як кажуць,
хлеб!..
Здзейсніў подзвіг,
здзейсніў мару
і душой зажыў ён лепш.

Ад паходу да паходу
ўсе віталі малайца,
і раслі
звычайным ходам
не адны яму бароды,
а й частушкі —
пра байца!

*1975*



* * *

*Г. Бураўкіну*

Нясу я вершы ў «Маладосць»...
Юнацкім часам так рабіла,
і доля нас не разлучыла,
і ў сталы час я тут не госць.

Я тут не госць,
я тут свая,
хоць трошачкі, ды гаспадыня,—
і галасамі маладымі
натхняецца душа мая.

Люблю юнацкі гарт і злосць,
з якое дабрыня імкнецца...
Нясу я вершы
ў маладосць
і спадзяюся: адгукнецца!..

*1976*

## ПРА ПАКАЛЕННЕ

Кажуць, шчаслівае пакаленне
Тое, што зараз прыходзіць...
Жыві, спявай, калі ёсць натхненне,
Хай рукі што любяць — робяць.
І ўсё да апошняй драбніцы ясна,
Усё, што ні зробіш, хваляць.
Хлопцы, дзяўчаты, як дзеці ў яслі,
Спрытна ў пісьменнікі валяць...
Добра, хай змоладу маладыя
Растуць, як таполі, да неба,
Душою не супраць такой хады я.
Напэўна,
　　　　　гэтак і трэба.
І шчасця зычу,
　　　　　　　　скажу па праўдзе,
Я пакаленню гэтаму,
Прыбранаму, быццам бы на парадзе,
Ласкай бацькоў сагрэтаму.
Ды мне
　　　　маё
　　　　　　даражэйшым здаецца,
З натруджаным добра крыллем...
Яму не было ля чаго пагрэцца —
Бо каміны не дымілі...
А ўсё-ткі раслі, прыгажэлі надзіва!
Калі не было і хлеба.

Вершы пісалі пра дзень шчаслівы...
Напэўна,
　　　　　гэтак і трэба...
Загартаванае наша натхненне,
Яно адгарыць няскора!
Кажуць, шчаслівае пакаленне
Тое, што зведала гора.

*1963*

## МІР

Мір — гэта ранак зялёны,
Сонца на парастку кожным.
Мір — гэта маці, дзіцёнак,
Радасць на твары прыгожым.

Мір — гэта дзень за станкамі,
За чарцяжамі шматкутнымі,
За простымі тымі радкамі,
Што часам здаюцца пакутнымі...

Мір — калі ўсе пуцявіны
Водарам лета дурманяць.
Мір — калі толькі ўспаміны
Вочы слязамі туманяць...

*1963*

## ДОМА

Якое хараство!
Лістка усмешка,
І ніткі лоз над вымытым акном,
І дожджыкам запырсканая сцежка,
Атуленая бурым плывуном...

Зіма не сніцца задуменным нетрам,
Зазелянеў бярозавы куток.
Гамоняць каташкі з вясёлым ветрам,
І лось падснежны спытвае паток.

Праклюнуліся елачкі на ўзгорку,
Пралескі свецяць, покуль не паснуць...
Я тут расту.
Мне соладка і горка.
Мяне адсюль вятры не адарвуць...

*1964*

* * *

У кожным імгненні паэзія ёсць,
У кожным здзяйсненні — яе прыгажосць.
У кожнай істоце —
яе
хада,
У кожнай бядоце —
яе
бяда.

Дык, значыць, імгненне —
яно маё,
Дык, значыць, натхненне —
таксама маё!
У кожнай істоце сябе знайду,
У кожнай бядоце — сваю бяду...

*1964*

## ТОЛЬКІ ТУТ

Будзем жыць, будзем песні складаць
На прасторах айчыны ўлюбёнай
І прызнання тых песень чакаць
Толькі тут, а не дзесь за кардонам...
За кардонам не тыя вятры,
Што табе падпяюць сарамліва.
І не тыя праменні ўгары,
І не тое жытнёвае дзіва...
Змізарнееш, напэўна, тады,
Жывучы без крынічнай пяшчоты...
Мой таварыш, мой друг малады,
Толькі дома пяецца з ахвотай!
Прырасцём да бацькоўскіх сцяжын,
Да радзімы байцоў і паэтаў.
Закаханыя ў спеў ручаін,
Будзем песні складаць
Сусвету!

*1964*

## МАЁ МАСТАЦТВА

Люблю
зямлю
Не абстрактную —
Рэальную, пругкую, чорную,
Прасёлачную и трактавую,
За́лежную и ворную.

Штодзень
на ёй нараджаецца,
Красуе, шуміць, палымнее
Усё, чым жыццё маё славіцца,
Што жывіць мае надзеі.

Бяздумнасцю пустазвоннай
З красой не жартуй маёю:
Тут кроў рысуюць чырвонай
І клічуць зямлю зямлёю!

*1964*

## СТУДЗЕНЬСКІЯ ФРАГМЕНТЫ

Студзень — не маю зялёнага —
Інею шэрага лапы
У вузкім вагонным шкле.

Студзень — гэта дарога,
Але не з вясёлкамі ў небе —
З мяцеліцай у вушах.

Дарога — да тых, што носяць
Суровы убор салдацкі
І пільнасць на грані штыка.

Ім словы вязу пра лета,
Пра блізкія вочы і далі,
Сваю я вязу журбу.

Ды словы — яны не сняжынкі,
Што кожнаму ў нас зразумела,
Які іхні колер і пах.

...Пытаю ў вясёлай залы:
«Вы рускія?» Хлопцы русыя
Паважна азваліся: «Так».

Азваліся украінцы,
Азербайджанцы чарнявыя...
«А беларусы ёсць?»

«Ёсць!» — прагучала дружнае,
Роднае, басавітае —
Стаў родным салдацкі кут...

«Ёсць беларусы!» Словы
Іскрацца, нібыта сняжынкі,
І растаюць у душы.

Ёсць беларусы — слухаць,
Ёсць беларусы — службу
Важную свету спраўляць:

Сеяць і ткаць прыгожа,
З шахты здабыць і з нафты
І ў грозным стаяць страі.

Ёсць беларусы — для рускіх,
Для брацяў з прадгор'яў і стэпаў,
Таксама, як тыя — для іх.

Ёсць яны — для спагады,
Для роднасці і для гора...
Для песні харошай ёсць.

Ёсць беларусы і будуць,
Як будуць усе, хто добры,
Хто з дзецьмі і за дзяцей.

Сын мой, калі спытаюць
На пераклічцы братняй,
Першы адклікнецца: «Ёсць!»

*1964*

* * *

Мой час па-рознаму бяжыць:
То з гулам, як вясновы гром,
То ціхенька, нібы ручай,
То скокам-бокам, нібы ліст.
І вось такі прыходзіць дзень,
Якога нечага чакаць...
Ён шэры, як вада ў рацэ,
Ён ціхі, як пад снегам ліст...
І каб не спорны светлы дождж,
Што абмывае
шыбін шкло;
І каб не сябра мой — дубок,
Які патрэбна
даглядаць;
І каб не рань, і каб не сінь,
І каб не чулы
другаў ліст,—
Магчыма, існавала б я,
А так — жыву і буду жыць!

*1963*

* * *

Нязначнае перамагае
Значнейшых думак чараду...
Мне школа сніцца, як жывая,
Я з кніжкамі туды іду.
Спяшу па лесвіцы упарта,
Заходжу ў клас; там ля дзвярэй
Стаіць мая сяброўка-парта,
Дзе і займайся, і дурэй.
Штурхай чубатага суседа,
Каб даў задачку ён спісаць.
Пільнуйся скорага абеду,
Каб на пляцоўцы пагуляць.
Прыдумай тон для вышывання
І новы шлях да ручая.
Яшчэ падглядзь, як на спатканне
Ідзе настаўніца твая.
Трымайся пяць урокаў з гакам,
Не ный, калі не пад'ясі.
І ўсё ж выдатную адзнаку
Дадому ў сшытку прынясі!..
А новы ранак заклікае,
Вядзе да лесвічак старых...
Мне школа сніцца, як жывая,
Хаця яе няма ў жывых...

*1964*

## ЗЕМЛЯКІ

Нямала бярозак пахілых
На ўзбочынах бальшакоў.
Нямала у брацкіх магілах
Няслынных маіх землякоў...

Але, як і водзіцца ў свеце,
Жывое — жыло і жыве.
Жыць заставаліся дзеці —
Бацькоўскае ў галаве.

Бацькоўская закаханасць
У шолах жытнёвых ніў,
Сардэчная палымянасць,
Якое вораг не сніў.

А здарыцца — чорныя зграі
Зноў рушаць чыніць разбой, —
Зямляк мой, зямлі абраннік,
Першым выйдзе на бой.

*1963*

## НЕЗАБЫТЫЯ СЦЕЖКІ

Колькі гадоў не хадзіла,
Колькі гадоў не была
Там, дзе з сяброўкай дружыла,
Тут, дзе з сястрою жыла!

Колькі гадоў, не згадаю,
Прагла я сэрцам сюды!
Думала, што не пазнаю
На сцежках кахання сляды...

Думала, буду пытацца,
Як адшукаць на зямлі
Сцежкі, якія да працы,
Да песень мяне павялі.

Не, не пытаю нікога...
Вось яны, перада мной —
Ад скрыжавання старога,
Ад брамкі пад ліпай густой!

Мне радасна, я не зважаю
На горыч няпрошаных слёз.
Мне чуецца: я не чужая
На сцежцы між стройных бяроз.

*1961*

* * *

Па салаўінай нерушы,
Па бэзавай глушы
Ідзі, душы паверыўшы,
Лістоў не варушы.

Ідзі па шчасце хмельнае,
Галінак не ламай.
Вясёлае, вясельнае
Пацiху запявай.

Харошы, ён сустрэнецца,
Трывогай не гары.
Нідзе тваё не дзенецца,
Не знікне на зары...

*1963*

* * *

Прыйдзі па свежаму сняжку,
Па снежаньскаму халадку...

Прыйдзі, мой добры чалавек...
Па белай сцежцы наўпрасткі
Мы пойдзем да спаткання рэк,
Да пасівелай асакі.
«Такой зялёнаю была!» —
Відаць, задумаешся ты.
«Зіма і вас не зберагла...» —
Заўважу я пра чараты.
За рукі возьмемся — і прэч
Ад гэтых згадак ля вішша.
Бо ціхі сум — такая рэч,
Якой пужаецца душа.

Я бачу: снежныя грудкі
І — дзве рукі,
Як дзве ракі...

*1964*

* * *

«Беражыце жывых сыноў»...
Здаўся дзіўным зварот такі,
Хоць адразу азвалася кроў,
Зачасцілі ў грудзях штуршкі.

Пра сябе вымаўляю і ўслых,
Паўтараю ўдзень і ўначы:
— Беражыце сыноў
жывых,
Нежывых — чаго ж берагчы?

*1964*

* * *

Вышэй! — над выдумкамі злымі,
Вышэй! — над зайздрасцю дурной,
Над перажыткамі сівымі
І рознай цвіллю бытавой...

І ўзнімешся; але — ці ў неба,
Ці ўбачыш цвет зямлі адтуль?..
Шкада, што сілы траціць трэба
На ўзлёты гэтыя пакуль!

*1963*

* * *

Жонка плача — час да часу,
Сястра плача — год да году,
Маці плача — век да веку...

*З народнай песні*

Братка мой, не меў ты жонкі,
Але меў сястру малую,
Меў ты маці маладую —
Дзве спагадлівых сасонкі...
Песня жонак ушчувае,
Маці ў смутку суцяшае.
А сястра твая малая
На свой лад яе спявае:
— Жонка плача — час да часу,
Маці плача — век да веку,
Сястра плача — год да году,
Да скanання свайго роду...

*1963*

* * *

Ціхая просьба —
Першаму грому:
«Не пагражай
Хлапчуку малому!»
Гэткая ж просьба —
Да бліскавіцы:
«Не разгарайся над ім,
Сястрыца!..»
Ноч красавіцкая
Блішча, гукае...
Сын навальніцу
Перачакае.
Дзесьці далёка
Громавы грозьбы:
Пэўна, паслухаў
Матчынай просьбы...

*1963*

## ДЫНАСТЫЯ

Звары, падай, пасуду вытры,
Ды прыбяры, ды падмяці...
Мой князь Алег,
мой княжыч Дзмітрый
Пануюць здорава ў жыцці!

Адзін на службе ўсё слаўнее,
Другі — у доме важны чын.
А я, княгіня Аўдакея,
Падданая
сваіх мужчын...

Мне ўсё — не час, мне ўсё — не доля.
Мне і рабіць, і добра дбаць
Пра вотчыну,
пра тое поле,
Дзе ім
араць
і ваяваць.

Маёй дынастыі патрэбна
Яшчэ служыць, куды ні кінь...
Лічу, што гэта не ганебна
Мне, найруплівейшай з княгінь!

*1964*

## СТАРАЯ І МОРА

Паўтараста прыступак лесвіцы —
Як паўтараста гадоў.
Год пражыць лягчэй,
Чым раз дабрацца да мора.
Але брыдзе старая —
Скарга глядзіць з вачэй,
А кволую постаць
Хістае змора...
Мора дужасць дае,
Старой сказалі...
Да яго дабіралася доўга,
З апошніх сіл.
Сядзіць на камяні,
Дзівіцца з буйнай хвалі
Сівагаловая чайка
Без крыл...
Хваля — палохае...
Каб незнарок не змыла
З труднага берагу,
Дзе спачывае шторм,
Чайку, якую я
Чаяняткам
Любіла
І брала ў дзюбку
Яе
Самы салодкі корм...

*1964*

## ДЗЕ ВЫ, КОНІ?

Коні, коні,
Дзе вы, коні,
Грывы залацістыя,
Распластаныя ў пагоні,
Зграбныя, фарсістыя!

Хай бы беглі
Данчакамі,
Хай бы табуніліся
Ды іржалі стрыгункамі,
А не толькі сніліся!

Па лугах,
Па мокрых красках,
Па траве някошанай
Праімчыце звонкай казкай,
Марай прыхарошанай!

Каб лавіць вас
Дзесьці ў жыце,
Каб вы не даваліся!..
Коні, коні, адкажыце:
Дзе вы забрыталіся?

*1964*

* * *

*Сястры*

Чаго ты плакала, Маруся,
Святочны кубак свой п'ючы?
Ці па шалёнай завірусе,
Што выла побач уначы?

Ці па сваёй салдацкай долі,
Што стыне дзесьці ў шынялі,
Каб не прайшлі чужынцы полем,
Куркі з-за ўглоў не узвялі?

Ці, можа, ты святочнай хвіляй
Сумуеш, што мяне няма?..
Хоць буду я за сотні міляў —
Прымчуся, як міне зіма!

Ва ўбор свой лепшы прыбяруся,
Каб быць падобнаю вясне...
Чаго ж ты плакала, Маруся?
Скажы, калі шкадуеш, мне!

*1975*

* * *

Я прачытала, што ў адной краіне,
угульнай і дагледжанай надзіва,
амаль што кожны горад — нейкі помнік
і кожнае сяло славута замкам.
І ўся яна для свету дарагая,
уся яна — нібы музей выдатны,
дзе самыя шумлівыя турысты
перад красой спрадвечнаю ціншэюць...

А як жа ты, мая зямля-радзіма,
а дзе твае стовежавыя замкі?
Ці ж іх мае прапрадзеды сівыя,
умельцы-мудрацы, не будавалі?

Ці ж не ўставалі над лясістай багнай
сырыя, але грозныя палацы?
Хіба не ззялі пад вясновым сонцам
прысадзістыя цэрквы залатыя?

Было палацаў ранніх і пазнейшых,
было што паказаць гасцям паважным.
Ды ледзь не ўсё, што ты ні будавала,
пасля з'ядаў агонь нелітасцівы...

Каменне сцен крышылі ўпчэнт снарады,
вятрэлі вітражы, і фрэскі зяблі,
а хцівыя рабаўнікі з-за свету
разьбу жывую рэзалі нажамі...

Мая зямля, ты болей дарагая,
чым тая, што не траціла нічога.
Твой кожны гмах на попеле замешан,
твой кожны колас выпаен крывёю...

*1966*

## ПІСЬМО Ў ФАСТАЎ

Там, дзе вольна ластаўцы,
дзе садкі шумяць,
напішыце, фастаўцы,
роднае імя

на звычайнай дошчачцы,
на слупку, які
не згніе, не збочыцца
праз гады-вякі!..

Хлопчыкі чубатыя,
дваццаць год...
Над нядоляй братавай —
вечны веснаход.

Там, дзе вольна ластаўцы,
дзе садкі шумяць,
напішыце, фастаўцы,
братава імя!

Я прашу вас ласкаю
рукі прылажыць.
Я сама, як ластаўка,
буду там кружыць...

*1966*

* * *

Я здолею нашчадку перадаць
усё, чым даражу, чым доля днее...
І будзе сын мой, мне гэта відаць,
падобны на нябожчыка Сяргея,
на брата, што загінуў як герой,
пад танкі лёгшы, што ішлі на Кіеў...
Ідзе сынок дарогай дарагой,
і ўсё шчырэюць ручкі трапяткія...

*1966*

## ПАМЯЦІ БАЦЬКІ

...З доўгіх дошак труну майстравалі,
брус дубовы часалі на крыж,
у пяску залаценькім хавалі...
Тата, тата, як спіш ты, што сніў?

Я стаю ля сасны на каленях,
ціха вецер калыша траву...
Нібы рукі твае, праменні
мякка гладзяць мне галаву...

*

Я прайшла, даражэнькі тата,
надта многа дарог на зямлі.
А ішлося мне цяжкавата,
ды нягоды сагнуць не змаглі.

Я над кніжкамі ў цемры карпела,
залівалася ў голад слязьмі...
Я з бядоты, татуля, хацела
выйсці ў людзі і жыць з людзьмі!

*

Не салгу: памагалі дужыя
і слабейшыя, як сама.
Абміналі знарок дасужыя,
хоць, па праўдзе сказаць, дарма.

Маладосць, нібы ранак, займалася,
з мірам ехалі з фронту байцы...
А ці чуў ты, як не трывалася
час ад часу тваёй дачцы?

Чуў у полі дубок пакрыўлены,
чула цемра нямая:
«Тата, тата, мяне пакрыўдзілі,
тата, я ледзь жывая!..»

*

Але можна суцішыць рану,
можна з памяці выкінуць злосць...
Вось жа я з каленяў устану і пайду,
быццам ты ў мяне ёсць!
Зноў адчуюць прывычныя ногі
прахалоду свайго бальшака.
Павароты новай дарогі
мне пакажа Ушача-рака...

*

У людзей былі настаўнікі славутыя,
у людзей былі настаўнікі — бацькі...
Па табе ж ляжалі кніжкі некранутыя,
не трымаліся у пальцах алаўкі.

Але ўсё ж, калі не кідае гарэзаю
мяне ў працы, дык навука тут твая,
хоць не ведаў ты ніякае паэзіі,
апроч гэтай: «Дуня — ягадка мая!..»

*

На куце ты ў мяне не сядзеў,
не панела сама на вяселлі...
Ён прыехаў з тайгі, дзе гібеў, —
хлапчукоўскія сколні у белі...

Распісаліся лёгка, без кроз
на паперыне, скроенай гладка...
Я тады не ўракалася слёз —
і яны не канчаюцца, татка.

Але хлопчык-сцяблінка расце,
бегунок, смехунок нечуваны...
Хай жа сядзе ў яго на куце
яго тата, у белле прыбраны!

*

Мне і ў смутку любы долы нашы родныя,
мне сіроцтва не глушыла жаўрукоў...

А чаму растуць з бацькамі — ды нягодныя,
а чаму не цешаць любасцю бацькоў?..
Нажылася, ажно горка, як падумаю,
як падумаю — дык скора бабін век...
А дзяўчынкаю нясу табе бяду маю,
самы родны, неўміручы чалавек.

*1966*

* * *

«Не радзіся краснай, а радзіся шчаснай!..»
Прымаўку старую ўспамінаю часта.

Праплыло дзявоцтва песняй лебядзінай,
не была апошняй між дзяўчат дзяўчынай.

Небагата мела, ды таго ставала.
Не было, каб долю ў горы праклінала.

Але час мінае, лебедзь адплывае,
белы адлюстровак хваля ўспамінае...

Надта многа бураў, сіверу замнога
мне штодзень рыхтуе родная дарога.

Я не паважуся, але ўспомню часта:
«Не радзіся краснай, а радзіся шчаснай!..»

*1966*

## СТУДЭНТУ З ВЁСКІ

Свет цесны, гэта сказана не мною...
Праз тлумны магазін, без гаманы
хлапчына падыходзіць за чаргою,
аўтограф просіць: «Я са Старыны!»

Яму так проста вымавіць тры словы,
што з хваляваннем выслухала я...
Дзень добры, землячок белагаловы,
дзень добры, вёска родная мая!

Я буду больш табою ганарыцца
за тое, што твой лёс не падупаў.
Яшчэ адзін пасол твой да сталіцы
цераз лясы дрымучыя дапяў...

Ён столькі ж вёрст пясчаных перамераў,
як я калісьці з клункам за плячмі.
І будзе ён, як людзі, інжынерам,
і будзе ў час адзначаны людзьмі...

Што той аўтограф, хлопча мой каханы!
Звані ты мне, заходзь на аганёк.
Мы ўсё-такі былыя старыняне,
у нас свая гаворка, свой канёк.

Рабочы ён, упарты, цягавіты,
запрэжаны, пацягне ўсякі воз.
Мы з вёскі бітых, ды не перабітых,
мы з тых, што не пужаюцца пагроз...

Заходзь, зямляк, раскажаш, як багата,
як молада гамоніць Старына!
Стаяла там калісь і наша хата...
На месцы тым — ігрушына адна...

*1966*

## МАЦІ І СЫН

Ты ж мая перапёлачка,
ты ж мая невялічкая...

А ў перапёлкі
ножкі баляць...
— Чаму?
— Многа хадзіла...

А ў перапёлкі
крыльцы баляць...
— Чаму?
— Многа лятала...

А ў перапёлкі
грудка баліць...
— Чаму?
— Часта па́дала.

А ў перапёлкі
галоўка баліць...
— Ну, чаму?
— Многа думала...

*1966*

* * *

З тысячы дарог
я выбрала адну...
Яе, як палатно,
у трубку не згарну.

На ёй мае сляды —
жывых гадоў пячаць;
яны — не плямы, іх
не буду я змываць.

Яшчэ патрэбна шмат
прайсці ў задуме мне
і пратарыць слядоў
на гэтым палатне.

Мой розум — пра таго,
хто з сэрцам, як сама,
пра кожнага, каму
ўсміхаюся дарма...

З тысячы дарог
я выбрала сваю...
Сваю!

*1966*

* * *

Горад мой —
маё сэрца...

Ёсць тут вуліцы,
дзе я дзяўчом хадзіла...
Ёсць дамы,
з цаглін маіх збудаваныя.
Скверы ёсць, дзе лістота і травы
чулі вершаў маіх закаханых
гамонку...

Калі выдасца цяжкі мне
час,
я зраблю немагчымае:
я вярну сваю маладосць,—
і мне яе хопіць надоўга!

Мне яе хопіць на новыя,
новыя вуліцы,
на залацістыя гмахі,
на скверы
і на тую лаўку пад клёнам, якая
сына майго дарагога ніколі
не змусіць сядзець
адзінока!..

*1966*

# ЯСНАВОКІЯ МАЛЬВЫ

*А. Б.*

Паўночны чэзлы лес ды поўня,
па далавах — туманы, гнус...
Куды не пойдзе памяркоўна,
куды не з'едзе беларус!

Там пасяліўся, дзе будуюць
дамы нязвыкла ў пяць вуглоў,
дзе па бульбоўніку сумуюць,
па сінім цвеце васількоў...

Але — жыццё... І Поўнач трэба
сагрэць, наблізіць да душы.
І беларус пад нізкім небам
хаціну новую імшыў.

Вясной вятры спявалі сіпла,
шарэла стылая зямля,
а ён, перасяленец сціплы,
пасеяў кветкі спакваля...

Прывезенае аж з-пад Блоні,
дало насенне добры плён.
Зацунсавелі там на ўлонні,
як дома, мальвы ля акон!

...Не бойся Поўначы далёкай,
калі ўжо кінуў край бацькоў:
па стройных мальвах яснавокіх
пазнаеш хаты землякоў!

*1966*

## НА ХАЦІШЧЫ

Бэз адзічэў, і разбеглася мята,
і пад травою схаваўся падмурак...

Некалі тут красавалася хата...
Дзядзька ля тыну дасмоктваў акурак.
Цётка на пожні бяліла палотны,
сын выразаў сабе цацку з ляшчыны...
Цешыўся кожны, што год умалотны,
што для трывогі — ніякай прычыны.

Але трывога
век ля парога...
Ці то вайна, ці дарога, дарога?

Рэха лясное кагосьці гукае,
зайцы па мяце гарцуюць, як чэрці...
Некаму ж сніцца мясціна такая
да смерці!..

*1966*

## ЛЕПЕЛЬ

Зялёны Лепель, сэрцу мілы,
азёрнай гладзі акіян,
ва ўтульным садзіку — магілы
байцоў і слаўных партызан.
Жывеш ты, ліўнямі прамыты,
грамамі хрышчаны не раз,
шпакамі з даўніх дзён абжыты
і бэзам — быццам напаказ!
Жывеш, раённая сталіца,
сярод палёў, як працаўнік.
«У Леплі злеплен!» — ганарыцца
мой аднагодак-жартаўнік.
Мы з ім прыехалі на стрэчу
з юнацтвам, з тым, пра што пяю...
Тут краскі лугавыя лечаць
прастуду даўнюю маю.
Пад небам хмарным здаравею,
расту, як хвоя, пад дажджом,
пад навальніцаю — смялею,
зайсці гатова ў кожны дом...
Зялёны Лепель, як найлепей
гадуй сваіх ты дзіцянят.
Хай шчасце казачнае лепяць
усе харошыя падрад!

*1966*

## НА МАГІЛЕ БАГДАНОВІЧА

Я ў прыгоршчах прынесла
два дрэўцы-падлёткі
з марай, каб узляцелі
да хмар аднагодкі.
На магілу паэта
прынесла рупліва
два браты-кіпарысы,
зусім нешумлівых...

Працавала матыгай,
рыдлёўкай капала,
абсыпала карэнне
зямлёю памалу.
Палівала вадою
з падгорнай крыніцы...

Кіпарысы,
расціце,
кіпарысы,
ляціце!

Вы заместа ядлоўцу
і думнага дуба,
што растуць на радзіме
Максімавай, любай...

*1965*

## ПРАВАДНІЦА

Гэтак міла з табой парадніцца
у хаціне, што клічуць — вагон!
Правядзі мяне,
правадніца,
праз паляр'е і поўдня агонь!

Правядзі мяне, ты гэта можаш,
праз завеі і сны садоў,
праз маланкавыя загарожы,
праз навалы аблок і ільдоў!

Пераехаы паралелі,
лёг пад колы
мерыдыян...
А ці ўсе пасажыры паселі,
а ці чысты ў вагоне дыван?

Правадніца — не чараўніца,
не чаруе — працуе,
ажно
свет глядзіць і не наглядзіцца
у працёртае ёю акно.

Чай булькоча ў бачку-кадушцы,
добрай ночы не доўга чакаць!

Ёмка месціцца на падушцы
хлапчука-пасажыра шчака.

Непаседа малы не цяміць,
сум чужы яго не пячэ:
правадніцы,
ласкавай маме,
быць ды быць у дарозе яшчэ!

А яе хлапчына шчакасты
сам сабе недзе галава...
У яго плывецкія ласты,
у яго рака і плотва.

У яго запалкі і трэскі,
ён што хочаш адпаліць адзін...

Спіць спакойненька, без патраскі
іншай маці здарожаны сын...

Я хачу табе пакланіцца,
клапатлівай душы тваёй,
дарагая мая
праваднiца
з патанелай да часу касой!

*1965*

* * *

Так, не ва ўсіх я хатах пабыла,
хаця душой імкнулася, ішла.
Сябрамі часам не сяброў лічу
і не заўжды спяваю, як хачу.

«Спяшаешся», — зайздроснік папракне,
«Празмерна захапляешся!» — ўпікне.
Пачуўшы, засмяюся — і далей!
Іду і захапляюся шчырэй...

Ці ж гэта грэх — даверліваю быць
і веру чалавеку падарыць!
Ці грэх спяшацца ў хаты, буданы,
дзе столькі хараства і гаманы!

О, хоць бы не спазніцца мне, паспець
туды, дзе вучаць сябраваць і пець!

*1966*

* * *

Даведалася: родам я адтуль,
дзе самыя жывучыя жанчыны!
Магчыма, і трымаюся пакуль
з такое незалежнае прычыны...

Магчыма, пажыву дзеля дарог,
насуперак слаце і веі колкай...
Лясы, азёры, сакаўны мурог —
святая поўнач Віцебшчыны золкай!

*1976*

* * *

Я да цябе, паэзія, дабіралася,
Як далакоп да вады на сухой мясціне.
Я з табой, нарэшце, спазналася, —
І стала светла ў маёй хаціне.
Шлях да цябе — аблогай няходжанай.
Крокі мае убачыць кожны,
Як зруба вянцы ў глыбокім калодзежы,
Які на вокліч гудзе трывожна...

*1968*

## У ВІЦЕБСКУ

У Віцебску — усе свае:
І хто куе, і хто малюе...
І песня, што зямляк пяе,
Мацней за іншыя хвалюе.
І слова сэрцу даражэй
З-за дыялектнае аздобы.
І ранішні прамень рыжэй,
Чым золата вышэйшай пробы!
У Віцебску жыве рака,
І недзе ў ёй струменьчык скача
З таго святога раўчука,
Што называецца — Ушача...

*1968*

* * *

Снегу, снегу — не праехаць,
Снегу, снегу — не прайсці!
Хоць бы стомленай, у сне хоць
Да Лучосы дабрысці...

Ад Лучосы можна босай
Да зажуранай Дзвіны, —
Да маёй простаблагасай,
Ад рыданняў безгалосай,
Сэрцам выклятай вайны...

*1968*

## ЦЫМБАЛЫ
## З ЧЫРВОНЫМ БАНТАМ

Цымбалы з чырвоным бантам,
Дзе вы былі-хадзілі,
Каму ракаталі славу,
Каго ў карагод вадзілі?

Цымбалы з чырвоным бантам
Едуць, ідаць, з вяселля...
Іх слухаў жаніх закаханы,
Расхінаючы белы вэлюм.

Цымбалы з чырвоным бантам
Казалі нявесце многа:
Што будзе яна шчаслівай,
Будзе люляць малога...

Цымбалы з чырвоным бантам
Ігралі усім танцорам,
І кожны скакаў колькі хоча,
На ўцеху высокім зорам.

Хай жа гудуць-іграюць
Вясельнікам і дэманстрантам,
З хаты у хату ходзяць
Цымбалы з чырвоным бантам!

*1968*

## ВОЗЕРА ЛОСЬВІДА

Лосьвіда, Лосьвіда...
Лось заглядаўся
Ў чыстыя воды, паіў ласяня.
Куст ганарыстых рагоў калыхаўся,
Але ўжо бегла па следу гайня...

Як ён на ворага страшнага скочыў,
Як засланяў ён дзіцёнка ў бядзе!
Хорт акрываўлены ў жудасці збочыў
І захлынуўся ў вірлівай вадзе...

Лось пратрубіў перамогу над гаем,
Аж па вадзе захадзілі кругі...
Возера Лосьвіда, бацькавым краем
Я называю твае берагі!

*1967*

## НАСУСТРАЧ СВЕЖАМУ СТРУМЕНЮ...

Мне шмат расказваў салякоп
У бляску электрычнай знічкі
Пра тоўсты пласт і соляў скоп,
Пра розныя забояў звычкі.

З усіх расказаных найбольш
Апавяданне ўсхвалявала
Пра чалавечы страх і боль,
Калі здараюцца
абвалы...

Казаў ён, шахты ветэран:
«Калі дзе рухнула скляпенне,—
Насустрач свежаму струменю
Бяжы — і будзеш ратаван!

У нас абвалу не было,
А неяк пыхнула праводка...
Пагасла ўсякае святло,
І дымам занялася ходка...

Пабеглі!..»
Ходкаю адной
Ідзём мы, нізкаю і душнай.
Сцяна стаіць перад сцяной
Перашкодай непарушнай.

Цяжэе мой гумовы бот...
І раптам: «Чуеце? Дыхнула!..»

Здалося, што праз многа год
Упершыню тады глынула

Паветра свежага; таго,
Якога на паверхні ўволю...
Паходу гэтага майго
Мне, знаю, не забыць ніколі...

Жыццё, падданае бядзе,
Стае трывогі ў ім і зморы...
Заўжды спатрэбіцца ў хадзе
Закон, што вывелі шахцёры:

Калі задымлены твой шлях,
Ад немачы няма збавення, —
Насустрач свежаму струменю
Ідзі — і выйдзеш на прасцяг!

*1967*



* * *

Ох, якія хлопцы на Ўкраіне!
Гляне чорным вокам з-пад брыва,
А брыво дугой над ім ускіне —
І любы сапернік — трын-трава...
Вось і мне нядаўна ад такога
Доўгі і ласкавы ліст прыйшоў...
Не спытаю, ведама, ні ў кога:
Ці зрабіць, каб болей не знайшоў,
Ці пра зоркі нагадаць начныя,
Ці пра топаль, што пад імі рос?..
Ох вы, вочы, бровы выразныя!
Хай не стане вам халодных рос,
Хай для вас цяпло струменіць сонца,
Хай для вашых спраў Днявро бурліць,
Хай у вашай пекнаце бясконца
Аганёк шчаслівы зіхаціць!
Ну, а я, здаецца, паспрабую
Тут спыніць, ля дому, позірк свой
І такога хлопца аблюбую,
Каб не стаў ніколі трын-травой!

*1956*

## ДЗЯЎЧАТЫ МІНУЛАЙ ВАЙНЫ

Якімі толькі мянушкамі
Не клікалі гэтых салдат
З няпудранымі вяснушкамі,
У шынялях да пят!..
Крочылі полем спаленым,
Шляхамі страшнай вайны,
І плакалі на развалінах,
І мерзлі ў акопах яны...
У лужах сцюдзёных мыліся,
Прычэсваліся пад дажджом,
Па косах сваіх журыліся
Пад гулкі гарматны гром...
Паходамі, зброяй занятыя,
Справай ваеннай пары,
Былі яны проста дзяўчатамі,
Што там ні гавары.
Пужаліся свісту міны,
Чужых незычлівых вачэй,
А гінулі — як мужчыны,
Абняўшы зямлю ямчэй.

*1962*

## КУПАЛКА

У хату, дзе жыла я змалку,
Дзе зноў прыйшлося летам жыць,
Прынеслі ўвечары купалку,
Спыталі: — Хочаш варажыць?

— Не хачу, — цётцы адказала,
Але, зірнуўшы, як яна
Сур'ёзна краску выбірала,
Танчэйшую ўзяла з акна.

І ў бляску чырвані заходнай,
Як то рабілася даўней,
Я вынесла дарунак роднай
Ў сутонне свежае сяней.

І ў бервяно, як вучыць звычай,
Паторкнула далей ад воч,
І мне хацелася надзвычай,
Каб кветка расцвіла за ноч!

Збылося, быццам у паданні...
У роднай вёсцы Старыне
І доўгіх год, і красавання
Наваражыла кветка мне!

*1961*

## ЛЯСНАЯ МУЗЫКА

Столькі салаўінай
Музыкі чуваць,
Што пад тую музыку
Можна танцаваць!

Можна захапляцца
Цеплынёю рук,
Слухаць дарагога
Сэрца гулкі стук.

І забыцца можна
Аб любой бядзе,
Аб слязе, што родзіцца
Невядома дзе...

Поўная гучання,
Ладу, пекнаты,
Музыка лясная,
Не сціхала б ты!

*1962*

## МАТЧЫНА ТРЫВОГА

*Маналог*

Успамінаю і не плачу:
на суткі трэція пакут
на свет, па-ліпеньску гарачы,
з'явіўся мой раднюткі цуд...
Пачула: цішыня ў радзілцы,
і толькі тонкі, як званок,
ледзь выпрастаўшы ручкі-крылцы,
падаў мне голас мой сынок,
нібы жаўронак у блакіце!..
Яго паклалі ў рад сяброў...
«Мне хлопчыка не замяніце», —
прасіла слёзна дактароў.
Нагаварылі пра замены!
Ды я свайго пазнала: ён...
І ўсё чытала ў дзень праменны
на ім з цыраткі медальён.

Насіць, раджаць, карміць не ўмела,
але сяк-так пайшло дзіця
на шчасце маці змізарнелай
у поле чыстага жыцця.
Ужо малыя не ў палаце,
дзе соскі ведалі свае...
Адна ў ружовым ходзіць плацці,
і клічуць Розаю яе;
а той чубацік сінявокі
завецца міла — Васілёк;
а той — Раманька, рукі ў бокі —
з рамонкаў беленькіх вянок!
Наўрад ці думалі матулі,
што цэлы кветнік развядуць!
Але ж каго садочак туліць
і пчолкі па-над кім гудуць?
Хто рады сонцаваму колу,
вясёлчынаму абадку?
І тыя, што бягуць у школу,
і тыя, дрэмлюць што ў цяньку.

Дзятва і кветкі, боль і радасць,
зямлі маёй любоў і цвет...
Якое ж фарбы мне зара дасць,
каб песня палыхнула ў свет?
Зара чырвоная, як каны,
трывожны чырвані разліў.
І вее вецер нелюляны
над памяццю дарогі ніў...

* * *

Музейных залаў быт зашклёны,
герояў фота на сцяне...
У нас падлічаны мільёны,
каго мы страцілі ў вайне.
А я пытаю недарэчы
у засяроджаных людзей:
а колькі ж кветак чалавечых,
а колькі страчана дзяцей?
Галоўка падала, як венчык,
і цельца траціла душу.
І не было каму укленчыць
скрываўленаму малышу.
Калі ж было — зямля стагнала
ад галашэння па сынку:
«Чыю ж я кроўку абмывала,
ай, чый жа лобік цалавала,
каму ж там трунaчка ў кутку?!
Ой, людцы, дзетку не чапайце,
ой, дайце мне набыцца з ім!
Мяне з сыночкам закапайце,
мяне з Раманечкам маім...»
Выносілі дзіцёнка з хаты,
забінтаванага ўсяго...
То з кулямёта, то гранатай,
то ў дыме нішчылі яго.
На могілках, сярод даўжэйшых,
рос карацейшы курганок...
Імёнаў колькі наймілейшых:
Матрунка, Лілечка, Зінок...
Ды могілкі былі усюды:
дзе дом гарэў і зеўраў склеп,
дзе маці з дзеткай несла суды,
каб учыніць з мякінай хлеб...

Дзе пасвіла дзятва каровы,
сачыла плотак з-над ракі
і дзе збіралі дар баровы
галодныя лесавічкі...
Стаптаная фашысцкай сілай,
у воспе кропак агнявых,
зямля наўсцяж была магілай
ад Брэста да шырынь данскіх...
Дык хто тады на папялішчы
лічыў з блакнотам у руках!
Садзіў тапор на тапарышча,
збіраў ён зброю па ярах,
з-пад ног у ворага палетак,
дарогу, сцежку вырываў,
хоць не сваіх — дык нечых дзетак
ад смерці ранняй ратаваў.

* * *

Калі балючае кранаю,
заўжды вяртаюся дамоў...
Мая Ушаччына святая,
мой кут зацішкаў і грамоў!..
Яшчэ не ведаю, дзе скончу,
а пачала сваё адтуль —
ад першых слоў траве і сонцу,
ад першых лех і першых куль...
Там столькі змалку пражыта,
што аж да старасці балець.
Там столькі люду перабіта,
што і сягоння сэрцу млець.
Адзін лясок пад Антановам
завяў, дык чуткі паплылі,
што задыхнуўся бор сасновы,
бо ўнізе вісельні былі.
Бор не стрываў несправядлівых,
бязвінных слёз, цяжкіх ахвяр.
Спыніў жыццё свае імгліва
страшэннай тайны валадар...
Там, дома, ёсць лясы такія,
дзе дрэва стала бранявым.
Але яны негаваркія,
як людзі з лёсам баявым.
Ім чутны ўдзень і сняцца ўночы

баі блакадныя ў карчах,
людскія стомленыя вочы,
сляза апошняя ў вачах...

Там ранняе спазнана гора.
Там, дома, пахавана шмат.
Там леглі Мая, Сева, Бора
з бацькамі, нібы краскі, ў рад.
Калі ж блакада пачалася,
славуты чорна Frühlingsfest[1],
мая Ушаччына зайшлася
ад плачу жонак і нявест.
Смылела пад нагой галінка,
і блізка пачынаўся бой...
І маці клікала: «Галінка!
Дачушка, дзе ты, што з табой?»
Бубнеў крывавы дождж, касіла
байцоў варожая арда.
Трымалася з апошняй сілы
у акружэнні грамада:
атрада мужнага астаткі,
пры ім жанчыны і дзятва.
Ні сухара ўжо, ні аладкі,
не есца горкая трава...
Трывалі большанькія ціха,
сядзелі, як баравічкі.
А можа, іх абыдзе ліха,
схаваюць, можа, хмызнякі?
Блакадны ранак ледзь цадзіўся,
сівое неба ледзь плыло...
У партызанкі, камандзіршы,
малое на руках было.
Яго натрэслі перастрэлкай,
папрэлі ножкі ў макраце.
Заплакала дзіця пад елкай —
ў агульнай схованкі куце.
Ды голасна! Здранцвелі людзі,
пачуўся ўраз сабачы брэх...
Ой, што тут будзе, што тут будзе?
Глыбокі жаль, вялікі грэх...
Матуля бедная нямее
і туліць да грудзей дзіця...

[1] Вясновае свята *(ням.)*.

Яно змаўкае, халаднее...
Ахвяра
у імя жыцця.

* * *

Вы думаеце, я пужаю,
ці мне пакутваць — з галавы,
калі такое ўспамінаю,
чаго і не снілі вы?
Ці не знайшлося б іншай тэмы
для заклапочанай душы?
Ды ці не з той блакады ўсе мы...
І ці не нашы малышы
пагінулі, як птушаняты,
галодныя, у лахманах,
пазбаўленыя цёплай хаты,
падушаныя проста ў снах!..
Сярод мільёнаў іх знаходжу
у цішы польнай і лясной...
Я сёння помнік свой узводжу
дзятве, загубленай вайной.
Мне пільна трэба папярэдзіць
бацькоў, матуль усёй зямлі:
калі радзілі — дык дагледзець
сумейце кветкі, каб цвілі!
Сады ратуйце ад паводкі,
сляпіце дымам маразы,
каб незабудкі і наготкі
глухой не ведалі лазы.
Каб не дзяўблі усходы вашы
нідзе на свеце груганы.
Цвятаны, Ляны, Лолы, Пашы...
Дачушкі светлыя, сыны...
Дзятвы багата на планеце,
з малымі любы веснаход...
Яны сягоння яшчэ дзеці,
а заўтра, бачыце, — народ!
Ці будзе ён такі, як хочам,
такі, як мроіўся байцам?
Павінен быць!.. Мы ж побач крочым,
з нас кожны абаронца сам.

*1975*

* * *

Мінула пара дзявочая,
Журбы настае пара...
На танцы ідзе
малодшая,
На танцы ідзе сястра.

Я ёй даю сукенку,
Што лепшая,
што даражэй,
Каб выглядала паненкай,
Была за ўсіх прыгажэй!

Позіркам добрай мацеркі
Аглядаю яе кругом
І падораныя
пацеркі
На шыі вяжу вузлом...

Сястру пазнаюць прахожыя,
Яны ўсміхаюцца ёй...
На танцы пайшла,
прыгожая,
З журбою пайшла маёй.

*1962*

## Я ЗУСІМ НЕ БАЮСЯ СТАРАСЦІ

Я зусім не баюся старасці, —
Хай прыходзіць, калі захоча...
Я была ўжо бабулькай хілай
На дванаццатым годзе жыцця...

Хто не верыць — няхай уявіць
Чалавека, істоту малую
Ў рызмане на плячах сагнутых,
У атопках на кволых нагах.

Змізарнелая тая істота,
Жабрачка з душой галоднай,
Пад кустамі шукае шнітку,
Падбірае на полі «рулі»...

Ёй не хочацца песень звонкіх,
Хоць казалі — пяюць іх дзесьці...
Ёй не трэба алоўкаў і кніжак:
Ёй бы толькі бульбы кашэль.

Ды яшчэ — з кашалём той бульбы,
Што падалі добрыя людзі,
Да сясцёр дабрысці, да маці,
Не ўзарвацца на міне дзе.

Бледнатварая тая бабулька
І ад кулі ўміраць не хоча...
Ёй, сур'ёзнай і сталай, верыцца,
Што будзе яшчэ малой!..

Што завяжа на шыю гальштук,
Як агонь трапяткі, чырвоны.
Возьме ў рукі не торбу — кніжку
Ды успомніць, як трэба чытаць.

Можа, нават смяяцца будзе
Або песні спяваць, як дзеці?

Будзе есці, скакаць і бегаць
На пругкіх дзіцячых нагах!

...Я гляджу на дзяўчынак сёння
І прагнаць не магу ўспаміну,
Як была я старой калісьці,
Як ахвярай вайны была.

*1961*

* * *

Усё жыццё — задача за задачай,
А формулы рашэння — аніводнай.
Як дзіцянё, душа парою плача
Ці ўзносіцца арліцаю свабоднай.
Сплятаюцца каханне і нянавісць,
Змагаецца упэўненасць з нявер'ем...
Жыві, каб песняй пераможцаў славіць,
Расчараваных радаваць давер'ем!..
І давядзі па шчырасці любому,
Як ты сабе даводзіла гадамі:
Калі працуеш — знойдзеш аксіёму,
Калі ідзеш — дарога за плячамі!

*1962*

## БЫЛЬ ПРА НЕЗВЫЧАЙНЫ АБРАЗОК

*У. М. Дубоўку*

Рэкрут, якога на службу вялі,
Выгнаны з хаты нябога,
Разам са жменькай бацькоўскай зямлі
Браў абразок у дарогу.
Верыў, што нават праз безліч гадоў
Зямля да зямлі пакліча.
Прывесці да родных аселіц, садоў
Упрошваў святое аблічча...

Аднойчы, як чорны выдаўся час,
Юнак пакідаў айчыну...
І узяў ён з сабой незвычайны абраз —
Зямную зусім карціну.
На ёй дзве ялінкі, бярозкі дзве,
Нібыта на ўзлеску, стаялі,
Іскрыліся краскі ў зялёнай траве
Ды штосьці траве шапталі...

Куточак зямлі, дзе радзіўся і рос,
З сабою вазіў па свеце.
Бярозкі зведалі горыч слёз,
А краскі павялі ў цвеце...

Страчала на бацькаўшчыне я сама
Хлопца, што дзедам зрабіўся...
Ён той абразок бярог нездарма
І шчыра яму маліўся!

*1962*

## КОСЫ

У горадзе малым —
                                запушчанасць садоў,
У горадзе малым —
                                парыпванне платоў,
І каля клуба ўдзень — ахрыплы мяч,
І цішыня увечары, хоць плач...

У горадзе малым — мігценне рос
І гэткае багацце доўгіх кос:
Русявых, белых, чорных, залатых,
Што хоць пазыч каторую з такіх!

Ды упрыгож істужкай, грабянцом
Ці пакладзі на галаве вянцом
І ўжо тады спяшайся пакараць,
Спяшайся
                захапляць і чараваць!

Вясновы дым
Над горадам малым...
Кіно — дзядам, дзіцячы сад — малым...

А што сярэднім — з касамі, як лён,
І нават пасівелымі з тых дзён,
Калі каналі ў полымі сады
І за вінтоўку браўся малады?

«Сярэдніх» пашкадуйце, салаўі...
Ні шчасця ў іх, ні людскае сям'і,
Ні паратунку ад таемных слёз,
Ні радасці ад кос,
                                цудоўных кос,

Бо тыя, для каго яны раслі,
Ляжаць, непакароныя, ў зямлі.

*1962*

* * *

Люблю паперы аркуш белы,
Што пазірае ў вочы мне,
Як быццам друг адкрыты, смелы,
Якога ў чыстым бачу сне.

Я з ім, як з доляю суровай,
Перапакутвала зашмат.
На гэтай плошчы адмысловай
Я шмат пасеяла зярнят.

Калі зярняты прарасталі,
Расла і радасць у грудзях.
Калі зярняты прарасталі,
Я галасіла на палях...

І зноў ішла, шукала словы,
Іх даглядала, як пасеў.
І белы аркуш папяровы
Мяне заўсёды разумеў.

Я друга добрага абрала.
І без яго ўжо — не магу.
Люблю. Інакш не давярала б
Яму ўсе мроі і тугу.

*1963*

## АДНАГОДКІ

У маіх аднагодкаў
Скроні сівеюць,
У маіх аднагодкаў
Сыны разумнеюць.
У сяброў пад нагамі —
Асот, не рута.
Маім аднагодкам
Жывецца крута.
Але яны ўсё ж
Няблага ладзяць
На простай рабоце
І ва ўладзе!
Іхняе працы
Ужо нямала
Ва ўсім, што хораша,
Зелена, ала.
З імі айчына
Не змізарнее:
Яны ўжо —
Спраўджаная надзея.

*1967*

## ВЫПУСКНІЦЫ

З вуліцы, з перапынку
Сонца прынеслі многа...
Вялікія вы, дзяўчынкі
З дзесятага,
выпускнога!

Дзевяць гадоў — за вамі,
Нібы ў вясёлым абозе...
Цяпер, як вы кажаце самі,
Усё ў вас на поўным сур'ёзе.

Урок —
як адна мінута,
А што за урокам чакае?
Нялёгкія інстытуты,
Журба, невядома якая?

І невядома, якія
Словы наклічуць горыч,
І невядома, якія
Хлопчыкі
будуць поруч...

Цяпер усё ў даляглядзе.
Значыць, далей глядзіце!
Па купінах, па лістападзе
Ідзіце, дзяўчынкі,
ідзіце!

*1968*

## ПАСЛЫ

Прыйшлі паслы —
Ад плугоў, ад пілы.

Павялі паслоў
Да прыбраных сталоў.

Сівой барадзе
Месца на куце.

Барадзе рудой
Сказалі: пастой!

Ты па што, барада,
Прыйшла, бяда?

Па лазу, па шыпшыну
Ці па ўдовую Кацярыну?

Рэй пасольскі удачай значыцца:
Кацярыне-ўдаве не плачацца...

*1964*

## АДНА



Адна бярэзіна — прыгожа,
Хто ні зірне — расчуліцца.
Адной жанчыне жыць нягожа —
Журыцца,
сутуліцца.
Не цешыць дом, прыбраны чыста,
Нацёртыя паркеціны.
Залішне ціха і ўрачыста
Для гаваркой кабеціны!
Залішне лёгка і свабодна
Яе далоням ёмістым:
Не просіцца на рукі родны
Чубацік неўгамоністы.
Не водзіць лялек па паркеце
Дачушка сарамлівая.
Адна душой на белым свеце
Жанчына нешчаслівая!
Бярэзіна і тая ў полі
Сумуе і сутуліцца...
Жанчына
без жаноцкай долі
Жыве на ціхай вуліцы...

*1966*

* * *

Шчаслівая, што сэрцам адгукнуся
На кожную праяву хараства,
Ад гора на зямлі не адвярнуся,
Нібы ад ветру — ніцая трава...
Ні пахвальбы, ні гонару ў прызнанні, —
Шчаслівая жыву з гарой турбот...
Даў Бог мне сэрца, сэрцу — хваляванне,
А іншых і не хочацца даброт!

*1968*

## ПАД ШУМ КАРТЛІЙСКАГА ДАЖДЖУ...

Пад шум картлійскага дажджу
Я думала пра Беларусь.
Пад гоман алазанскіх лоз
Я думала пра Беларусь...
Пад грукат вежавых замкоў,
Пад шолах агнявых вянкоў,
Пад спеў мужчын-прыгажуноў
Я думала пра Беларусь...
Даруй мне, Грузія мая,
Шчаслівая,
Багатая,
Дзе цэлы кожны камянёк,
Іскрысты кожны вугалёк...
А я — пра тыя камянькі,
Што параструшчвала вайна,
А я — пра тыя вугалькі,
Што застывалі дацямна.
Я — пра сваіх прыгажуноў,
Што спяць у засені вянкоў
Няпышных — простых, палявых,
Я ўсё — пра іх, усё — пра іх,
Пра Беларусь!..

*1968*

## ЛЕГЕНДА
## ПРА ПАЎЛЮКА РЫЖКОВА

*Г. П. Рыжковай*

Вярнуўся з-за фронту Паўлюк Рыжкоў,
навінаў маскоўскіх прынёс ён шмат.
Пасля папрасіўся ў атрадзе дамоў —
праведаць сваіх дзіцянят.

Іх чацвёра пры матцы, а як жывуць,
як без бацькі? Вайна, разбой...
Прыйшоў з лесу ноччу, не можа заснуць,
цешыцца соннаю галыцьбой...

Звёў вока на золку, а тут і стук —
як тапаром у бары...
Жонка збялела:
«Хавайся, Паўлюк!
Паліцэйскія, ажно тры!..»

Схапіць вінтоўку? Дык дзеці ж тут!
Не ратуе сялянскі кут...

...З-за печы вывелі Паўлюка,
з кпінамі, скалячы зубы, ўзялі.
Дзятва галосіць:
«Ой, татач-ка!..»
А яго ўжо вуліцай павялі.

...Жонцы кінуў:
«Глядзі дзяцей!
Я з гэтымі... пагавару...»
І знік,
і знік пад канвоем з вачэй,
у ранішнюю зару.

...Восень мінула,
зіма прайшла,
і знайшлі Паўлюка вясной.
Зусім недалёка знайшлі ад сяла,
пад кусцікамі, пад лазой...

Да канцлагера не давялі, сычы,
згаварыліся пошапкам тут забіць.
Ад немцаў мог партызан і ўцячы,
што тады паліцаям рабіць?!

А Паўлюк і звязаны не маўчаў,
дапякаў канваіраў траіх:
«Колькі варта прадажная шкура? —
пытаў. —
Ці не даўка есці сваіх?..»
Ён пытаў:
«А ці сніць паліцай сасну,
на якой павесяць яго?
За фашыстам прададзеную старану
пакарання не хопіць таго!..»

...Вясковы народ у горы стагнаў,
сціскаў народ кулакі:
не застрэлены партызан сканаў,
а пасечаны...
на шматкі...

Бач, не стрывалі «гаворкі» яны
у прысутнасці сведак-палян.
Пэўна,
ўчулі гнеў той сасны,
пра якую казаў партызан!

*1977*

* * *

Радзіма пачынаецца з двароў,
Дзе журавель тырчыць, нібыта дрэўка.
Радзіма пачынаецца з вятроў,
Што падказалі першую запеўку...
Радзіма пачынаецца з вайны,
Што чвэрць народа некалі скасіла...
Яна — з тае ўсвядомленай цаны,
Што сам дасі лісточку дзівасіла...

Хвалююся — і ведаю, чаго:
Хачу, каб помніў суайчыннік кожны:
Радзіма пачынаецца з таго,
Што не набыць, а толькі страціць можна.

*1968*

## БАБІН ВЕК

Бабін век — сорак лет.

А я і не супроць такога веку!
Прыгожа на зямлі абсталяванай,
Някепска дома чалавеку
І на арбіце спланаванай.

Я не супроць яго, я сэрцам рада,
Што пражыла кавалак немаленькі
І зразумела, што яно — спагада,
І перад злом не стала на каленькі.

Я зведала, як без натхнення горка
І як салодка ў хваляванні.
У мове века — і мая гаворка,
У песні века — і маё спяванне!

Я стан свой пашырэлы не хаваю:
Раджала, за сталом сядзела крукам...
А век — яшчэ адзін такі стрываю,
Каб не трываць бяды маім унукам!

*1968*

## ПРА БУЛЬБУ

Зазімак. Бульбіна пад снегам...
Змерзне бульбіна зімой...
Тут, можа, хто зальецца смехам,
а мне хоць плач па крамяной.
Яе прагледзелі, няйначай, —
і вось ляжаць, нібы глыжы,
маёй карміцелькі дзіцячай
дзіцёнкі ў полі ўздоўж мяжы.
Хоць падбяры ў прыпол ці ў сумку,
хоць колькі выратуй жывых!..
Лянівы воран дзесь закрумкаў,
спугнуў падлёткаў палявых...
І згадваю я ў шэрым полі
вайну, пажарышча агонь
і як іду з душэўным болем
па бульбу я да цёткі ў Звонь...
Прасіць... Дык, значыць, я жабрачка?
Я «старчыха»?! — казалі ў нас...
А цётка, можа быць, кулачка?
А скуль у цёткі той запас?
Ды цётка трошкі насыпала,
апошняе аддаючы.
А я кашолку дабірала,
дамоў па ніве брыдучы...
І гэта быў адзін ратунак
для згаладнелае сям'і.
З'яўляўся ў будане ласунак,
было утульней у гаі...
Цяпер жыццё ў дамах-палацах,
і пад рукой любы прысмак.
Адно б па бульбу нахіляцца
не развучыўся мой зямляк!

*1974*

* * *

Калі гаворым пра вайну,
мы не жанкі — амаль стратэгі!
Тады над намі ўжо не стрэхі,
накаты — з месца не скрануць.
Мы ведаем шляхі франтоў
усіх — ад Балтыкі да Крыма...
І генералы не старымі
нам бачныя ў агні гадоў.
Мы бачым жаніхоў былых
у гімнасцёрках нелінялых...
У хлопцаў нашых разудалых
яшчэ жывы і зрок, і слых.
І час паходную пяяць,
хоць праспявалі дужа многа.
Ім на Берлін яшчэ дáрога,
няма хвілінкі пастаяць...
Вось алаб'юць яшчэ вясну,
тады — да нас, у край шпачыны!..
Калі гаворым пра вайну,
мы проста — сталыя жанчыны...

*1975*

## КАМАНДЗІРОЎКА

*Аляксееву М. І.*

Дык што ж, таварыш генерал,
зноў запрашаеце у войска...
Паеду і не буду войкаць —
хоць на Каўказ, хоць на Урал...
Паеду, мне не прывыкаць
да нежаноцкае дарогі...
На ёй барвовыя трывогі
і словы славы зіхацяць.
Са мною кожны бастыён
і кожны помнік загаворыць.
Ім рацъ жывая будзе ўторыць
пра подзвігі суровых дзён.
Я зразумею ўсё як ёсць,
душу салдата прачытаю.
Я кнігу ўласную складаю
пра баявую прыгажосць.
Пачата кніга на шляхах,
якраз на тых дарогах пыльных,
што не падобныя да тыльных,
дзе ўжо агонь даўно ачах.
Пачата з колішніх баёў
і, пэўна, будзе прадаўжацца,
пакуль мне бачацца і сняцца
у краі нашым слёзы ўдоў!
...Балючыя мае дарогі,
сэрцу блізкія трывогі...

*1970*

## ДОМА

Да вайны ва Ушацкім раёне
было 54 тысячы жыхароў,
пасля вайны засталося 20 тысяч.

...Гэта значыць — кожны другі,
і болей...
Гэта значыць — не ўстануць з зямлі ніколі
русавалосыя, сінявокія,
каржакаватыя і высокія
дзядзькі,
жанкі,
хлапчукі —
мае землякі,
мае сваякі...
Колькі тысяч хат не збудавана,
колькі тысяч яблынек
не палівана!
Столькі бярвення
напілавана дарма,
такога саду
няма...
Я хаджу па полымю кветак,
па спалавіненым краі лясным...
Колькі ў свеце з'явілася б дзетак,
калі б нараджалі
хоць па адным!
А калі б радавалі і двайняты?..
...На магілах, у гнёздах,
пішчаць птушаняты...

*1970*

## КАШУЛЯ

З кужалю кашулю вышыла б для брата —
на яго магіле васількі ды мята...

З кужалю кашулю вышыла б для мужа —
ён не надта хоча, я не прагну дужа.

Гэтую кашулю вышываю сыну
па сваёй ахвоце, па свайму пачыну.

Хай за брата носіць, хай за мужа носіць,
у маёй кашулі хай любві не просіць!

Хай любоў знаходзіць сына па вышэўцы,
каб з-за васілёчкаў спадабаўся дзеўцы.

Каб з-за каласочкаў запрашалі ў хату,
з-за рамонкаў белых называлі братам...

*1970*

## РАМОНКІ

З духмяным сенам і з малінай
Ліпнёвы час загаварыў
І стол зялёны лугавіны
Бялюткім абрусом накрыў.

Абрус сатканы ладна гэтак,
Хоць на сапраўдны стол сцялі,
З рамонак чыстых — мілых кветак
Маёй квяцістае зямлі.

Замест утку́ пялёстак безліч
Ткач недарэмна скарыстаў:
Таму абрус з рамонак белых
Для ўсіх гаданкай шчасця стаў:

Для тых, хто любіць, хто не любіць,
І хто цалуе, хто плюе,
І хто да сэрца прыгалубіць,
І хто прыпевачку спяе...

*1957*

* * *

Сынок, сынок,
бялюткі бацянок!..
Як дзякаваць табе,
што ты ратуеш
ад адзіноты, ад нядобрых дум,
у халады любоў маю гартуеш,
з хаціны нашай праганяеш сум!
Я да цябе іду, душа святая,
ад неба, акіяна і раллі,
калі чакае хто і не чакае,
закінутую ў нетры і палі...
Я часам не іду —
плятуся ў зморы
ад розных неспагадлівых людзей.
Ды ў хаце ты — на ўцеху дужа скоры,
малы, а ўсё ж вялікі чарадзей.
Сынок, сынок,
танклявы бацянок!
Маё жаданне ўсе на свеце чулі:
каб ты са шчаснай доляю дружыў
і тым была табе твая матуля,
кім для яе ты сам, маленькі, быў!

*1970*

## ПІСЬМО

«А мама ставіць ружы для мяне!» —
пісьмо дыктуе неслух непісьменны.
Ён цешыць бацьку навіной адменнай
і ружу аж да носіка хіне.
Што мама ставіць ружы, драбнаце
усё ж здалося вартым апісання...
Я драбязой узрушана дазвання,
і словы пацямнелі на лісце.
Балючых успамінаў наплыло,
і пальцы пакалоліся ад голек...
Малой мне руж не ставілі на столік
і нават большай — некаму было...
Ды хай малы не ведае пра гэта.
Красуюць для яго ўсе ружы свету!

*1970*

## НАСТАЎНІЦЫ ПЕРШАГА КЛАСА

Настаўніца першага класа,
вяду я да вас сваё шчасце, —
няўрымслівае, малое —
яшчэ з птушанятка ручка.
Вяду сваё шчасце з верай,
што вернеце мне яго большым.
Хай перынкі не растраціць
яно у гняздоўі вашым,
дзе столькі гамонкі зрання,
столькі суседзяў звонкіх...
Настаўніца першага класа,
разгортвае шчасцейка крылы.
Ім памажыце акрэпнуць,
іх распрамляйце для лёту!
...З прыступачкі
на прыступку —
з галіначкі на галінку...
Птушанятка з рукі матулі
выпырхнула...

*1970*

## ЧАРОМХАВЫ ПОЕЗД

У вокнах бялеюць ахапкі цяжкія,
жывыя ў вячэрняй смузе.
Чаромхавы поезд імчыцца у Кіеў,
у Кіеў чаромху вязе.

Ірдзіцца расою духмянае голле,
гадунак прысадаў густых.

Вязе электрычка зялёным прыволлем
вясновае шчасце — для ўсіх!

І мне, беларускай жанчыне, так слаўна,
што ў гэтым вагоне лячу,
што бачу ў квецені нівы і плаўні
і з Кіевам стрэчы хачу.

Там, кажуць, найлепшыя ў свеце паэты,
там вечных сабораў зара.
Я, можа, сама, як чаромшына гэта,
трымчу да свайго кабзара!

На белыя ногі хай коціцца гравій —
дайду да ружовых мурoў...
У сэрцы маім не абсыпецца травень,
у сэрцы не сціхне любоў!

*1970*

## МАЙДАНАК

Вые вецер над майданам,
над Майданкам стылым.
Непрытульна заараным,
паленым магілам.

Пагарэлі, пасмылелі
валасы і косці.
Нават краскі абамлелі
ад людское млосці...

У бараку безвыходным —
газакамер пашчы...
У музеі — слова з родным
напісаннем: «Пашпарт».

Віцябляне, віцяблянкі,
землякі былыя,
і старыя паланянкі,
і зусім малыя...

Аж куды загналі каты
партызанскіх дзетак!
Не такія вокал хаты,
не такі палетак...

Я хаджу і ў сшытку значу
словы з літар ясных,
каб не бачылі, што плачу
па сваіх няшчасных.

Я на гэтым захаванні
за людзей канаю.
І здаецца, што змаганне
толькі пачынаю!

*1970*

* * *

Часы, што кроўю глебу росяць,
мінуліся, адгаласілі,
людзі гэтак вершаў просяць,
як хлеба некалі прасілі!..

*1970*

## ЛЕГЕНДА
## ПРА ПАРТЫЗАНСКУЮ РАСПІСКУ

Была вайна, партызаніў люд,
чыніў над фашыстамі суд
за спаленыя сады,
зняволеныя гарады,
за немату хат,
за смерць хлопцаў сваіх і дзяўчат...
Як і ўсе, не драмаў асіповіцкі лес,
меў да ворага інтарэс:
дзе ён ходзіць і дзе стаіць,
што будзе есці, што будзе піць.
Мо захоча грыбкоў, а ці ягад лясных,
а мо жалудоў стальных?!
За шыбамі вёска Зашыбіны ёсць,
няпрошаны там паявіўся госць:
«Пан камендант выдаў загад,
слухайце ўсе падрад!
Пан камендант любіць мяса баран,
вёсцы падатак падан, —
кожны тыдзень па сем авец
прывозьце ў цэнтр. На тым канец...»
На дзень па авечцы? Нішто рацыён!
І шашлычок яму, і булён...
Ох, зганяюць авечак, авечкі бляюць,
з-пад вінтоўкі іх аддаюць...
Была вайна, галадаў народ,
партызан у засадзе глыдаў чарот,
а ён жа работу цяжкую рабіў,
ён жа захопнікаў біў...
Пачулі загад дубы і альха,
дубы і альха шаляснулі: «Ха-ха!..»
І кожны, хто ў лесе пра чынш пачуў,
ў душы рагатнуў.
А больш за ўсіх камандзір Альхавец,
ён да вайны гадаваў авец...
У Зашыбіны едзе, авечак бярэ,
шпалерны кус на распіску дзярэ,
для «пана» свой дакумент выдае,

і душа яго ў рыфму пяе:
«Быў Альхавец, забраў сем авец.
Ды на тым не канец.
Яшчэ з'явіцца Альхавец!..»

*1976*

## НАДПІС
## НА КРЫЖАЦКІМ МЯЧЫ

«Trinken Blut...»[1] —
вось гэта зразумела,
і без перакладу адчуваеш,
як булькоча кроў з жывога цела
і душу ад цела адрывае...
«Trinken Blut...» —
праколатыя шлемы,
ды пустапарожнія кальчугі,
ды штандартаў ордэнскіх бярэмы,
ды крыжамі кутыя папругі.

Мёртвы ў гімнасцёрцы ці сярмязе...
«Trinken Blut» ці «Got mit uns» на дзязе...
Бачыць бы іх толькі у музеі
або ў звалцы перад Маўзалеем!

*1970*

---
[1] Піць кроў *(ням.)*.

## МЯДУНАЧКА

Прыйшлі жнейкі жаць,
Жыта дажынаць, —
Мядуначка!..

У жнеек сярпы блішчаць,
У жнеек твары гараць, —
Мядуначка...

Шалясцяць снапы,
Ідуць да капы, —
Мядуначка...

Не мачы касу,
Жнейка, аб расу, —
Мядуначка...

Ідзі дадому
Ды к маладому, —
Мядуначка!

*1957*

* * *

Мне, дзякуй Богу, ёсць каго спаткаць,
мне, дзякуй Богу, ёсць над чым паплакаць...
Стрыечную прашу ручнік саткаць,
перабіраны, у лісты і лапы.
Прашу другую хлеба напячы,
на лісцейку кляновым, парудзелым...
З дарункам-торбай на тугім плячы
лягчэй ісці прасёлкам пацяснелым.
Я вырасла вось тут, таму цяпер
куды лягчэй дарога хоць якая, —
пад бліскавіцамі, пад цветам бэр
і тая, дзе нікога не спаткаю...

*1970*

## ВЯНОК

Казалі, нібы ў квецені сасна
шумлівым дзецям дыхаць памагае...
Чаму ж цяпер не гэткая яна,
а скінула галлё, як нежывая?
Казалі, быццам белы цвет лілей
суцешыць сэрца хоць якія раны...
Чаму ж цяпер ён гулкі на стале,
нібы не стол, а гэты цвет — драўляны!..
З паперы перасушанай званкі,
якіясь надта яркія наготкі
жанчына вяжа мне за пятакі —
і кветкі шаргацяць, нібы бразготкі...
Бярэ ў кладоўцы выгнуты каркас,
зусім падобны на жывую ліру,
яшчэ нахіл да лапак і да крас —
і вось трымаю твор я гэты шчыры.
Бяру, нясу, пры мне мой сын малы.
На Фастаў адыходзіць электрычка...
Паўзуць мінуты, бы ў ярме валы, —
такая у мінут гаротных звычка.
Суседзі пазіраюць на вянок,
чытаюць надпіс на істужцы чорнай...
Чаму я не сказала васілёк
хаця б адзін уплесці сінязорны?
Не думала, што павязу такі
вянок у гэтым аксамітным маі...
Яго не аздабляюць васількі,
сінечу іх зямля ў сабе трымае...
Ну, што ж, падымем ліру, мой сынок,
і скажам, што умеем, на сустрэчы...
Нясём з малым па мосце свой вянок,
схіляе хлопчык худзенькія плечы.
Нясём цяжар да купы рослых дрэў,
нясём да агарожы прамяністай...
Хто скажа, што нас дзядзька не сустрэў?
Вунь ён стаіць у шлеме серабрыстым,
у плашч-палатцы скамянелай ён

і з аўтаматам, што з рукамі зліты.
Сагрэты сонцам векавечных дзён,
дажджамі векавечнымі абмыты...

* *

— Мой хлопчык, прачытаеш, дзе тут «Лось»
напісана на гэтай плітцы белай?..
Сын доўга прыглядаецца...
— А вось!
І пальчык прыпыніўся загарэлы...
— Ну, малайцом, сынок, што прачытаў.
Запомні добра гэтую мясціну...
Тут дзядзька твой калісьці паміраў,
вось аж куды дайшоў па Украіне...
Мо думаў, што не знойдзем, дзе ляжыць,
а мы знайшлі, даехалі памалу...
Яму яшчэ б, сыночак, жыць ды жыць,
зірнуць бы, які ты ў нас удалы...
Ён на плячах бы панасіў цябе
і даў бы кабуру ад пісталета...
Я мо загаварылася ў жальбе,
а хлопчыку ці добра слухаць гэта?
— Я, мамачка, аўтобус пагляджу! —
сказаў і паскакаў сабе на волю.
А я хаджу ля помніка, хаджу
і проста задыхаюся ад болю...
Чвэрць веку палымнее гэты боль
па страчанаму ў бітве чалавеку.
І зараз ад гамонкі гэтай соль
пластом бялее на маіх павеках...

* *

Але пастой ля помніка, сястра,
дастань які блакнот з дарожнай сумкі.
Няхай уласнай горнасці гара
не засланяе пра другое думкі.
Яна не пра другое — пра д р у г і х,
пра братавых вось гэтых а д н а з е м ц а ў:

«Ст. палітрук Галафееў Аляксандр Андрэевіч
Ст. лейтэнант Крывец Леанід Анісімавіч
Капітан Лук'янаў Пётр Сілівестравіч

Капітан Мірашнічэнка Васіль Іванавіч
Кам. роты Макрушын Савацій Іванавіч
Лейтэнант Лось Сяргей Якаўлевіч
Лейтэнант Даліхан Сяргей Максімавіч
Ст. лейтэнант Амараў Шабан
Тэхнік-лейтэнант Коцік Аляксандр Міхайлавіч
Лейтэнант Раковіч Георгій Данатавіч
Сяржант Арцёмаў Васіль Антонавіч
Радавы Арцюх Фёдар Андрэевіч
Радавы Будняк Сяргей Кірылавіч
Радавы Бойка Іван Кірылавіч
Радавы Багачоў Якаў Пятровіч...»

...Не слепні ўжо ад літар залатых,
не выпускай алоўкава бярвенца...

Па кветцы разабраць бы свой вянок,
рассыпаць тут — але ці будзе выйсце!
Перапісала я адзін слупок,
а іх такіх — чатыры на граніце...

* *

Браты, браты, запамінаю я
імёны вашы, блізкія цяпер мне!
Адзін быў брат, а склалася — сям'я.
Ды толькі мне яе ніхто не верне...

* *

Чаго дамогся крыважэрны кат?
Дамогся слёз сясцёр і матак хілых,
сцюдзёнага сіроцтва немаўлят,
жальбы жанок на папялішчах стылых.
Дамогся, што калелі на слаце,
але свой край сагрэлі майскім цветам, —
і вось жывём, і наша моц расце,
і гордыя мы крочым перад светам...
Я выціраю на павеках соль
і ў свет жыцця гляджу непалахліва...
Дамогся вораг, што жыве наш боль.
Затое наша бацькаўшчына жыва!

Адолее жыццё людзей-звяроў,
што кроўю братняй трызняць і сягоння!..
Няхай жыве цяпло маіх бароў,
Айчыны васільковае улонне!

*1969*

## АРМІЯ

Жыве ў душы святое слова,
між самых блізкіх як сваё.
Яго выкрэсвае падкова
і піша шаблі вастрыё.
Яго прачэрчвае бялютка
у сінім небе самалёт.
Яно з дымком, як самакрутка,
і з грукатам, як самаход.
На ворагаў, разгром зазнаўшых,
яно заўжды наводзіць жах —
і лашчыцца на гонях нашых,
на пераможных рубяжах,
праз леты бурныя і зімы
яно праносіць моц сваю.
Я слова роднае — «Радзіма»,
я слова «Армія» пяю!

*1970*

## БЫВАЙ, ЗАСТАВА!

Даўно чакае пераправа,
Сярдуе ў лодцы рулявы...
Бывай, зялёная застава,
Суровы бераг ветравы!

Бывайце, чулыя травінкі, —
Вам доўга слухаць неспакой.
І вы, дазорныя сцяжынкі
На бляклай водмелі марской!

Ужо з блакітнае дарогі
Гляджу туды, дзе ўсе свае.
І прагну сэрцам, каб трывогі
Не бударажылі яе.

Каб кожны, хто кране той бераг,
З травы расінкі страсяне,
Сам захліпнуўся ў хвалях шэрых
І апынуўся аж на дне.

Я дзён пагодлівых жадаю
Старой кантрольнай паласе
І юнакам, што пакідаю
Яе ахоўваць на касе...

*1963*

* * *

Сама адданая прыродзе,
каб з ёй дружылі ўсе — хачу.
З травой і лесам, на выгодзе,
я сына размаўляць вучу.

— Дзень добры, поле! — гавару я.
— Дзень добры, поле! — крыкне ён.
Ды скажа: — Грыб, цябе знайду я,
падай мне, кажа, лапу, клён!

Гавораць нівы, дрэвы, рэкі...
Прыміце ж да сваёй сям'і
яго, маленькага, навекі
хоць падгалоскам, салаўі!

*1970*

# ЗАЗІМАК

З паўночным ветрам, сіплым, золкім,
Румяны сам, у ботах белых
Рассыпаў шэрані іголкі
На лес маўклівы, амярцвелы.

Ступой юнацкаю, рашучай,
Як не хадзіла цётка-восень,
Прайшоўся па мастках рыпучых,
Глынуў дымку, дзе стыла восець.

А як зямля заснула ўночы —
Прыкрыў сняжком: хай не калее! —
Пасля ўжо й сам заплюшчыў вочы...
Мароз, а, бачыш, разумее...

*1957*

## ПЕСНЯ-ШЧАЎЛІНКА

Вось і шчаўлінка,
Вось і кіслая...
Я табе, мой друг,
Песню выслала...

Мая шчаўлінка —
З травастою.
Мая песенька —
З непакою...

Я за шчаўлінкай
Нахіляюся,
А ірву палын,
Памыляюся.

Ані конніка,
Ані коніка,
За табой пайшло
Нават сонейка!

*1967*

## ТЫТУЛ

Хоць і не сеем, і не косім,
але за шчасце — змагары...
І недарэмна тытул носім,
высокі тытул: песняры!
Мы ім не хвалімся ніколі,
з пашанаю нясём яго...
Вядома, каласіла б поле,
хоць зніклі б мы да аднаго.
Вядома, там герой — араты,
але гаворым мы яму
пра век наш, горды і крылаты,
пра долю — гордая чаму!
Нас добра людзі зразумелі,
таму ў дажынкавым вянку
і нашы словы засінелі
па васільку...

*1970*

## БЕЛАЯ РУЖА

Ружа белая,
Нясмелая,
Прыгажуня
Чыстацелая!
Ранкам срэбраная,
Росная,
Днём распушана
Пялёсткамі.
Вечарком
Нібы жахаецца, —
На замочак
Замыкаецца...
Ах, не рвіце
Ружу белую,
Ружу белую,
Нясмелую
А ні ўночы,
Як хаваецца,
Ні як ранкам
Умываецца!
Пачакайце,
Каб прыбралася,
Каб прыбралася,
Моцы-сілачкі
Набралася...

*1957*

* * *

Успамін, не кранай галінкаю,
Як іду я вясновым садам...
Успамін, не махай хусцінкаю,
Як страчаю цябе між прысадаў.

Не кідай да акна, калі зграбную
Бачу постаць другой дзяўчыны;
Не кранай ты мару прынадную
Смуткам-горыччу без прычыны.

Я галінку зламаю гонкую,
Я пакрыўджу сваю сяброўку,
Падзяру я хусцінку тонкую,
А слязе не паддамся горкай...

Завяду я сяброўку новую,
Я хусцінку другую накіну...
Ні зімой, ні часінай вясноваю
Без надзей не прыходзьце, ўспаміны!

*1957*

## РАЗВІТАННЕ

Я жыву за дажджом, за вясёлкаю,
Ты мне, Янаш, пішы;
За жытамі, за сінню прасёлкавай —
Ты мне пішы.

Будзе блага — прызнайся па шчырасці,
Зразумею заўжды.
Бо самой было цяжка мне вырасці
І пазбыцца бяды.

Будзе добра — крылатаю птушкаю
Навіна хай ляціць.
З навіною такой, як з падружкаю,
Мне лягчэй будзе жыць.

Я згадаю: над квеценню польнаю
Дзесь лунаюць арлы,
Гаспадараць там смелыя, вольныя
І стары, і малы.

Гаспадараць, працуюць суполкаю
Там, дзе зналі мяжу...
Хоць жыву за дажджом, за вясёлкаю,
Я табе адкажу!

*1961*

## ФІЯЛКІ

Уздоўж мяжы, дзе вартавыя
Пасталі сосны, як сцяна,
Растуць фіялкі палявыя —
Сама духмяная вясна!

У кветкавыя вачаняты,
Зачараваная, гляджу...
Іх топчуць толькі зайчаняты,
Калі ўцякаюць ад дажджу.

Над імі толькі дзятла лёскат,
Сунічка побач зацвіла.
І спачывае на пялёстках
Цяжкая дзікая пчала.

Вазьмі іх, любы, зберажы
Да новай стрэчы-мілавіцы!..
Цвітуць фіялкі, і мяжы
Вясна не мае на граніцы.

*1961*

## ПОМНІК

Князі, каралі будавалі палацы,
А гэты плебей з барадою аршыннай
Не бачыў багацця з нялёгкае працы,
Не меў збудаванняў прывабнасці слыннай.
А быў жа ён майстар, а быў адмысловы,
І каб даказаць, што абраз не даруе,
Ён князю прамовіў, бухмацячы бровы,
Што зараз жа ў пушчы ён штосьці змайструе...
Дванаццаць гадзін працаваў, як загнаны.
Прыладаю быў толькі склюд кантаваты.
І вынес ён з лесу свой дар абяцаны —
Дубовае кола
                        ў тры добрых абхваты!
«О, д'ябал! — спалохаўся князь. — Недаверак!»
«Ён з д'яблам сябруе!» — жагналіся служкі.
У майстра ляцеў ужо свечкі агарак,
Ляцелі пагрозы, каменне, мянушкі...
Нішто ўратаваць не магло бедака там!
Не ўважылі рук спрацаваных, абдзёртых.
Нічога не меў больш для доказу катам —
І майстра спалілі
За сувязі з чортам...
Чысцюткае неба над Чэхіяй гордай,
І попел кастроў пазмывала разводдзе...
На ратушы, быццам агромністы ордэн,
Вісіць тое кола, якому — стагоддзі!..
Да рэчы дзівоснай цікавасць не гіне,
У сэрцах да рук працавітых пашана...
Цікавыя помнікі ў вольнай краіне,
Дзе майстрава — майстру, а панава — пану!..

*1961*

## СВІЦЯЗЬ

Трушчацца пад абцасамі
крохкія жалуды.
Вербы сівымі пасмамі
горнуцца да вады.

Лодкі ўздыхаюць сонныя,
шэпчуць чароты ў сне,
рыбы іскрацца донныя...

Гэтак было ці не
той ноччу, калі азарылі
нябёсы чыёсьці сэрца
і ў белай сукенцы Марыля
выйшла ў сваё бяссмерце?..

*1966*

## ПУШКІНУ

> А беларусы нікога ж не маюць,
> Няхай жа хоць будзе Янка Купала.
>
> *Я. Купала*

Ты быў у нас тады,калі яшчэ нікога не было...
З'явіўся шмат пазней у нас Купала...
Узнёслай музы дужае крыло
яго запеўкі падтрымала.
Ты быў у нас тады, калі ў ярме стагнала Беларусь,
праехаў сумным магілёўскім шляхам.
Здаралася, ў гразі дарожнай груз
і меў спачын пад саламяным дахам...
Ты быў у нас тады, калі ішла дзятва
па кніжкі ў дом асветнасці вясковы.
Глядзеў дасціпна ў вочы з-пад брыва
з партрэта у вяночку дзеразовым.
Калі агнём заняўся небасхіл,
і край мой рабавалі цемрашалы,
і зацвітаў крывёю дзівасіл,
твой родны дом згарэў — і дом Купалы...
Вы як браты па песні і агню,
любоў мая да вас яшчэ не спета.
Ля лукамор'я вечнага сасню
натхнёны воблік знанага паэта.

*1970*

* * *

Мне добра, калі я адна,
адна ад цямна да цямна,
Я тады адчуваю паўней,
я тады разумею значней.
І «замкаў» тваіх не буру,
і нічога ў людзей не бяру...

Я жыву, калі добры настрой,
я люблю, калі добры настрой,
я пяю, калі добры настрой...
А добры настрой — жыццё,
а добры настрой — любоў,
а добры настрой — сам спеў,
такое замкнутае кола!

*1970*

* * *

Ні тумановых занавесак,
ні перашкодных раўчукоў...
Наведаюся да пралесак,
да сонных дзядзечак-смарчкоў!
Да цётак-елак на палянах,
да палахлівенькіх асін,
да ядлаўцоў, ад дыму п'яных,
і стройных мачтавых лясін.
Яны мяне заўжды чакалі
і абдымалі, як сваю.
На што я жалюся, пыталі,
пра што я, слухалі, пяю...
А я не жалюся, сябрына
мая купчастая ў бары!
Імчыць жыцця майго машына,
аж сонца цешыцца ўгары.
Што тая з ветру пацяруха,
што тыя купіны-карчы,
калі супроць іх — сіла духа,
непераможная, лічы!
Пралеска, ты пра гэта знаеш,
і да цябе знарок іду:
ты, кволая, перамагаеш
навалы снегу і ільду.

*15/IV 1972*

## АДРЭЗАК

Ад 45-га
да 75-га
хапіла хвалёнага,
хапіла праклятага...

Якое жаданае сонца ўставала!
Якую пустэльню яно саграВала!
Якою журбою гулі берасцянкі!
Як густа ў лясах зарасталі зямлянкі!

Хвалілася мова ступенню вышэйшай:
калі ўжо калгас — дык ён быў найбяднейшы,
калі ўжо чарга — найдаўжэй перад крамаю,
калі ўжо яда — дык нішчымная самая...

Ад 45-га
да 75-га
хапіла нам беднага,
хапіла багатага...

Край быў на ўдовы, сіроты багаты,
на скараспелыя кузні і хаты,
на цягавітыя бабскія сілы
і на бяспомнікавыя магілы...

Бабы ўпрагаліся ў плуг непакорны,
бабы травой харчаваліся чорнай...
Помнікі, помнікі, горкая замець,
над курганамі плакала памяць...

Ад 45-га
да 75-га
хапіла трывання,
як провад, напятага,

каб сходаць «багацце», што горш за праклянце,
каб кожнай дзяўчыне саткалі на плацце,

каб спорна гулі «Беларусі» маторы,
а край наш быў бедны толькі на гора!..

Ад 45-га
да 75-га...
Колькі харошага,
колькі ўзнятага!

Хваліцца мова ступенню вышэйшай:
калі калгас — дык найбагацейшы,
калі завод — дык вельмі славуты,
калі ўжо спеў — дык светам пачуты!..

У крамах тавары — такія расхожыя,
у хатах нашчадкі — такія прыгожыя!

Наша надзея — на сэрцы высокія,
і на зямлю, і на зоркі далёкія.
Мы захапляемся самаю блізкай:
Зоркай Героя роднага Мінска!

*1976*

## ЧАТЫРЫ ЛІСТКІ

### *1. Хвіліна*

З часоў Рамэо і Джульеты
яшчэ славуты гэты трон —
да ночы сонейкам сагрэты,
у венчыку з плюшча балкон.

Благаслаўлёная мясціна,
найлепшая, што здолеў свет!
Адна сутонная хвіліна —
і ты на выступ ставіш кед!..

І я сябе не прыкмячаю,
а бачу толькі твой загар.
Я пачуццём цябе вянчаю,
мой смелы і прыгожы цар.

І рада, рада цараванню,
хвілін гарачых чарадзе,
уся падданая каханню,
што, ўлады прагнучы, ідзе...

### *2. Даўні санет*

Мая любоў, так многа ў свеце злога...

*У. Шэкспір, 22-гі санет*

Мая любоў, так многа ў свеце злога...
Дрыжу, каб не спалохала цябе
ні звада, ні благая асцярога,
ні крук сумнення, сэрцы што дзяўбе.

Цяпер гавораць —
гэта біятокі,
што да душы прасцерлася душа.
Мая любоў — не мелката затокі,
і на яе не знойдзецца каўша,
што вычарпаў бы, на спадзеўку злому,
на засмучэнне любай дабрыні...

Мая любоў ідзе ка мне — дадому,
імчу на крокі ў летняй цішыні.

Маё каханне,
смела адкажы:
што нам усе зласліўцы і ханжы?!

*3. Цяжэй за ўсё...*

Цяжэй за ўсё чакаць каханых,
ускідвацца на кожны ўзмах
галінак, ветрам абдыманых,
на кожны шолах у лістах...

Душа ад радасці зайшлася,
у дзверы ты жвавей за лань...
Цень дрэва постаццю здалася,
і толькі ноч, куды ні глянь...

Гарачых рук, усмешак мройных
яснотаю не прывітаць.
І томік вершаў неспакойных
ужо не хочацца чытаць...

*4. Люблю любоў*

У дні кахання і глядзіш мілей,
і не пакрыўдзіш нават мураша...
Люблю любоў за тое, што дабрэй
з ёй робіцца удзячная душа.

*1975*

## ДЗІЎНАЯ

Дзіўная маладзіца, —
хіба не страчалі гэткай?
Маленькая,
як рукавіца,
і стройная,
што статуэтка.

Звязала жакет з махеру,
з ружовага пуху-духу,
і ззяе на ўсю кватэру,
на восеньскую пацяруху!

І кожны дзень — па здарэнню!
Суседцы сваёй пакажа,
як лепей зварыць варэнне,
з патэльні адчысціць сажу.

Другую надзеліць гадзінай,
коўдру пашыць навучыць...
Урадзілася ж гэткай дзіўнай,
пражу няўмецы сучыць...

Дзіўная! —
вершы піша,
Дзіўная! —
вершы хваліць.
Камусьці дзіця калыша,
камусьці качара смаліць...

Дзеліцца лустай і грыўняй,
а з госцем —
звонкай дамоўкай...
І хваліцца муж не дзіўнай —
дзівоснай сваёй сяброўкай!

*1976*

* * *

Зеляніну не пакіну,
не пакіну шчэць травы...
Над усходамі пастыну,
каб быў парастак жывы.

Ты расці, расці, зярнятка,
вышай лесу, вышай гор,
вышай статка ў лузе гладкім,
вышай мачтавых апор!

Ты расці; такая ціша,
столькі сокаў для цябе...
Ветрык ніву пакалыша,
красы жыта падграбе...

Ніва стане залатою,
жоўтай стане — і яе
не пакіну ні слатою,
ні як сонейка пяе...

*1975*

* * *

Калі ганчар пускае з круга
па-людску зроблены збанок, —
яго страчаюць, нібы друга,
і ўсё сяло —
яго куток.

А у нядзелю ўзбоч базару,
сярод зялёнае травы,
растуць смуглявыя,
бо з жару,
у рад гліняныя грыбы.

І майстар тут жа сівабровы,
ён не хаваецца дарма.
Чаго там —
гладышы здаровы!
Гаршкоў надтрэснутых няма.

Даюць ім людзі пстрычкі ў бокі.
Яны гудуць на ўсе лады.
Ото гарлачыкі,
няўрокам!
Ото гарнушкі,
хоць куды!

Смяецца майстар.
Ён багаты.
Не так грашыма, што даюць,
як тым,
што ўсе яго гарняты
вось так малінава гудуць!

*1976*

## РАСКАЗ ТАРВЫ

Каторы раз бяруся за пяро,
каб слова «дружба» вывесці ярчэй!..
Мой друг Тарва прыехаў з-за мяжы,
мангольскі стэп у роскасі вачэй.

Мой друг Тарва трымае парасон,
нас добра хрысціць лівень малады.
Успомнілі знаёмых там і тут
у часе нашай па садку хады.

— А ведаеш, аднойчы як было?
Нас пасялілі, чатырох дзядзькоў,
на ноч адну ў пакойчыку адным,
нас — з чатырох аддаленых бакоў:

індус, кубінец, немец з ФРГ
і я, мангол... Ты можаш уявіць?
Усталі ранкам гэтакай сям'ёй,
а як нам і пра што пагаварыць?

Зірнулі мы адзін на аднаго
і разам засмяяліся, сябры!..
Я не сказаў, што ўсё гэта было
у Пушкінскім — Міхайлаўскім бары...

...Каторы раз бяруся за пяро,
каб смех мужчын так апісаць ярчэй!
Мой друг Тарва сціхае, а ўспамін
усё лунае ў роскасі вачэй...

*1977*

* * *

Гады́ жывуць у чалавеку,
нібыта ў яблыку крутым...
Не плач па сакавіцкім веку,
не плач па чэрвеньскім густым...
Тады — цвіло,
тады, брат, — спела,
у сонца колер беручы.
То пышным лісцем шапацела,
то плодам падала ўначы...
Было і застанецца дзівам
для роздуму і пачуцця, —
і сувязь завязі
з налівам,
і сувязь смерці
і жыцця...

*1971*

## НА ДЗЕДАВАЙ ЗЯМЛІ

На дзедавай зямлі, сынок,
надзіва сінія азёры,
сасновы бор, нібы званок,
у небе звоніць век каторы.
Бярэзнік тонкі па лужку
бяжыць, каленямі бялее,
і зоркі сыпяцца ў раку,
як зерне, што дзядуля сеяў...
На гэтай казачнай зямлі
цяпер дарогі параўнелі,
пакаласісцелі палі
і перапёлкі пасытнелі.
У нашым баравым краі,
дзе ў бой хадзілі партызаны,
пяюць пра шчасце салаўі,
цвітуць чаборамі паляны.
Да госця з кожнага двара,
што тоне ў бэзавым тумане,
бяжыць насустрач дзетвара —
бялюсенькія ушачане!..

*1970*

## МІНСКІ ЗВОН

У парку — праталкі,
над лугам — імгла,
яна ахінае валы і канавы...
Такая, напэўна, у Менску была,
калі бушавалі дружыннікаў лавы.

З туману такога на лютым кані
наш прашчур-юнак вылятаў пераможна...
Адвечнае ўлонне, сынок, барані,
калі палыхнуць далягляды трывожна...

А покуль расці, за шчаслівай парой,
не бойся туманаў бялявых і лужын...
У нас нездарма кожны воін — герой:
тут ступіш —
і меч зазвініць харалужны...

*7/IV 1972*

## БЯРОЗА

Сагнулася над шумным бальшаком,
завеяная пылам і пяском...
Ні белае кары, ні тых кучар,
што лічацца увасабленнем чар.
Ад ветру захінаецца галлём,
якое ўжо ўяўляецца гальнём...
Але ж яе ніхто не абмінаў,
калі свой дом надоўга пакідаў.
Хто закурыць хацеў на бальшаку,
дык вешаў кайстру на яе суку.
Хто ў час расстання смяг, таго яна
сваім паіла сокам з стаўбуна.
Хто аглядаўся на свой кут здалёк,
запамінаў яе, нібы урок
айчыназнаўства...
Няпраўда, што салдаты ў снах сваіх
глядзяць адно на стройных, маладых!..

*1970*

## УСПАМІН АБ ЛЕПЕЛЬСКАЙ ДАРОЗЕ

Зімой сляпіла завіруха,
улетку ногі сек жарсцвяк.
Ішлі імжой, ішлі, як суха,
калі пад'еўшы, калі — так...
Ішлі натхнёныя дзяўчынкі
дарогай ранішняй зары.
Вятры трапалі іх хусцінкі,
туліў ад веі бор стары.
Яны вясёла гаманілі
на першых вёрстах дваццаці,
хаця нічога не ўлучылі
і не спазналі у жыцці.
Апроч бяды, вайны гарачай,
што іх, як кветкі, апякла.
Дарожанька, пасля бядачай,
у міры — першаю была.
Вяла да кніжчынага свята,
таму й сама была святой, —
хоць падбіваліся дзяўчаты
дзесь на вярсце саракавой...
Цяпер па ёй не ездзяць многа,
бо лічыцца, што лішні круг.
З Ушач да Лепеля дарога
даўно раўнейшая, мой друг.
Імчыш ты ў свет на шпаркіх колах
асфальтаванаю шашой!
А я усё іду, наўкола,
са спадарожніцай-сястрой...

*1970*

## ГАТОЎНАСЦЬ

Не ўсім жыццё — як ветравейны май,
і кажа часам слабы:
«Падтрымай!..»
І слабага няцяжка падтрымаць,
яму на плечы лёгкі груз падаць.
А вось калі гукае не слабак,
а той, хто ўжо адужаў шмат атак
на сэрца, на сумленне, на хаду, —
я да таго да першага пайду
і падтрымаю! Вось мая рука
для сябра — носьбіта і хадака...

Падтрымліваю зерне, каб расло,
падтрымліваю сонца, што ўзышло,
падтрымліваю сілу талакі,
што шар зямны трымае пад бакі
і прыпыняе смуту і разбой,
каб вечны быў на шары тым спакой!

*7/IV 1972*

## КЛЯНОВАЕ ЛІСЦЕ

Кляновае лісце Канады,
якімі вятрамі
прынесла цябе у мой горад,
які за марамі?
За акіянам мой горад,
за безліччу межаў,
за гаманою і татраў
і белавежаў...
— А мы, — адгукаюцца госці, —
зусім не лістота,
бо маем мы сэрцы, а ў сэрцах
ласкавасць і цнота.
У сэрцах — любоў, праз якую
з чужынай не ўжыцца,
яна чырванее у кожнай напружанай
жылцы...
Усплёскі далоняў-лістоў мне гавораць,
як рады
сустрэчы з бацькоўскай краінаю
госці з Канады!
Калісьці бацькі падаліся ў Канаду
па долю,
там выраслі дзеці, чужыя ўздзіраючы
ролі...
Ім люба вадзіцаю свіслацкаю
прычасціцца,
да мінскае цёплай зямелькі
шчакой прытуліцца...
Кляновае лісце ўзлятала да зорак,
да грому,
кляновае лісце імчала дадому,
дадому...

*1970*

* * *

Іншыя нацыі
любяць авацыі
іхняму быту,
іхняму спрыту,
іхнім рукам,
іхнім шынкам...

А мы, з Паднямоння,
сціпла гамонім
пра тое, што ўмеем,
як люта гібеем
на скрыжаванні
                    ваенных дарог
і трацім адно — з чатырох...

Не ўмеем мы піць,
не ўмеем хітрыць,
не ўмеем мы грошы
                    рабіць...
Мне даражэй за авацыі
належаць да гэтае нацыі...

*21/VII 1971*

## СВОЙ КУПАЛА

У кожнага — свой Купала...
У мяне ён — само Купалле,
само неўміручае свята
песень,
кветак,
кахання,
кастроў...

У кожнага — свой Купала...
У мяне ён — само змаганне,
сама неўміручая прага
свабоды,
годнасці,
праўды,
сяброў.

Мае трывогі — Купала
і перамогі — Купала.
Маё трыванне — Купала,
маё шанаванне — Купала...

Маёй куванне зязюлі,
майго кананне татулі.

*1972*

## ЛІТОЎСКІ ХЛЕБ

*Віліі Шульцайтэ,*
*аўтару зборніка «Жменька кміну»*

«Жвярынас» — звярынец,
«Кмінас» — кмін...
Сказаў беларус
ці прамовіў ліцвін?

Віецца Вілейка,
плыве ў Вілію.
Віліяй клічуць
сяброўку маю.

Літоўская хмарка
да мінскай імкне.
Вілія хлебам
частуе мяне.

Пад дождыкам спорным
дыміцца ралля.
Дужа салодкая
ў хлеба кісля!

Над Востраю Брамаю
чуецца сем.
Хлеб з кмінам духмяным,
як з голаду, ем!

Не дома пяклі,
і завецца не так,
а дужа знаёмы
у хлеба смак!

*1970*

## ПЕРАДАЙ...

У вянку з разнатраўя —
зіхатлівая Гаўя...
     Перадай прывітанне!

Неламаныя сосны
раскашлацелі ў вёсны —
     Перадай прывітанне!

А зламалася крыга —
надышло свята «Ліга»...
     Перадай прывітанне!

Замак Крустспілса ўночы,
закаханыя вочы...
     Перадай прывітанне!

Не забыць, не забыла,
што мне ў Латвіі міла...
     Перадай прывітанне!

*1969*

## ГОРДАСЦЬ

Дружбай вялікаю сэрца багата,
песню пра дружбу званчэй запявай!
Славіць душа украінскую хату,
славіць таджыкскі карнай.

Мне гладыёлусы ў Рызе дарылі,
ў новым Ташкенце садзілі за стол.
Горы і моры са мной гаварылі,
цешылі ўтулкамі аазіс і мол...

Кожнай праявай любві ганаруся...
А сустракалі усюды з душой
толькі таму, што дачку
Беларусі
бачылі людзі ў сяброўцы сваёй!

*1970*

## МАЯ ХАТЫНЬ

Апошні раз прабомкаюць званы,
і нанач іх адключыць вартаўніца.
У цемрыве заціхнуць каміны,
і, можа быць, ім лёгкі сон прысніцца...
Калі яны сапраўднымі былі,
а не з бетону, мешанага крута.
Калі яны купаліся ў галлі,
садоў высокіх над пясчаным кутам.
Калі знаёмы быў ім тонкі пах
мачанкі сытнай, бохана пячнога
на лапчатых, з пражылкамі, лістах...
Ну, словам, калі комін значыў многа
і быў адзнакай цёплага жыцця, —
пры спелых каласах, янтарных сотах...
Яго здалёку бачыла дзіця
і пазнаваў бацян у алых ботах...

* *

А мне начы не трэба — лепей днём
я у людзей харошых пагасцюю.
Пабачу дзеда з даўкім тытунём
і дзедаву бабулю клапатную.
Спытаю ў маладзіцы сакаўной,
ці шчасная з сваім русабародым.
Бо што і гаварыць: вайна вайной,
а жыта сей і не ўракайся родаў!..
А ў іншай і пытацца — лішні груз,
давольная сабой і чалавекам:
грызе скарынку сёмы карапуз,
і разумееш — будзе чалавекам!
Вядуцца людзі — і няма граху,
у невялічкай вёсцы — душ пад дзвесце.
У кожнай хаце ёсць па жаніху,
у кожнай — па ружовенькай нявесце.
Жаніх — пушок нясмелы на губах,
яе касой аздоблена галоўка.

Здарожаныя, недзе у грыбах
яны пацалаваліся нялоўка.
А брат-падлетак, Пётра ці Адась,
вядома, падглядаў за дзеяй тою.
«Скажу вось татку — замуж не аддасць!..»
Ну, што рабіць з цікаўнай драбнатою!
«Цікуеце, як зайцы, з-за кустоў», —
падлеткаў Мані, Соні дакаралі.
А тыя ўжо далёка ля платоў:
«А нас на вечарынку не пускалі?!»
Падлеткі, аднагодкі... Тут іх шмат,
ім па трынаццаць, як і мне калісьці, —
зняможанай пакутніцы блакад,
дзе ад страшэннай смерці — ані выйсця.
Нам так расці хацелася, гуляць,
каб не баяцца смерці хоць бы дома,
чырвоны гальштук горда завязаць
і кніжку на траве чытаць да стомы.
Дзяцінства, абабранае вайной,
знявечанае страхам, напаткала.
Балюча мне перад маёй раўнёй:
за што вайна падлеткаў пакарала?!
Яшчэ пра гэта — трошачкі пазней...
Цяпер я — на сустрэчы з першай хатай
Хатыні тыннай, мацеркі людзей,
ніякай гучнай славай небагатай.

* *

Калі ісці ад плешчанскай шашы,
то першай будзе хата кавалёва...
Куе каваль абоддзе і каўшы,
куе ён полаз і нарог сталёвы.
Патрэбны жорны, саматужны млын,
дзін-дон! — і вобат хораша прыгнаны.
Па хлеб прыедзе з гулкіх баравін
сябрына кавалёва — партызаны.
Надзейна ў кузні коней падкуюць,
папрвяць збрую, зброю перагледзяць.
Дачцэ Ядвісі песень напяюць,
ажно яна зажурыцца на следзе.
Настаўніцаю вырасла дачка,
адукавала родная улада.

Не да ляснога дзеўцы буданка:
хатынская дзятва — яе брыгада.
Ядвіся навучае малышоў,
хоць трэці год навокала фашысты.
З навукай простай верасень ішоў,
за ім ішоў Кастрычнік урачысты...
Ні сшыткаў, ні кніжок — адно бяда,
забыліся і пра званок вясёлы.
Але расла лясная чарада,
сваё казалі ёй лясныя школы!
Матуля, татка, брацікаў аж тры...
Журботныя ваенныя дзяўчаты!
Усё ж няясна, што ні гавары,
кім будзеш ты сустрэта, як узята.
А мо даўно засыпаны пяском
адзіны твой хлапчына яснавокі?..
І пойдзеш паланянкай бальшаком
туды, дзе грукацяць чужынцаў крокі...
Я помню, як хацелася старэць
дзяўчатам у гады ліхой навалы.
Калечылі сябе, абы не мець
красы, што і чужынцы заўважалі.
Да броў хусцінка, на плячах рызман,
на ножках — пасталы ці тыя ж лапці...
Ішлі красуні ў лес, да партызан,
там красавалі ў даваенным плацці...
Пра подзвіг зброі, вернасці, радства
усімі намі сказана нямала.
Дадаць не грэх пра подзвіг хараства,
што перад ворагам само сябе хавала...
Ужо вітаў жаўрук азіміну,
ужо бубнела рэчачка крутая.
Сваю, як сон, дваццатую вясну
Ядвіся на парозе сустракае...

* *

Хачу «зайсці» да іншых з ладных хат —
і не магу... Бо ў гэты самы момант
пачулася мне: бразнуў аўтамат
і на парозе вырас нерухома
зладзейскага аблічча ваяўнік...
Загергетаў, ашчэрыўся на бацьку.

А з вуліцы ўжо чуўся немы крык —
у лужыне крывавай плаваў дзядзька...
З усіх канцоў Хатыні гналі люд,
крычалі дзеці, маткі галасілі.
Ніхто не знаў, дзеля якіх пакут
карнікі іх вёску акружылі...
Фашысты ў кузні бацьку данялі:
— Бандытаў бачыў?!
— Не, былі тут людзі...
Ажно пахаладзелі вугалі:
калі былі, дык больш людзей не будзе!
Дык будзе «мёртвай зонаю» зямля,
што ўзгадавала сейбітаў і цесляў
і гэтага асілка-каваля,
якога кат паглядам перакрэсліў.
Не будзе матак, дзетачак жывых
і блізкіх мне падлеткаў хударлявых,
а будзе дым, агонь ды косці іх —
і кроў на замазучаных халявах...

...Я з пуні, як хатынская была,
ледзь выбралася некалі на волю.
У нас тады вясенка адгула,
жаўцела ў нас тады, здаецца, поле.
Не з хаты, праўда, гналі бедалаг,
а вылавілі ў лесе на дасвецці.
Дзядзькоў са два, жанчыны ў пасталах,
а болей мы, спалоханыя дзеці.
О як было нам жудасна ісці,
кідаць пад аўтаматамі палянку!..
Хацелася ў зямельку урасці,
абы не бачыць свастыкі на танку.
Быў допыт перад тым, як зачыніць
у старынской будыніне ўцалелай...
А што было кабетам гаварыць,
ачэпленым дзятвою анямелай?
Дзе партызаны? Партызаны — мы.
Хто сем'і партызанаў? Мы таксама...
А за ляском курэліся дымы,
і нас сустрэла незвароту брама...
Заперлі, завалілі бервяном...
«Запаляць, людцы родныя, бывайце!..»

Я чую звон над шэрым камінoм...

Звяры, звяры, хоць зараз не страляйце!
Прарваўся хлопчык з полымя! Як мог,
пабег да лесу, там жа паратунак...
Чаргою кулямётнай збілі з ног...
Бандыты, прадаўжаючы рабунак,
не ўгледзелі нібы, што з пуні той
і нехта большы вылецеў, як куля.
Гарыць на ім адзежа карыной,
а ён сігае, каб не дасягнулі!
Каваль Камінскі?! Выцялі, аж жах,
як мёртвага, турнулі на асокі...
А ўжо над пуняй абваліўся дах
і шуганулі іскры пад аблокі...
Ачнуўся чалавек сярод куп'я,
падняўся з енкам, хоць дрыжалі ногі.
І чуе голас:
— Тата, гэта я...
— Сынок, Адаська!..
Хлопчык басаногі
за шыю ашчапіўся і спытаў
пра маму, пра Ядвісю, ці жывыя, —
і тут жа хліпнуў, дыхаць перастаў,
абвіслі ручкі на руках худыя...

Татуля вынес мёртвага на свет...

На п'едэстал паставілі абодвух...

Глядзіце, бацька, воін і паэт,
хай сэрцы скаланае медны водгук!

* *

А нас не падпалілі ў Старыне...
Падпальшчыкаў саміх жа пеканула
з «кацюш» савецкіх, і ў глухім акне
праменнямі свабода нас кранула.
Да нас паспела Армія, быў год
сорак чацвёрты, а не сорак трэці...

І чутку пераказвае народ, —
то прападзе яна, то зноў ускрэсне:
нібы праехаў каля нас тады
якісьці важны генерал нямецкі...

Нібы ён сам спужаўся той жуды,
што напаткала гэты кут савецкі.
Нібы яго даняў хаўтурны звон
са спаленых навокала паселішч,
з маіх зямляцкіх непакорных зон,
што й гібеллю нагадвалі пра веліч
ахвярніка-народа, змагара,
адданага ў нядолі нечуванай...
Спыніў ён факельшчыкаў ля кастра,
хоць быў апал з людзей нарыхтаваны...

Чытаю пліты я хатынскіх хат...
Юзэфа, Лена, Ліна, Косцік, Коля...
Па сем, па дзесяць родных слоў падрад —
аж сэрца захлынаецца ад болю...
Стаю... Як кажуць, не мая віна,
што бачу вось «вянец» замест пуні
і што на плітцы каля каміна
прапушчана маё найменне — «Дуня»...

Вітаю бацьку мужнага свайго
і ў хаты ўсе «заходжу» па парадку...

Не веру я ў «збавіцеля» таго,
а ў пралетарскіх веру я нашчадкаў!
У тых, што сёння, як свае, жывуць,
ідуць да нас з вяргіняй, а не з мечам
і ўсе імкненні сэрцаў аддаюць,
каб спраўдзіцца надзеям чалавечым.

* *

— Былі тут немцы, моладзі касяк,
са мной яны віталіся гарача...
Хто разважае тут спакойна так,
хто сёння у Хатыні не заплача?
Дык гэта ён прыйшоў, як лунь сівы,
блакіт вачэй з-пад стомленых павекаў...
Не пахіліла гора галавы...
І чалавек — і помнік, рэдкасць века...

— Як маецеся, дзядзька дарагі?
— Ды так сабе, хаджу сюды, гукаю...

Нікому б не спазнаць маёй тугі,
добрых людцаў шчасце хай спаткае.
— Трымайцеся, вам цяжка спагадаць,
перад нядоляй вашаю нямею...
І бацяноў тут нешта не відаць...
— Якія бацяны? Іх дым развеяў...
Да дзядзькі, хвілі ўдзячны, збегся люд,
на успамін здымаюцца з Камінскім...
А вечар абхінае горкі кут,
і светла зззяе зарыва над Мінскам.

*1970*

## ВЁСКІ, ЯКІЯ НЕ ЎСТАЛІ

Вы не бачылі вёсак, якія не ўсталі
з вайны?
Па ўсёй Беларусі, па ўсёй Беларусі яны...
Вы мне скажаце — а на што глядзець,
калі ўвосень там — адно лісцяў медзь,
калі ўзімку там — толькі ветру плач,
а вясной дзярэ сваё сэрца драч...
Лета роснае па зямлі ідзе,
лета радасці за руку вядзе:
пах язмінавы, пах малінавы,
цень карункавы, свет бурштынавы.
Лета сцеле дыван з травы...
Для каго дыван, хто жывы?!
А нікога жывога тут,
зараслі мясціны пакут...
Назва простая на слупку,
пыл гарачы на бальшаку...
Ой, вандроўнікі родныя, ой, ведуны,
запішыце ў даведнікі вёскі,
якія не ўсталі з вайны!..

*21/VI 1972*

* * *

*Г. М. З.*

Сумныя весткі маркотаю поўняць,
сумная просіць душа аднаго:
не памірайце тыя, хто помніць
друга пяхотнага, брата майго!
Вы з ім хадзілі, вы з ім сядзелі,
разам капалі акопы ўначы.
Вы ў яго чыстыя вочы глядзелі,
ляпалі, можа быць, па плячы.
Помніце, як ён лагодна ўсміхаўся,
добры які і спагадлівы быў!
З вамі адным шынялём накрываўся,
боты вялікія вашы насіў...
Горам сваім у хвіліны зацішша
з вамі дзяліўся браток малады.
Родным трохкутнік салдацкі напіша,
а каб паслаць — невядома куды...
Сніліся бацька, і маці, і сёстры
у кайданах, у навале дымоў.
Мераў юнак невярстаныя вёрсты,
прагнуў прыйсці з вызваленнем дамоў.
«Вось дзе памерці прыйшлося...» —
здзівіўся,
духам апошнім браток прашаптаў...

*1972*

## ЖЫТА

Нас пасадзілі, як кажуць, на колы
і — у глыбінку, у ніўны раён, —
каб не забылі сялянскае школы,
добраму жыту аддалі паклон.
Каб прыгадалі, што жыта красуе
над камяністай калыскай сваёй,
кожнага бачыць і кожнага чуе,
хто тут з цяжкой ці парожняй сяўнёй...
Перад зялёнай сцяной талакою
сталі — ад шчасця аж дух заняло:
не, не патопчам мы жыта, якое
кожнага з нас
перарасло!..

*20/VI 1972*

* * *

Чаго ні давялося перажыць,
а я жадаю аднаго — любіць!..

Любіць зямлю, лясы і сінь вады,
любіць адной або з табой — заўжды.

Любіць бярозу, вольху і сасну
за тое, што хавалі у вайну.

Любіць будоўлю, кузню і тартак
за тое, што свае, — і проста так.

Любіць таму, што страчана зашмат
паспелых каласоў і цёплых хат.

Любіць таму, што хлопцы ў небыцці,
якіх не цалавалі пры жыцці.

Любіць таму, што хлопчыкі растуць,
якім любоў патрэбна удыхнуць...

Я гавару — любіць, пяю — кахаць,
каб днём апошнім не пашкадаваць

самой любві, што дзеля трат жыла,
а я яе чамусьці берагла...

Кахаць цябе істотаю жывой
за словы позднія: «Цяпер я твой...»

*1970*

## НА МАГІЛЕ
## БАЦЬКІ МІНАЯ

Яго імя гудзе барамі,
яго віталі, як зару...
Я кветкі з белымі махрамі
кладу герою, змагару.
На Вазнясенскай горцы гнуты
дубняк гадуе жалуды...
Кладу я кветкі — за пакуты
і скаланаюся з жуды.
І слава месца саступіла
пакутам бацькі... Ён не мог
ні ўласнай мужнасцю, ні сілай
скрышыць той крыжавы астрог,
дзе забывалі вочы кветак,
дзе чорны воран не трываў.
Уратаваў ён сотні дзетак,
а вось сваіх — не ўратаваў.
Не мог... І быццам звоняць путы,
і кат страляе ў непасед...
Кладу я кветкі — за пакуты,
хай не чарнее белы свет...

*1970*

## НА ВЯСЕЛЛІ СЯБРОЎКІ

Пахарашэла ў вэлюме галоўка,
паглыбіў вочы натуральны грым...
Даруй за слёзы, мілая сяброўка,
на свяце белакіпенным тваім!

Я не хацела — падвялі музыкі,
ім хоць бы што, абы гула дуда.
А што кагосьці жаль узяў вялікі,
дык гэта на вяселлі не бяда!

Зашкадавала я наіўных вочак,
тваёй пасцелі роднасную гладзь...
Зашкадавала банцікаў дзявочых,
якіх ужо табе не завязаць...

Была даніна добраму і злому,
што на ўспамін пад музыку прыйшло.
І быў тут жаль па ўласнаму былому,
якое ад пачатку падвяло...

Не падвяло б цябе, мая пяюха!
Малодшая, ты мне нібы дачка...
Глядзі, ужо заплакала свякруха,
шкадуючы для прышлае сынка...

А мы бадзёра скажам: гэта шчасце
пачуцці выяўляе на людзях!
І хай жыве ружовае прычасце,
а месца жалю — на маіх шыпах!

*27—29/VIII 1971*

* * *

Пры бяседным інтарэсе
чарку падымай.
Нешчаслівай паэтэсе
шчасця пажадай.
І вядомая прычына,
што няма дабра.
Зажурылася жанчына,
бо прыйшла пара...
Разумней нібы жывецца,
багацейшы слых.
І, як помнікі, у сэрцы —
вобразы жывых...
На паўдзённым на папасе —
збітая раса.
Не заўсёды ў аднасчасе
розум і краса...

*1971*

## КНІЖНЫ БАЗАР У ПОЛАЦКУ

Напырскала кропель прыгоршчы,
нагнала няпрошаных хмар...
А ў горадзе — свята на плошчы,
скарынінскі кніжны базар.

Сабраліся ў круг палачане,
найчыстыя людзі зямлі,
і пляц засланілі плячамі,
і кроплі ад кніг адмялі.

І я свае вершы чытаю
для шчырых сваіх землякоў.
І я перад тым расцвітаю,
хто чуе мяне з-за вякоў.

Вы чуеце, дзядзька Скарына,
вы бачыце свята Дзвіны?
Імя найвялікшага сына
мае паўтараюць сыны.

І мудрасць, што ў прытчах сакрытай
прыйшла з яго ласкі дамоў,
раскрылася ўсім паспалітым
у тысячах вольных тамоў!

*24/VIII—19/X 1972*

## ПАМЯЦІ ЯНКІ МАЎРА

Паміраюць палескія рабінзоны,
першапраходцы і адкрывальнікі,
спрадвечныя, нібы ў пушчы бізоны,
скарбаў нашых стваральнікі
і ратавальнікі...
Яны нам вочы на свет адчынялі,
вабілі далеччу, фарбамі, гукамі.
Каб лятала,
угору нас падкідалі,
каб грэліся, птушанят
на далонях ху́калі...
Вучылі: свет — не гушкі-гулюшкі,
дужыя трэба мору і сушы...
У краіну райскае птушкі
адлятаюць высокія душы...

*19/VIII 1971*

* * *

Ці дачакаюся, сынок,
тваёй любві асэнсаванай!..
Але і сёння рады зрок
тваёй пяшчоце нехаванай.
Калі пяцёрачку нясеш,
калі малюеш мне карцінку
і на далоньцы падаеш
сваю з каробкі вітамінку...
Да ўсіх ты горнешся, як свой,
але, калі прысніцца драма
з ваўкамі, тыграмі, стральбой, —
адно я чую ў цемры: «Мама!..»

*1971*

* * *

Дзіўна, як набліжаецца момант святы,
калі раптам адчуеш гатоўнасць да працы,
калі ўсе перашкоды, як тыя драты,
абарваны — і можаш наперад падацца!..
Я да сшытка свайго, як на танцы, спяшу,
чую музыку, пекнасць сваю адчуваю, —
зараз выкажу, выпею сонца-душу,
зараз страты пахмурных часін навярстаю!
Маё сэрца пра ўсё, чаму рада, пяе,
і здаюся я дрэўцам з бялюткай бяростай...
Як на танцах, дзе ўсе кавалеры — мае,
а сама іх партнёрка, крылатая проста!..

*1970*

## ЛЕСІ УКРАІНЦЫ

Я з тых мясцін, дзе жыў каханы твой,
дзе ты жыла на вуліцы Шырокай.
Лунала ў снах галубкай яснавокай
над Свіслаччу, ціхуткаю ракой.
Я мушу прабачэння папрасіць,
што домік ваш вякам не ўратавала.
Усё гарэла ў нас — і дом Купалы
згарэў, і дзён ставала галасіць...
Балюча мне, што не па шчасны спеў
ты прылятала ў горад наш зялёны,
а па цяжкую драму утрапёнай,
па немату магільных крат і дрэў...
Як быццам не чакалі спевакоў,
як быццам не кахалі Украіну...
Даруй ты ім — і гораду, і сыну
яго за горыч вечную радкоў!..
І мне даруй, што невясёлы верш
прывезла я табе ў тваё стагоддзе.
Але ты ведай: весняе разводдзе
і на ціхуткіх рэках грэблі рве!

*1970*

* * *

Бліжэй да ран,
бліжэй да мук,
бліжэй да спрацаваных рук.
Бліжэй да схіленых плячэй,
да заклапочаных вачэй...
Тады для кожнага,
да рыскі,
ты не наблiжаны,
а блізкі!..

*1971*

## СЯРЭБРАНАЕ ВЯСЕЛЛЕ

### I

Першы раз бачу
нявесту такую
і па мінулым
сама смуткую...

Нявеста, нявеста,
наелася цеста...
(з дзяцінства)
Нявесце не п'ецца,
каса сячэцца...
(дзявоцтва)
Нявеста з дому —
ды гром, грому,
ды к маладому!
(канец вясне)

Яна бярэ чайнік,
заварвае кіпень...
Пісьмы чытае:
«Хоць ты іх выкінь!..

Брат не прыедзе —
не кіне ўнучатак.
Ён трохі старэйшы —
сёмы дзесятак...

І з даўняй сяброўкай,
відаць, не сустрэцца.
Разам вучыліся
ў трыццаць трэцім!..
Вось і спраўляй мне
сваё вяселле!..
Сваё сярэбранае пахмелле...»

II

Нявеста плача,
а жаніх скача...
Колькі тых прыкідак
верадлівых!

Кажу ёй: «Відаць,
вы жылі шчасліва!»
Заўважыць бы
ў валасах сівізну...
«А мы пажаніліся
у вайну...»

III

Васіль прыехаў
па Зінаіду...
І Зінаіда
сказала: «Выйду».

Ззяў чыстым срэбрам
кожны пагорак.
Было ім разам,
здаецца, сорак.

А недзе ў снезе
брылі салдаты...
Васіль таксама
падаўся з хаты...
— А не казалі табе,
дурніца,
што хутка будзеш
слязамі мыцца?
Камусь жалеза
крамзоліць цела,
а ты ў пасцельку,
бач, захацела!
А ты ў пасцелечку,
на пярыну...

Пакіньце, людзі,
адну жанчыну...
Ні бацькі з маткай —
яна з дзетдому —

ні тых пярынаў,
ні звону бомаў...
Жыла стараннем,
жыла каханнем...
Цяпер, выходзіць,
жыві чаканнем?
— А я не буду
чакаць ды плакаць...
Закіну ў ямку
з аборай лапаць!
Абую боты,
шынель надзену...
На фронце
мужа свайго сустрэну!

...Няма нявесты,
няма і вестак...

IV

Нібы на модлы,
ён рукі ўскінуў —
пад чорным дротам
сапёр загінуў.

Так далажылі
ў той дзень камбату
і падпісалі
паперку пра страту.

А санітарка
паўзла па снезе,
здзірала пальчыкі
аб жалеззе,
аб ашкамёткі
варожых мінаў...
Зірнула — хлопец
ляжыць...
Загінуў?

Пазнала — з'ехала
у сумётчык...
— А мой ты любы,
мой Васілёчак?!

V

...Брат не прыедзе,
сяброўкі не будзе...
Але сыходзяцца
блізкія людзі.

Сусед ад варштата,
суседка са школы,
кожны з прыносам,
кожны вясёлы!
На самалётах
сыны прыляцелі —
чаркі не пусты
на гэтым вяселлі!

Нявесце, нявесце
на покуці месца!

Трошкі зайздросна
тым, хто ў разводзе,
трошкі балюча
ўдовам, ды годзе!
З чаркай устаў сакратар
пасялковы,
сам, як жаніх той,
сівагаловы.

— Слаўныя нашы
маладажоны!
Мой тост — за саюз,
у бядзе збёражоны...
Толькі пабраўшыся,
вы ваявалі,
адзін другому
плячо падстаўлялі.

Як мужыка ўратавала кабета?
Казка — не казка,
быль усё гэта...
Аж да шпіталю
па гурбах цягнула,
хоць і самую
немач прыгнула...

...Гэй вы, цяперашнія
маладыя!
— Горка! — гукнулі
салдаты былыя.
Як па камандзе
ўстала застолле,
з чаркамі рукі
ледзь не да столі.
Трэ цалавацца —
сорамна неяк...
Дзеці глядзяць
з-пад прыпушчаных веек...
— Горка!
Цалуюцца
бацька з матуляй...
Госці —
нібы разварушаны вулей.
— Варта, — гамонка чуваць, —
і абняцца!
— Час ім пярсцёнкамі
абмяняцца!

Вось і пярсцёнкі
нясуць з серабра...
Лепш бы прагналі
іх з гэтым з двара!
Васіль пабляднеў,
знямела кабета...
— Дзякуй, сябры,
ды навошта вы гэта?..
Без рук чалавек,
і без пальцаў жанчына...
Стыне чырвоная
ў чарках рабіна...
Не да паднесенага,
не да пярсцёнкаў...
Ой ты, Палессе,
рака Ілопка!..

* * *

Крутыя сцежкі,
цяжкія раны...
Не адбалела,
не пахавана...

Але ўзнялося,
звініць ад хмелю,
жыве сярэбранае
вяселле!

*1976*

## СЫНКУ

Прыйдзе старасць сваёй баразной,
вочы высветліць, зробіць сівенькай...
Навучу цябе ўсмешцы сваёй,
мой сынок даражэнькі!

Мне не цяжка такому вучыць,
не хлапчына ў мяне, а пацешка,
і на вуснах святлом зіхаціць
сарамлівая, добрая ўсмешка.

Прыйдзе смерць за матуляй тваёй,
людзі добрыя пахаваюць...
Хай па ўсмешцы пазнаюць, што мой,
і цябе прывітаюць!..

*1970*

## ЧАМУ БЫЦЬ...

**(Легенда пра Міколу Кірпіча, майго стрыечнага брата)**

«Чаму быць, таго ўжо не мінуць!..»
Нейкай казкай забаўляў зімою...
Быццам чорт імкнуўся падмануць
чалавека з верою сваёю.

Чалавек пярэчыў: «Быць таму,
чым душа захопіцца жывая!..»
Слухаю хлапечую думу,
покуль пад яе не засыпаю...

А Мікола кошыкі пляце,
той — з лазы, а гэты кош — з лучыны.
Стус агаркаў у вядры расце,
праца не канчаецца ў хлапчыны...

Легла маці: «Колечка, пакінь!
Досвітак над вокнамі свіціцца...»
Раніцой бярэ Мікола кій
і сякерку — да вады прабіцца.

Суды прынясе, карове дасць —
ці трасянкі, ці пустой саломы...
А канца трывогам не відаць,
не відаць канца самоце дома...

Тут і цётка, з бежанцаў яны,
ні кута, ні хлеба, ні адзежы...
І ў саміх пастылі каміны,
людскаю даўно не пахнуць ежай...

Добра — ёсць Мікола, працаўнік,
і мудрэц галоўны, і араты,
выветранай хаты вартаўнік,
цётцы, сёстрам верны памагаты.

Ён на ўсю Жаўніну маладзец,
мала што гадкоў яму... пятнаццаць!

Вымела вайна з канца ў канец
большых, а каму было ўтрымацца!

...«Чаму быць, таго ўжо не мінуць...»
Не мінула пошасці Жаўніна...
Даўняй казцы ў сэрцы не заснуць,
не забыць абпаленай рабіны...

...Чалавек хацеў у восьмы клас,
чалавек хацеў кашулі, ботаў
і каб плацейкі былі у нас,
каб ставала сена, бульбы, сотаў...

Але чорт надарыўся раней,
гэта быў фашыст — сляпы і люты.
Параскідваў па карчах людзей,
звёў на дым закутак мяты-руты.

Акружэнне, бою не мінуць...
Коля, Коля, дзе твой дом апошні?!
Ці над ім алешыны растуць,
а ці проста зелянее пашня?..

...Маці абшукала ўвесь раён,
кленчыла перад забітым кожным,
калі быў, як ты, русявы ён
і на штык ішоў неасцярожна...

...Я баюся па траве хадзіць
па-за Гутай, Дольцамі і Плінам.
Я шкадую Колю разбудзіць,
дапячы няпрошанай слязінай...

Быць таму, каб добры чалавек
жыў і жыў — у песні, у травінцы!
І нявечны ён — заўжды павек,
непаўторны ў слове і ў брывінцы...

*1976*

## ПРА ВЕЧНАСЦЬ

Мне стае чалавечнасці,
мне герояў стае.
Я пішу не для вечнасці —
марсіянкі тае...
Я для гэтай, для сённяшняй,
мне даступнай пары —
явы хмарнай і сонечнай,
маёй рупнай сястры.
Яна ў гурце з рабочымі,
у яе з веснадня
з васільковымі вочкамі
на руках дзіцяня.
Яно ўзвее пагодкаю
і, пазнаўшы, хто я,
назаве сваёй цёткаю, —
вось і вечнасць мая!..

*11/VI 1972*

* * *

Няхай вятры па мне галосяць,
няўдачніцай завуць няхай.
Хай мне нічога не ўдалося, —
запеўны свой услаўлю май.
Для любасці душа ўсчалася,
і ў тым ніхто не папракне.
На зайздрасць іншым, удалася
любоў да Бацькаўшчыны мне...

*1970*

* * *

Паднялося ў гняздзе птушаня...
Лірыка ліпеня!
Прачнуўся грыбнік да дня —
лірыка ліпеня.
Капешкамі луг прарос —
лірыка ліпеня.
Самы белы строй у бяроз —
лірыка ліпеня...
Самы цяжкі лёт у пчалы —
лірыка ліпеня.
Самы чысты мёд — на сталы...
Лірыка ліпеня!

*1976*

## МУЗЫЧНЫЯ ЕЛКІ

*Алжасу Суляйменаву*

На Алатау,
як стромыя стрэлкі,—
гордай паставы
музычныя елкі.
Слухаюць хмары,
чуюць зямлю...
Высокія мары,
я вас люблю!
Разлогаю горнай
струмень бруіцца —
проста з-пад чорнай
бліскучай ігліцы.
Сэрца кранае
гучанне струн,—
іх напінае
вясновы бурун...
Арліны стэп,
лёт коней вабны,
шчаслівы шэпт
ружовых яблынь
дорыць мне ў спеве
без лішніх муз
з музычнага дрэва
камуз.

*1976*

## БУКЕТ
## АД КАЙСЫНА КУЛІЕВА

О, гэта горды міг, калі Кайсын
з рукой на сэрцы кветкі вам падносіць!
Тады царыца вы сярод жанчын,
тады вам вочы слёзы шчасця росяць.

Калі падносіць кветкі вам Кайсын,
дык гэта значыць — вас вітаюць горы,
Эльбрус, найпрыгажэйшая з вяршынь,
дзе зіхацяць снягі і ззяюць зоры.

Калі падносіць кветкі вам Кайсын,
дык гэта значыць — іх патрэбна несці
у храстве квяцістых пуцявін,
пялёстка аніводнага не стрэсці!..

*1976*



## ПРАЎНУК ПУШКІНА

*С. Я. Кліменку*

«Хачу беларускага неба і сосен,
прышліце мне вашага лёну...»
Чыя
такая журба, нібы ў воблаках просінь,
з чыёй гэта просьбы хвалююся я?
Хто піша пісьмо, наша роднае слова
ўплятаючы сціпла у кожны радок?
Каму дарагая здалёку размова
з тым краем, дзе памятны кожны куток?
Радкі Багдановіча, думы Купалы
жывуць у лісце, бы ў вянку васількі...
А вось у пісанні яны загучалі —
вершы з-пад лёгкае-лёгкай рукі!
Стыль Пушкіна, божа... У сэрцы трымценне...
Дух Пушкіна — тут ён, у просьбе з Масквы.
І робіцца простае цудным імгненне,
і ўдзячнасцю спее прастор баравы.
Кроў залаціцца у хвойчыных венах,
струніцца племя младое дубоў...
Вялікія людзі нашчадкам у генах
заўжды завяшчалі любоў.

*1975*

* * *

Верная заўсёднай звычцы,
перад расстаннем з мінскім днём,
я ў прыгараднай электрычцы
паехала ў лугі паўднём.

Не на Купалле —
да Купалы,
да хаты з бёрнаў, да мясцін,
дзе маці хлопчыка люляла,
каб вырас песняй родны сын...

...Сышла па насыпе ў нізіну,
дыхнула вільгаццю зямлі.
Дубы раскінулі галіны,
і гоман конікі ўзнялі.

Пракос не зачапіў карунак
травы зялёнай, не дайшоў
да незабудак і матрунак,
буйных рамонкаў і званкоў.

Такая мілая раскоша —
збірай, любуйся, варажы...
Яшчэ ліповая пароша,
яшчэ крынічныя лаўжы...

...У плыні дзён маіх і ночак,
як сум агорне спадцішка,
мне звоніць край мой, як званочак
з таго, пад Вязынкай, лужка!

*1974*

* * *

*М. П. Клімук*

Казалі — маці поначы стаяла,
калі сынок у космас завітаў,
і тую зорку ў небе выглядала,
якою сын на час палёту стаў...

Два вобразы ў адну зліліся оду,
яе і не прыдумаеш знарок:
жанчына беларускага народа
і сын яе, дапытлівы, Пятрок...

*1976*

## «БАГІНЯ»

Дык, значыць, звалася «багіняй»
яна, галоўны наш прысмак...
Мы знялі: без яе пагінем,
пакуль той хлеб ці той бурак.
На меленькія баразёнкі
глядзелі з самае сяўбы:
калі расток узыдзе тонкі —
уся надзея галыцьбы.
Калі ж «багіня» зацвітала,
мы грамадою, лоб у лоб,
хаця пара не дазваляла,
рабілі каліву падкоп...
Старанна клубні выбіралі,
яшчэ з арэх велічынёй,
у рэчцы мылі-вымывалі
набытак агародны свой.
З руінаў хатніх дзве цагліны,
кацельчык мелкі, кропны пах...
Усе ў кружку глыталі сліну,
як і пры ўсіх сваіх кастрах, —
блакадных, бежанскіх, сірочых,
калі ні бульбы, ні мукі,
але ў кацельчыку булькоча
хоць вар з травою трапяткі...
Расла паспешка, ружавела.
І мы, як бульбачка, цвілі.
На бацькаўшчыне з імем белым
«багіняў» шмат перараслі.
А кланяемся штогадова,
як і ў маленстве, ёй адной —
на наша шчасце, шматпудовай,
румянай, сопкай, зямляной!..

*1976*

## ПІНСКАЕ СВЯТА

Паклікалі «Зоры над Пінай»,
як самыя светлыя клічуць.
Як самыя ветлыя, зычаць
мне свята ў старонцы гасціннай.

Паклікалі рэчкі і рэкі,
лясы і сады ў пчольным гудзе,
паклікалі ўдаль «чалавекі» —
палескія добрыя людзі...

Вітаю вярбіну і краску,
багатыя воды і росы.
Вітаю жняю, і падпаска,
і ў белай кашулі матроса...

Мне чуецца даўняй атакі
грымоцце над плёсамі Піны.
Кладу я чырвоныя макі
да помніка Бацьку і Сыну[1]...

Мы кажам: нішто не забыта,
хто ў славе загінуў, успомнім...
Высокае шчасце здабыта
зямлі, чалавеку і промням!

І свецяцца зоры над Пінай,
над святам любві, карагодаў...
І ясных я зычу ўзыходаў
палескай старонцы гасціннай.

*1975*

---

[1] Альхоўскія, камандзір катэра і юнга, загінулі ў баі.

## ЯК ЛЁН...

Кастрычнік парушыць кастру,
грузавікі ад лёну гнуцца
і пад імглівую зару,
пад дымны далягляд імкнуцца.

Дым пахне былкай палявой,
адметны водарам алею.
Зусім цвярозай галавой
ад водару таго хмялею...

На сцелішчы вятры трываць,
дарожкам кланяцца бясконцым,
сябе з зямлёю нітаваць,
як лён той, — кожным валаконцам!..

*1975*

## КРЫМСКАЯ РОСТАНЬ

*І. П. Мележу*

Апырсканыя хвалямі фіялкі —
дрыготкі мой, нібы лясны, букет,
дарогі горнай кручаныя чалкі —
і вось ён, дом, якому бачны свет!

Я да яго па круцізне прастую,
спадзеючыся сэрцам падужэць.
У ім я слова роднае пачую,
такое, што не можа абгарэць.

Не можа сплыць паводкай верхавою,
непадуладна лёскату вятроў...
Трымчу перад гаворкаю жывою,
перад адным з яе валадароў!..

Мае непланаваныя гадзіны
хвілінамі здаліся ў доме тым.
А ўжо хіснулі ценямі галіны
у вечаровым мроіве густым.

Нашто яшчэ тут траціць час гартоўны,
нашто мяне праводзіць да шашы?
А ён стаіць са мной, са мной, як з роўнай,
і добрых дзён жадае ад душы...

Шугае з мора ветрыкам калючым,
трывожна чайка позняя крычыць...
Магутны паляшук з плячом балючым
у далеч неспакойную глядзіць...

*1976*

## МАМІН АТЭСТАТ

Сын здзівіўся нават,
выйшаў з-за стала:
мама вучаніцай
некалі была!..

Мама праглядае
стус папер сваіх.
Розныя іх назвы
сын чытае ўслых.

Тут білеты, кніжкі,
пісьмы ад сяброў.
Нават ордэн зззяе
пасярод дароў!

Граматы у мамы,
падарункаў шмат.
На адну паперу
глянуў: «Атэстат»...

Прачытаў, здзівіўся,
сеў ён да стала:
мама вучаніцай
некалі была?

Аркушык пажоўклы,
сіняя пячаць...
— Малайчына, мама:
пяць,
    пяць,
        пяць!..
Ды ў цябе пяцёркі
круглыя падрад!..

Вось калі спатрэбіўся
мамін атэстат!

*1975*

## ЛЕТА

То бедавалі, што спякота,
то гаравалі, што дажджы...
А лета кпіла з той нудоты,
ішло то ў майцы, то ў плашчы.
Не паддавалася няўроддзю,
збірала сілы для рыўка, —
і вось дыхнула, па пагодзе,
настоем з кожнага раўка!
Шуміць жытное і лясное,
раскоша травам і дубам,
усё буйное, сакаўное,
і кажуць людзі: быць грыбам!
О лета, пышнае суквецце,
мая любімая краса!
Ірдзіцца дымная раса
і каласуе даўга-
лецце!..

*1976*

## ПАЕДЗЕМЦЕ, ДРУЖА...

Паедземце, дружа, ва Ўшачы!
Там зараз вясна ды вясна...
Бярэзіна соладка плача,
над рэчкай — вятроў гамана.
У лесе — гурты галасістых,
крылатых яго жыхароў.
Там столькі палянак імшыстых,
ліловых і сініх кастроў...
Стае там вясенняе волі,
нічога, што скрозь буралом.
Сцяжыны выводзяць на поле —
на поле пад Новым Сялом...
А там салаўі заціхаюць,
не кратаюць конікі рос.
Там толькі ціхутка ўздыхаюць
унучкі сатлелых бяроз...
Мы слухаем цішу жывую,
а чуем грымоцце гранат.
Блакаду прарваць агнявую
ўстае за атрадам атрад.
Гукаюць камбрыгі трывогу,
байцы пад агнём не дрыжаць...
Лёс тысяч — здабыць перамогу,
лёс тысяч — на полі ляжаць...
Ляжаць землякі маладыя,
сястрыцы-зямлячкі мае.
Не знаюць: імёны лясныя
у бронзе народ адаб'е.
Не знаюць, што словам «святыня»
іх поле завуць нездарма...
Няма ў нас кута без Хатыні,
вясны без Ушачаў няма!

*1974*

## ЛЕГЕНДА
## ПРА КУХАРКУ МАРУСЮ

Ой, Маруся, добрая душа,
а была ты, пэўна, хараша,
калі пра цябе ласкава так
піша сам таварыш Жалязняк!
А таварыш Жалязняк — герой,
камандзір брыгады баявой.
А ў брыгадзе — тысяча штыкоў,
а ў брыгадзе — тысяча ратоў...
У яе пад соснамі — катлы,
у яе пад елкамі — сталы,
і замест закрасы ў шумны час
шышкі ў міскі падалі якраз!
Жартавалі хлопцы ля ялін,
што Маруся наварыла мін
і што кожны быў бы нават рад,
каб зварыла трошкі і гранат!
«Ты гранат у немцаў набяры,
там іх больш, чым шышак у бары...»
Скажа — і да посуду, катлоў...
Як-ніяк, а тысяча ратоў!
Во сямейка, во радні лясной
набыла дзяўчыніца вайной!
Юнакі былі і вусачы...
Часам, на заданне ідучы,
кідалі ёй жартам: «Паспявай
наварыць булёну — цераз край!»
А калі з трафеямі дамоў
іх вяртала ўдача і любоў,
ёй дарылі хоць бы драбязу,
хоць бы з іншай пушчы дзеразу...
А яна прасіла аўтамат,
а яна — патронаў, хоць няшмат...
Ці то чула сэрца, што бяда
за плячыма, дзе куп'я града,
што ліне варожая рака
на атрады, на Жалезняка!..
Немцаў наваліла поўны гай...

Ой, Маруся-кветка, уцякай.
Хлопцы адбіваюцца, хто дзе,
падаюць на купах, на вадзе...
На яе накінуліся ўдвох...
Апалонік хруснуў, не памог...

*1976*

* * *

Шкадуйце хлопчыкаў танюткіх,
шкадуйце змалку мужычкоў, —
сваіх чарнявых і бялюткіх,
сваіх ціхонь і крыкункоў!

Расце істотай роднай самай
худзенечкае хараство...
Нібы святое перад мамай,
жывое ў хаце бажаство...

А вы не стойце на каленьках, —
працуйце лепш, каб гінуў жах
і вашых хлопцаў даражэнькіх
не распіналі на крыжах!..

*1975*

* * *

Старая песня: не зайшлася ў вёску,
дзе некалі радзілася, расла,
дзе першую спляла з бялявых коску
і першую слязіну праліла...

Адно мне апраўданне, што баюся
ніводнай хаты ў вёсцы не пазнаць,
што на дарозе новай заблуджуся
і не знайду ў каго заначаваць.

А мне патрэбны тыя, толькі тыя,
хто браў на рукі, лашчыў, як умеў,
вучыў трапаць валокны крамяныя,
заводзіць рупны калаўрота спеў...

Яны былі, на печы ў холад грэлі,
давалі на сарочку палатна...
Мне трэба тыя сцены, што згарэлі...
Мне трэба ўсё, што знішчыла вайна...

Ніколі не сустрэцца з роднай хатай,
рукі ўсім незабытым не падаць...
А як жыву з такой вялікай стратай,
спагадны здагадаецца, відаць...

*1976*

## ГЛЯДЖУ ДАВАЕННЫЯ ФІЛЬМЫ

Гляджу даваенныя фільмы,
наіўную песню жыцця,
і ходае боль усясільны,
бо ведаю фільмаў працяг...

І ведаю: фільмы глядзелі,
цанілі высока, на пяць,
усе, што пасля анямелі,
усе, што даўно не глядзяць...

Нагледжуся іхніх фасонаў,
паслухаю іхні раманс.
За колькі, за колькі мільёнаў
іду на паўторны сеанс?!

*1976*

* * *

Не магу чытаць без плачу,
як шукаюць след дзяціны...
Па радзімцы, па нязначнай,
па прыкмеце той часіны,
калі матку забівалі,
вынішчалі родны корань,
а хлапчыну падбіралі,
гадавалі ў страшным горы...

А яму без роду-племя
не жывецца, не пяецца.
Ён хапаецца за стрэмя
той надзеі, што імкнецца
з непазбытага адчаю
у той край, дзе ўсё маркотна,
у той час, дзе палыхае
несціхана смерч смяротны...

Зарасце, сплыве былое,
стане дзівам гора веку:
як магло здарыцца тое,
што гублялі
ч а л а в е к а?!.

*1976*

## ДАЎНІЯ МАНЕЎРЫ

Мост бубнеў драўляны,
гойдалася рэчка,
грузлі коні потныя ў пяску...
Першая красуня
нашага мястэчка
падавала кветкі казаку.

А за ёй смялелі іншыя дзяўчаты,
плыў гарачы дзень, рыпеў асвер...
Мала год было мне ў тое свята,
пра манеўры ж помню і цяпер.

Мабыць, добра коннікі «рубалі»,
раз ім красак кідалі жмуты.
А пад ноч у клубе танцавалі,
аж хадзілі ходырам куты!

...Мірныя манеўры
хлопцам адыгралі,
клубныя гулянкі
канулі ў раку...
Хтосьці стаў Героем,
іншых пахавалі
у сваёй зямлі, ў чужым баку.

І калі выходзяць да калоны стройнай
юныя красуні з кветкамі ў руках,
скаланецца сэрца жалем незагойным
па майго маленства казаках...

*1975*

## ДРЭВА
## МАРШАЛА РАКАСОЎСКАГА

Дрэва,
ты пастарайся вырасці,
як чалавек, што цябе пасадзіў:
такім жа высокім і стройным,
такім жа прыгожым і смелым!
Каб не баялася ты
снараднага грукату грому,
кінжальных маланак,
і градавых куль,
і міннага свісту мяцеліц...

Пасадзіў цябе Маршал
у памяць дарог, што са зброяй прайшоў,
у памяць салдатаў сваіх,
што загінулі ў бітвах,
і яшчэ, можа, з думкай аб тым,
што ўсялякае дрэва —
гэта помнік самому таму, хто саджае,
і яму неўзабаве ляжаць
у зямельцы сырой...

Дрэва ў Мінску расце,
і вясна яму дорыць штогод
букет Перамогі.

*1975*

## БЛАКІТНАЯ ПТУШКА

Блакітныя ўспыхнулі крылы —
аж стала пякуча вачам.
І хлопчык, падлётак мой мілы,
пра цуд на ўвесь лес закрычаў.

І гронкамі шыпшак ялушка
ажно зазваніла з аблок,
як села блакітная птушка
на стромае дрэва — за крок!

Дзівосную птушку не ловім,
на цуд ва ўсе вочы глядзім.
Нам добра, што ў нетры яловай
жыве яна побач зусім.

І мы яе можам убачыць
заўсёды, як голле ўгары,
як травы, дзе конікі скачуць
і ззяе раса на зары...

Як жыта, што выгнала колас —
на сонцы зярняты спяліць...
Як провад у небе, што ўголас
пра нашы ўладанні звініць.

Віецца дарогі істужка...
Чаго ж нам, сынок, пажадаць?
Блакітную ўбачылі птушку,
да сіняй — рукою падаць!

*1976*

## ЯК МНОГА
## Ў МЯНЕ ЛЮДЗЕЙ

Як многа у мяне людзей, што рады
майму спяванню, рады чутнай песні!
Тут мой сынок, тут даўнія сяброўкі —
настаўніцы вясковых школ глыбінных,
і мой настаўнік беларускай мовы...
І мой калега, хворасцю цяжкою
да ложка прыкаваны ў Пяцігорску,
і мінскі выдавец, і з Маладзечна
чытач натхнёны — сакратар райкома...
І паэтэса юная... Яе
прадбачыла я некалі, зычліва
знайсці падкову шчасця заклікала
і даспяваць усё, што не паспею
сама на баявой маёй дарозе...

Зычліўцы дарагія, хай вам шчасціць
знайсці падкову, пуцявіну ўмаіць
праменнымі вачмі, вясёлай песняй,
сустрэчай з чалавекам незвычайным!..
Хай шчасціць дзень аддаць любімай працы,
любімым краскам, што завуцца — дзеці,
і тым разлівам, што гадуюць краскі
у сэнсе простым, а не пераносным!..
Паклон, паклон дырэктару саўгаса
з параненымі на вайне нагамі,
і кніжніку з сяла, што кожны зборнік
нанова пераплёў, прынёс на подпіс,
і цётцы той, што за сталом бяседным
забыты мною верпіык дачытала!..

Паклон бібліятэкарцы ушацкай:
яна вазон калісьці падарыла
са словамі: «Хай расцвітае талент,
як гэты мой вазон!»...
Паклон і той
жанчыне, што прыслала у каробцы
набор насовак з белага паркалю

з прыпіскаю: «Бялёўкамі маімі
вы выцірайце толькі слёзы шчасця»...

І праўда: слёзы шчасця выціраю
за тое, што наплакалася ўволю
на ўсіх магілах братніх і бацькоўскіх
і нешта падабрала ў папялішчах
для песні і гаротнай, і нязломнай...

І праўда: выціраю слёзы шчасця
за тое, што нічога не забыла
я з усяго, што нараджае песню
і дорыць ёй адценні дня і ночы,
вясельны звон і роспач пахавання...
За тое, што, прайшоўшы добры кус
у палатняных бурках, у галёшах
па зімняй сцюжы, па вадзе ў апорках,
дайшла да цёплай замшы,
да «платформы»,
адно што ногі бедныя падводзяць:
падбітыя ў дарозе пакручастай,
ідуць марудна і начамі ныюць,
хоць не кладзіся...
Лёгкія цяжэй
вільготнае паветра ўспрымаюць —
усё з туманаў, з белых павалок,
з заплаканых балотных даляглядаў...

А я іду...
І клунак за плячмі...

І юнай гавару адно заўсёды:
нічога не забудзь, не абмінай
з таго, што праўду песні нараджае:
ні радасных радзін, ні пахаванняў,
ні абеліскаў, ні дажджоў балотных,
ні добрых слоў, што сказаны людзьмі
якраз тады, калі яны патрэбны!..
І злых не забывай... У злога зелля
карэнне доўгае, быллё пячэ
на кожным кроку, на сцяжыне кожнай...

Але быллё — быллём, а краска — краскай,
і песня, што ў сучасным дні складаю,

бярэ пачатак з дабраты удзячнай...
Як многа вас, сяброў, хто песні рады,
як многа у жыцці красы для песні,
як добра, што усё яшчэ не спета
найлепшая!..

*1976*

## ПАМЯЦІ
## ЯРАСЛАВА СМЕЛЯКОВА

Як дом, свяцілася Масква,
шумеў Цвярскі бульвар.
Літаратурная братва
ішла на семінар.

І я ішла, хоць мой тамок
зусім жа тонкі быў.
Ды нейкі ў ім жыццёвы сок
настаўнік наш адкрыў.

І, нешта шэпчучы цішком,
ён сябрукоў гукнуў.
Пасля ў кішэнь узяў мой «том»,
узяў — і не вярнуў.

Панёс, у прастаце вялік,
на пераклад радкоў
мой першы зборнік «Сакавік»
таварыш Смелякоў...

Была нагрудная кішэнь
для кніжкі самы раз...
Быў гэта мой дзівосны дзень,
быў гэта светлы час!

...Збіраю сокі, як магу,
бяру з вясновых рук.
У словах корань берагу,
адношу вершы ў друк.

Калі ўжо кніжку час дае,
вагаюся з тугі:
а ўзяў бы у кішэнь яе
настаўнік дарагі?

*1976*

## СЛОВА

Не чакайце, што буду хваліцца
перад іншымі мовай маёй.
Хіба хваліцца з лесу крыніца,
што грымотней яна за прыбой?

Той, хто любіць папраўдзе, ён ціха
слова роднае ў сэрцы спяліць,
беражэ ад пагарднага ліха:
калі слову, то й сэрцу баліць...

*1976*

## СУСТРЭЧА Ў ДУБУЛТАХ

Сказаў рабочы з Рыгі: «Наш паэт!»
Сказаў паэт-паплечнік: «Мой настаўнік...»
Дзяўчына, падбіраючы букет
з чырвоных ружаў, каб яго паставіць
у нумары сівога песняра
з акном, адкрытым мору і аблокам,
сказала: «Гэта рыцар!..» — і зара
успыхнула, ружовая, на шчоках.

Як мне казаць, сустрэўшыся ў цішы
з такім ужо названым чалавекам?
Вялікае ўзрушэнне для душы,
здаецца слова бедным недарэкам.
І чалавек мой разумее стан
і з ласкай загаворвае памалу...
Кажу я Судрабкалну «дзядзька Ян»,
як бы Купалу.

*1974*

## АБ ПРЫЗНАННІ

Я чула за мяжой пра аднаго
складальніка якіхсьці строф зацьмяных:
што ведае Амерыка яго,
а ў нас ён — сярод зорак безымянных.
Там гэтага паэта выдаюць
і долараў нібыта не шкадуюць.
А ў нас яго, маўляў, не прызнаюць,
над тым пісаннем часу не марнуюць...
Я слухала заступнікаў з жальбой,
але не тою, на якую білі...
Не дапусці, о божа творчы мой,
каб недзе ў свеце мне імя рабілі!
Каб недзе, між чужынцаў-забіяк,
нямелі мае вершы-дзіцяняты...
Каб і па мне ўскудлачаны дзівак
з такою ж злосцю плакаў, як наняты!..
Няшчырасцю ў жыцці я не грашу
і клятвай не апошняй паклянуся,
што хай я і радка не напішу,
калі яго не трэба Беларусі!
Калі яму не дасца жыць у нас —
на шырыні лясной, сваёй, пагоднай...
Калі яго мне не аплоціць час
тым, што пачуе ў гамане паходнай!
Свой лёс лічу я грэшным і святым,
і пра мяне яму усё вядома...
Хай прызнаюць амерыкі — затым,
калі прызнаюць дома,
толькі дома!

*1975*

* * *

У адзіноце, па-за светам,
па-за маланкай-перуном
люблю параіцца з паэтам,
з пакутнікам-гаваруном.

Славуты ён ці не славуты,
карціць даведацца паўней,
а з-за чаго яго пакуты,
ці з-за таго, што і ў мяне?

Якія ў нас, калег, трывогі:
з Алімп ці з Лысую гару?..
Я з ім пра родныя дарогі
і пра чужыя гавару.

З яго хадой сваю звяраю,
папраўкі пэўныя раблю.
Ці так я мыслю, правяраю,
ці так, у рэшце рэшт, люблю...

І з іншым, доляю адпетым,
імкнешся долю ўзварушыць...
Люблю параіцца з паэтам,
калі няясна на душы...

*1974*

* * *

Часам трэба, каб нехта цябе раззлаваў,
за тваю справядлівасць нялюдскім назваў,
прад ягоным нахабствам на хвілю спыніў
і залішне ружовы твой свет пачарніў...

Вось тады да алоўка памкнецца рука,
як да клінка!..

*1974*

* * *

Не ўтапіла, не ўтапіла
смутку на марское дно...
Не купіла, не купіла
ў хлопчыка верацяно.
Белай пражы не напрала,
не дала клубок таму,
хто ні злева і ні справа,
невядома — з кім? чаму?
Хоць ты кінь ты, хоць ты рынь ты,
на прасторы дакажы,
што жыццё — не лабірынты,
што ў ім ходу — без мяжы.
Нельга тупаць невідушча,
уяўляць, што заблудзіў
там, дзе пашы, там, дзе пушчы,
дзе малым прасцей хадзіў.
Дзе з бярэзіны ці клёну
той малечаю парой
сам выточваў верацёны,
каб круцілі па крутой!
Паша, поле, баравінка,
свет адкрытага святла...
І малая павуцінка
ніткай моцнаю была!

*1975*

## ВІШНЯ

Карчуе вецер вішню, —
высокая яна...
Каб нізкая, зацішней
было б ёй ля акна.

Каб нізкая, схавалі б
яе сцяблы вяргінь,
рамонкаў і азалій,
а так — хоць ладнай гінь!

Адкрыта злы паўночны,
лагодны з поўдня гне...
Няхай сабе пабочны,
ды клопат у мяне.

Прывязваю увішна,
каб стволік стройна рос...
Няма высокай вішні
заслоны ў яе рост!..

*1975*

* * *

Галоўнае ў любві — любоў,
галоўнае ў жыцці — жыццё.
Між імі — бесталач званоў
і дыму шызага шмаццё.

Галоўнае — зярнят струмень,
віно ігрыстае ракой...
Між імі — горкая сухмень
і за жывое неспакой.

Штогод вясна і першацвет,
штогод пабочнае — дымком...
Надзея ж хай глядзіць на свет,
але не кволым васільком!

*1975*

## ЭПІТАФІЯ ЛАВЕ

Яе няма, яна знікала
на пару з беднасцю сяла.
Яе канапа выжывала
і мода крэслаў ля стала.

Майстры знікалі, што, як шкліну,
адгабляваць маглі яе,
удала выбраўшы драўніну,
што духам лесу аддае...

З кута у кут жаўцела лава,
з парога аж да абразоў —
прамая хаціна аправа,
устойлівая без цвікоў.
На ёй давалася аддуха
буханкам з печы агнявой,
на ёй сядзела папрадуха
ды калаўрот круціла свой.
А то качалкі грукацелі —
качалі з лёну ручнікі!..

Бач, адкачалі, расхацелі,
і лава знікла на вякі...

Ды памяць не ўраклася гэбля...
Падчас сасніш на дыване
сваю найпросценькую мэблю
у роднай вёсцы Старыне...

*1976*

## МЫЦЦЁ КЛАСА

Празрыстае ружовае вядзерца,
анучка, белы пачак парашку...
Я мыю клас, мне хораша на сэрцы...
Тут будзе чыста і майму сынку,
і тым сынам, чые заняты маткі
і на суботнік не змаглі прыйсці...
Мне даспадобы школьныя парадкі,
яны дапамагаюць у жыцці!
Я мыла хаты і мяла сялібы,
чужыя прыбірала, як свае.
А ў гэтыя памытыя мной шыбы
зірне мой сын і, можа, запяе.
Сваю мо долю дарагую ўбачыць
вось з гэтага шырокага акна...
Дык буду мыць, над партамі мастачыць
з увішнымі жанкамі дацямна!..

*1974*

* * *

Все любили, вот и вырос!

*В. Бокаў*

Ого, калі б усе любілі!
Пабойся Бога, браце мой...
Раджалі, лашчылі, хвалілі,
кармілі толькі дабрынай?
Каго? Бялявае стварэнне,
адно з бяскрыўдных чацвярых?
Мяла завея ў сутарэнне,
і быў нямоглы першы ўздых...
Люлялі мала — жыта жалі...
Былі нішчымныя сталы...
Расла — хутчэй не заўважалі,
чым заўважалі для хвалы...
І першыя гады, і потым,
сярод паплечнікаў-дубоў,
на сэрца клалася прыгнётам
хоць нечая, ды нелюбоў...
З ёй трэ было або мірыцца,
або ўсім духам ваяваць...
Так удалося не скарыцца,
любві куплеты праспяваць!

*1975*

* * *

Калега паважнасцю пыхае,
сябе беражэ, як душу.
Са страхам пытаецца: «Пішаце?»
Адказваю проста: «Пішу».

«І лёгка?»
«І лёгка, і цяжка —
па-рознаму...»
Моўчкі глядзіць...
Яму ўжо ні жонка, ні пляшка
страфы не паможа радзіць.

З-за новага ў песнях — збаяўся,
ад сухасці сэрца — завяў.
Для бедных нашчадкаў застаўся
том яго ананімных заяў.

Там дзве-тры — на мяне: што працую,
што сырызну жыцця варушу,
што такіх, як нягоднік, лупцую
і яшчэ прызнаюся:
«Пішу!..»

*1976*

* * *

З яснай роўнядзі, з сініх міжгор'яў,
засланяючых далечы дню,
выбіваюся ў кола сузор'яў,
вырываюся на вышыню.

Як там добра, дзе лётае пара —
з ганаровай арліцай арол!
Я раблюся сястрою Ікара,
бачу сонечны арэол.

Пратрымаюся, лётнае сілы
лёс нямала мне падараваў,
ды яшчэ не васковыя крылы —
іх мне род
мацней змацаваў!

*1976*

* * *

Мяне падтрымлівае што?
А тое, чым жыву...
Журба сясцёр, узлёт братоў,
дзень, у якім плыву,
нібы на лайнеры марскім,
з гайданкаю і без...
Жыву прыветам я людскім,
як светлым цветам — бэз.
Падтрымлівае ўсё, што ёсць
на ніве на маёй.
Таксама — самы розны госць
павагаю сваёй.
Трымае лета і зіма,
дубоў і сосен рáць...
Відаць, таму, што іх сама
гатова падтрымаць.

*1975*

* * *

Час надыходзіць, і робіцца мала
нейкага ўтулку, нейкае славы,
таго, што ранейшай парой люляла б, —
мала для шчасця ў час мой гаркавы.

Ён надыходзіць — не грукае ў дзверы
добрым таварышам, хлопцам з былога...
Шчасця замала ў ціхай кватэры,
хоць успамінаў аб ім — замнога.

Чым замяніць успаміны? Работай.
Гэта мне з першага класа вядома.
Але і работа ваксуе боты
і хітра шыбуе далей ад дома...

Сталае шчасце, што табе трэба,
каб прыжылося і не пакідала?
Сее дажджынкі нізкае неба,
быццам высокага у свеце мала!..

*1974*

* * *

Маладзічок, пачнём работу...
Удвох забудзем пра цямноту!
У нас задача: не марнець,
а сілу набіраць, яснець.
І роўныя абсягі нашы:
пад намі ворыва і пашы,
лунаеш ты, ступаю я
ад салаўя да салаўя...
Вышэй ражок, мой ясны браце!
Яснота — нашае багацце,
і хай бялее цемрашал
ад злосці, што бяссільны шал!
Пачнём работу — колькі неба
табе прайсці да ранку трэба,
і колькі мне прайсці душой
услед за мараю маёй!..
Маладзічок, пачнём работу...

*1974*

## НАВАГОДНІЯЕ

### *Сонца першага студзеня*

Узышло, і, здаецца, яму няўцям,
што ўжо асвятляе
                    год наш чарговы...
А ў нас раскуплен універсам,
а ў нас гучаць віншаванняў словы.
І ў кожнай паштоўцы,
                    у кожным радку
жадаем новага шчасця бясконца...
А Петрык малюе свайму сябруку
старое цёплае сонца.

### *Успамінаю*

Успамінаю светлую дзяўчыну,
што ў горадзе разбураным жыла,
любіла травіну і аблачыну
і смачнага не ведала стала.
У мроях толькі бачыла набытак,
асветленыя ёлкі і вянцы.
З усіх дзівосаў прызнавала сшытак
і ручку з рупным пёркам на канцы...
Займаліся дзяўчаты недарэчнай
жартоўнай навагодняй варажбой:
у галавах стаўлялі кварту з «рэчкай»,
імёны хлопцаў клалі ўразнабой.
А раніцой хапалі з-пад падушак
сваіх «алегаў»,
                    «юрыкаў»,
                                        «пятроў»...
І гэтая была між весялушак,
але цыдулкі здзьмухвала далоў.

А даставала з-пад падушкі рана,
хвалюючыся, тонкая рука
усё яго —
                    свой сшытак няспісаны
і ручку ці кавалак алаўка...

Калі б не гарт дзяўча ў той час халодны,
то што рабіць мне ў сённяшнім маім?
Дык пажадаем шчасця нашым родным,
а потым — за пяро,
на тым стаім!

*1976*

* * *

Ну і вецер за акном!
Гнуцца тонкія бярозкі.
Пасадзіла як на злом
на сямі вятрах нябоскіх...

А мяне хто пасадзіў
на гарушцы адубелай,
кволым голлем надзяліў
і апраткай надта белай?

На бярозы я гляджу, —
чым не сёстры, чым не сёстры!
Але як агараджу,
дзе тынок здабуду вострьі?

Адшумела ўжо вясна,
стане золка ў сутарэнні...
Ёсць заслона ў нас адна —
наша моцнае
карэнне.

*1976*

* * *

Той абыпоўся невялічкай звагай,
той песню склаў, каб заспявалі ўсе...
Чытаю з найвялікшаю увагай,
як пішуць пра мой край ва ўсёй красе...

Пішыце, сёстры, брацейкі, пішыце,
для вашых твораў шчодра аддаю
метафары, што вызванелі ў жыце,
эпітэты, здабытыя ў баю,

Бярыце тэму — кожную дуброву,
там будзе вершам кожны жалудок,
дасць родны гай вам трапяткую мову
і родзіць пра геройскае радок...

Пра нас няможна — толькі на спачыне,
пра нас няможна — толькі весяліць...
Такую песню дайце аб Айчыне,
каб ёй усё жывое разбудзіць!..

*1975*

* * *

З чужой мясцінай развітацца —
і да бліжэйшай стаўбавой.
«Дай бог да хатачкі дабрацца,
да мілай дзетачкі сваёй!..»

Нямала год прыпеў адзіны
душа галосіць на шляхах.
Яго не чуе мой адзіны
пры школе, кніжках, хлапчуках.

Разлуку з маткаю трывае,
а што рабіць — такі ўжо лёс!
І мне дарога стаўбавая —
каб ты хутчэй дужэў і рос.

Мы можам лёсам памяняцца...
Дык паўтары тады душой:
«Дай бог да хатачкі дабрацца,
да мілай мацеркі сваёй!..»

*1976*

## ДАРОСЛЫМ БУДЗЕШ...

Сын, не пужай дарослацю мяне...
Дарослым будзеш, а маленькім — не.

І мне балюча: мама, не цалуй,
пад вечар на падворку не пільнуй...

Адно і чую: без цябе ды сам...
Такая воля росленькім гадам!

У маці адбіраюць хлапчука,
што ўвесь — з яе, ад пятак да чубка...

Ці змусіш тут маленства прытрымаць,
ад маці дзіцянё не аддаляць!

Дзяцінства не было ў мяне самой,
тваім хацела б жаль суцішыць мой,

сваё ў тваім прапесціць, праквітнець,
у чарадзе шчаслівай прадурэць...

Хаця б да той трубы, што клікне ўвысь,
хаця б да той нявесты, што калісь!..

Як галубок, выпырхваеш з-пад рук,
адзіны у адзінае сябрук...

А прыхініся шчочкай да мяне:
дарослым — будзеш, а маленькім — не!..

*1976*

* * *

Для майго настрою
не хапала ветру,
каб прагнаў старое
за бары, на нетру!
І любоў былую,
і былую здраду...
Колькі пагарую,
колькі буду рада!..
Слёз я не глытаю,
не шукаю зелля.
Гордая, прымаю
горкае пахмелле.
Колькі ў небе гуду
весняю парою!..
Што было — забуду,
што прыйшло — са мною...

*1975*

## СНЕЖАНЬ-СВЕЖАНЬ

Снежань-свежань,
браце мой,
ты здружы мяне з зімой!
Я з ёй чыстай быць хачу,
белых пасмаў не стапчу,
а сняжыначкі вачэй
заблішчаць яшчэ ярчэй...
Снежань-свежань,
браце мой,
раскажы, што трэба ёй,
каб мы родныя былі,
песні ва ўнісон вялі.
Снежань кажа:
буду рад,
памагу табе, як брат!..

*1976*

## ДАРУЧЭННЕ

Папрасіла жанчына мяне не ў пару,
паглядзеўшы, што рэчы збіраю:
— Калі будзеце ў нас, перадайце Пятру:
«Кохаю. Страждаю»...

Я паехала ў край, што ад нас не відаць,
поезд доўгія вёрсты гартае...
Як ад жонкі адданай камусь перадаць:
«Кохаю. Страждаю»?

Пазваніць, напісаць або ў хату зайсці
і сказаць іх з адценнямі маю?
Даручэнняў нямала я мела ў жыцці,
але гэта? «Кохаю. Страждаю»...

Вось Дняпро, вось гасцініца, вось тэлефон,
нумар, дадзены мне, набіраю...
Пэўна, ўсцешаць мужчыну уростані дзён
яе словы: «Кохаю. Страждаю»...

Дзень званіла, і два, і на трэці маўчаў
тэлефон, і была я ў адчаі:
як жа везці назад, быццам хто не прыняў,
словы веры: «Кохаю. Страждаю»?!

Па запісцы іду і шукаю Пятра.
Дом, кватэра, а ў ёй — маладая...
Вы даруйце, што ваша астыне зара,
словы шчасця: «Кохаю. Страждаю»!

*1975*

## ТЫМ, ХТО ДОРЫЦЬ БУКЕТЫ...

Цалую ў ручку, ветлае дзіця,
цалую ў шчокі, мілая дзяўчына!
Такая незабыўная прычына,
ва ўдзячным сэрцы столькі пачуцця!
Якому тут даверыцца радку?
Яго на дапамогу я гукаю —
і ў куртцы палінялай юнаку
шурпатую руку я паціскаю.
І абдымаю з горкаю слязой
паплечніц, для якіх пяю нямала...
Мы з імі назмагаліся з бядой,
пакуль жыццё півоняй забуяла!..
Ляцяць гады, як тыя летуны,
што ў вырай незваротны падаюцца...
Паплечніцы свае мне дораць сны,
а самі сціпла ў зале застаюцца...
Ім сны, і хлеб, і кветкі гадаваць,
ім часта не да вершаў, я дык знаю...
Што вартае ўзамен падараваць?
Усё жыццё шукаю і шукаю...

*1975*

* * *

На любоў глядзяць са смехам,
абы з кім ідуць дружыць...
Скокам-бокам,
бегам-спехам
не саромеюцца жыць...

Іншы звоніць, як на пожні
над мядункай авадзень.
Быццам сённяшні — апошні,
а наступны — судны дзень...

Шчасця мала, гора мала —
што за гора авадню!
Завітала? Завітала.
Набылася? Праганю...

І яна пачысціць крылы —
і ні трошачкі тугі...
Не драбніся да магілы,
свет кахання дарагі!

Будзь як быў — заўжды балючы,
ад трывог не вызваляй,
неабдымным, немінучым
сэрца шчасцем надзяляй.

Белай хусткай не махаю
журавочку-жураву.
Мучаюся — дык кахаю,
а кахаю — дык жыву...

*1975*

* * *

Пісьмо... А ў ім такія словы!
Ах, каб ля дому, дзе язмін,
раздолле і заход ружовы, —
сказаць бы ціха:
«Ты адзін...
Адзін у сэрцы ўсхваляваным,
табе — язміну белы цвет!..»
І нёс бы вечар закаханы
абодвух у дзівосны свет...
А тут — зусім другая доля:
і даль, і дрот перасцярог...
Мой друг, каханню трэба воля —
чаму ж ты волю не ўбярог?!

*1975*

* * *

Вярнуцца ў маладосць...
О, як салодка гэта!
Ты ў навучэнцаў госць,
іх ветласцю сагрэта.
Табе сваточны стол
і воплескі за слова...
Дзень добры, камсамол,
адкрыты мной нанова!
Хто там чытае верш,
а голас — нібы струны?
Сябе ты пазнаеш
у сакратарцы юнай...
Ці не табе нясе
чыюсь запіску «пошта»?
Прыбраныя усе...
Цяпер прыбрацца проста.
Цяпер і не чуваць
пра нашу галадуху...
Як добра танцаваць,
і колькі волі руху!
— Спявайце, мілы госць!
— Мая, бач, песня спета...
Вярнуцца ў маладосць...
О, як балюча гэта!

*1975*

* * *

«Калі у вас настрой благі,
купіце новую сукенку!»
Так раіла мне ў дзень тугі
адна зычлівая паненка...

Каму ж падзяку запісаць,
што я нямала, ох, нямала —
не ад жадання надзяваць —
сукенак новых накупляла!

Іх апранаць няма куды,
і пазавешваныя сценкі...
...Калі вам радасна, тады
купляйце новыя сукенкі!

*1975*

* * *

Штогод згуба за згубай —
і канца не відаць...
Мо таму гэтак любы
мне мае сорак пяць?

Ныюць стомлена косці,
лён у косах пабляк.
Я губляла, а хтосьці
пазнаходзіў. Вось так...

*1975*

## ЗАВУШНІЦЫ

Не шанцуе добрай маладзіцы...
То гарачым летам, то вясной —
два разы губляла завушніцы,
і абодва разы — па адной.

У рацэ-бістранцы косы мыла,
хараству дзівілася лілей.
Завушніцу чорную ўпусціла.
Жоўтая згубілася пазней...

Колькі год у скрусе памянёны
не купляны — дораны тавар...
Так любіла срэбра бляск чарнёны!
Так любіла сонечны янтар!

Аб знаходцы нават і не сніцца
ні гарачым летам, ні вясной...
Два разы губляла завушніцы,
і абодва разы — па адной...

*1976*

## ТРЫ КОЛЕРЫ

*Н. С.*

Два колеры валос перажыла...
Быў першы залаты, як промні сонца,
як самы светлы кужаль у красёнцах,
як квецені жытнёвае імгла...

Другі куды цямнейшы і глухі...
Адзін паэт сказаў, што ў пасмах стыне
суровы попел Брэста і Хатыні,
салома аўдавелая страхі...

Ці дажыву да трэцяга, брат мой,
і як ты назавеш той колер трэці?
Згадаецца вярбы сівое вецце
ці мо адценне сталі баявой...

*1974*

## САКАВІЦКАЯ ЗАВЕЯ

Снег бялее і бялее,
вецер б'е па твары, б'е...
Сакавіцкая завея,
дні дзіцячыя мае!

Завіруха, завіруха,
ні хаціны, ні цяпла...
Дзён ваенных заваруха
прамяла, перамяла.

Сакавік мой побач з лютым,
цеплыня гады ў рады...
Звоняць полазам акутым
дзён юнацкіх халады...

Спадзяванні веснавыя
на усім сваім вяку
бачу ў снезе, калі вые
і мяце ў сакавіку.

Але ж неяк не калею,
не канаю ў белым сне.
Сакавіцкая завея
вее сконам, ды не мне!

*1975*

## ЛЕГЕНДА, РАСКАЗАНАЯ КАРТАЙ ТУРАВА

1

Прабачце,
прапаленыя на агні
і той бок,
і гэты...
Не спадзявалася
ў даўнія дні,
што зацікаўлю паэта.

І што ў невядомым мне міры
будуць
ушацкія мальцы
аб мае лініі і пункціры
апякаць сабе пальцы...

Камандзіру атрада
дасталася я
ў падарунак.
Каб наглядней ён бачыў
сваю абладу,
вызначаў
паходу кірунак.

Ад сяла Багародзіцкага
да любога сяла і шляху
ведала я,
выводзіць каго
і весці на бой
без страху...

Выглядаю цьмянаю,
бураю —
даруйце,
кіламетроўцы!
Гэта паранілі
майго Турава
не то пад Весніцкам,
не то ў Бароўцы...

А было,
калі акружылі
партызанаў
у маі,
хоць напружвала я сваё жыллё,
ды была як нямая!

2

Не падказала,
нібы не ўмела,
куды падацца...
Даруйце,
з гора тады хацела
анучай стацца...

...У музеі паляць брыкетам,
я не калею.
Спатрэбілася паэтам,
спатрэбілася музею.

Экскурсіі ходзяць,
словы я чую родныя...
А сны мне тут сняцца
дымныя ды паходныя...

*1975*

# НЕ СПІ... [illegible]

Не спі — не пачуеш жаўронка,
не спі — не пабачыш вясну, —
яна, нібы струначку, звонка
пахіствае хваіну.

Не спі — ужо людзі усталі,
дом поўніцца рэхам бароў.
Апошнія льдзінкі расталі,
вадзіца гарыць, нібы кроў.

Як быццам параніла сонца
халоднай зімы дзіцянят, —
памерлі яны, і бясконца
ім жаўранкі славу звіняць...

*1974*

## ЮБІЛЕЙНЫ ДОМ

Дом атрымаўся адмысловы,
У сценах вокнаў — нібы сот,
І цэглай выкладзены словы:
«Мінску — 900».

Праносяцца машыны міма,
Тралейбусы у парк бягуць.
Я еду, а перад вачыма
Паверхі гонкія ўстаюць.

Ці прастаяць яны стагоддзе?
Ды прастаяць, чаму не так!
На новым доме «Мінску — 1000»
Напіша будаўнік-мастак!

А я ці ўбачу?
Я не ўбачу...
Дык стой жа моцна, светлы дом:
Цябе я на той век прызначу
Сваім негаваркім
паслом...

*1968*

* * *

Прытамілася лета, спадае спякота, —
і сыночку у школу, і коцік падрос...
Пакрысе надыходзіць глухая маркота
да маіх яшчэ ў гладкай лістоце бяроз.

Я ім сокі даю, іх на ноч паліваю,
каб яшчэ пастаялі, а ўранні цішком
павуціны бялюткай ніццё абрываю,
чую шоргат — і ў горле няпрошаны ком...

Падрастае адно, замірае другое, —
і чытала, і ведаю, а не магу,
як звычайнае, бачыць лісцё нежывое
і сухое быллё на былым мурагу...

*1971*

* * *

Рэдактар кажа: дайце пра грамадскае,
А я прынесла вершы —
пра сваё...
Бяру назад, нібы дабро жабрацкае,
І сэрца захлынаецца маё.

Не маючы ў душы карыснай мэты,
Не прагнучы усеабдымнай быць,
Я свой здабытак несла у газету,
Я несла, каб аддаць, а не прасіць.

Ён быў з маіх нямудрых слоў сатканы,
Спавіты думкай простаю, як дзень,
У модныя анучы не прыбраны,
Як той славуты з пагаворкі пень.

І вось мужчыне хмурнаму здалося,
Што вершы пра маё —
чужыя тым,
Хто цэглу лепіць, мацае калоссе
І плача на кургане залатым...

Рэдактар мой, на грамаду не звальвай,
У грамады надзвычай чулы слых.
Мы з грамадою гэтай гаравалі
І цешыліся з радасцей адных.

І грамада і я —
нас, блізкіх, двое...
Дай грамадзе маё, а не чужое!

*1972*

## МАЙМУ ВЫЗВАЛІЦЕЛЮ

> «...я вырашыў змяніць напрамак наступлення 1-га танкавага корпуса замест Лепеля на Камень і далей на Ушачы... 27 чэрвеня часці корпуса павінны былі вызваліць Ушачы... 29 чэрвеня яны авалодалі Ушачамі...»
>
> *І. Х. Баграмян. «Бітва за Беларусь»*

— Тост мой — за маршала Баграмяна!..
Гэта было урачыста і проста,
побач сядзелі сябры і слухмяна
ўсталі, прыгожыя, гонкія ростам.

Ў чарках — армянскі каньяк залацісты,
і ў даляглядзе — армянскія горы...
Дужа далёка лес мой іглісты,
дужа далёка ваеннае гора.

...Мы пад блакадай, нам недзе падзецца,
хаты палаюць, палаюць палеткі...
Мёртвыя маці, мёртвыя дзеці,
мы — той навалы нячастыя сведкі...

Дзень альбо два — і суцэльнай пустэчай
стане навечна край мой збалелы...
Але над картай сутуляцца плечы,
мяняюць кірунак чырвоныя стрэлы.

Танкам — на Ўшачы,
«кацюшам» — на Ўшачы!
Чуеце, хлопцы, прызыў маладзенькі?
Ваша сястра белакосая плача,
збіла над дымнай магілай каленькі...

...Тост мой — за маршала Баграмяна,
за вызваліцеля роднай айчыны!
Ўстаньце, мае землякі, палымяна
ўславім далёкай Арменіі сына!

*1974*

* * *

І лажылася з вершам,
і з вершам устала...
Я табе прызнаюся —
Купала, Купала.

Прызнаюся, што рада
стыхійнай навале.
Гэта шчасце быць блізкай
Купале, Купале!

Гэта шчасце душою быць
чыстай, як шклянка,
І звінець крышталёва,
як Янка, як Янка...

Ганаруся і дзякую
шчыра за гэта
Я радзіме маёй
і паэту, паэту!

*1974*

## ВАСІЛЬКІ НА ПРАСПЕКЦЕ

Перад вітрынай каля ГУМа,
дзе прадаюцца піражкі,
маўклівай сінню сярод тлуму
лінулі ў вочы васількі!..

Куды ішла, куды спяшыла?
Ў кінатэатрык на рагу...
Не падышла і не купіла
цвет, без якога не магу.

Мне з ім і ўлетку люба ў полі,
а тут глядзіць сярод імжы.
Было б жмутка таго даволі
сум вераснёўскі перажыць...

Тым фільмам, забаўкаю штучнай,
душа і дня не пражыла...
А тут бы з полем неразлучнай
да зблеклай красачкі была!..

Ды нехта ў чарадзе рабочай
спыніўся, васількі купіў,
тады ўжо хуценька пакрочыў:
кіно і краскі — спалучыў!

*1971*

## ПАЛКОЎНІКІ — [illegible]

Ажно сціхлі ў куце гармонікі,
у вагоне — дзіва само:
купляюць марожанае [illegible]
палкоўнікі,
на тоненькіх палачках эскімо,
рагазовыя шышачкі — эскімо...
Чыннасць і велічнасць
занядбаны,
сталі падобнымі да хлапчукоў...
Ядуць марожанае
ветэраны,
сарамлівыя позіркі з-пад казыркоў.
Трэба трываць тут, не ўсміхацца,
у акно я гляджу знарок...
Ешце, дзядзечкі!
Па пятнаццаць
вам нібыта, а скора урок.
Скора быццам званок —
на сечу
ён пакліча, пакліча вас
пад Сінельнікава,
пад Унечу,
на крывавы ў агні
Каўказ.

Вы ў пагончыках лейтэнантаў
скора станеце ў строй палка
супраць танкаў,
супраць дэсантаў,
супраць кулі, супраць штыка...
Ешце, дзядзечкі!
Трохі хмарыцца,
адзвінелі даўно званкі...
Пасівелыя
акулярнікі
на грудзях —
акадэмій значкі...

Эскімо, чарацінка тонкая...
А музыкі глядзяць на іх —
і спявае трохрадка звонкая
для палкоўнікаў,
для сваіх!

*1971*

## ВАЛЯР'ЯНА

Прайдзі па вымаклай нізіне,
Згані з кустоў прырэчных сон, —
Убачыш на даўгой тычыне
Бялявы кволы парасон.

Сарві яго няўмела ўлетку,
Каб корань лекавы здабыць,
Тады здабудзеш толькі кветку,
А корань будзе ў глебе жыць.

Яго і росціць, і трымае
Зямля, здаровая заўжды.
Таму той корань сілу мае
Даць рады сэрцу ў час бяды.

*1960*

* * *

О вецер-вятрыла, ні зімка, ні восень,
а ты задзьмуваеш апошнюю просінь!
Ляціш, паліто і хусцінку здзіраеш,
дубцамі зямлю, нібы вотчым, караеш...

О вецер-вятрыла,
сарваныя дахі,
бяссільныя ўзбіцца на плынь сваю птахі,
садок акуратны глядзіць абарванцам,
сагнутым дзядком —
хлапчанё маё з ранцам...

О вецер-вятрыла,
шуміш ты дзяржаўна!
Але ўжо не плача твая Яраслаўна.
З паходаў вяртаецца князь яе смелы:
струхлелі адвечныя ханскія стрэлы!..

*1972*

## ШТРЫХ

Я луг шкадавала
за тое, што косяць касою...
Шкадавала канька сляпога,
пеўніка, што адмарозіў грэбень зімою,
галінку зламаную глогу.

Растаптанага мятліка
і кароўку —
божую і з рагамі,
калі яна з галоднай зімоўкі
зусім слабла нагамі.

Яе за рогі,
за хвост цягнулі, —
госпадзі, хоць бы дайшла да папару!..
Слёзы вялікіх вачэй рагулі
цякуць па маім твары...

Так і жыву, хоць ясна, хоць курыцца,
хварэю з кожнай жывое страты.
Памру з голаду —
а не зарэжу курыцы,
і ніхто ў гэтым не вінаваты.

Можа, лугі вінавацяць,
можа,
мятлікаў, божых каровак, галінку?
Сэрца наколваецца
бязбожна
на кожную высахлую травінку...

*1974*

## НАДЗЕЯ

Каб не было надзеі,
Не залаціўся б колас.
Каб не было надзеі,
не вырастаў бы дуб.
Не хвалявалася б сэрца,
Не акрыляў бы голас
І не здавалася б любай
Чырвань жаданых губ...
    Крочым з надзеяй поплеч
    Роўныя, як блізняты.
    Перамаглі з надзеяй
    Многае на вяку.
    Толькі згублю я надзею —
    Знойдзе ў той момант заціты,
    Цяжка надзеі жывецца —
    Ёй падаю руку.
Мы дасягнём вялікай,
Самай прыгожай мэты.
Я і тады, напэўна,
Ёй не скажу «бывай»:
Будзе ж патрэбна сеяць,
Колас чакаць нагрэты
І падымаць на далонях
Спелы цяжкі каравай!

*1961*

* * *

Не журыце мяне, людзі добрыя,
Што жыву між вас — як уздумаю...
Вы заўзятыя — я харобрая,
Вы шчаслівыя — я бяду маю...

Я бяду маю —
Думу думаю,
Каб шчаслівых больш нараджалася,
Каб апошнюю доляй сумнаю
Доля ўласная заставалася...

*1975*

* * *

Мае жанчыны ходзяць да мяне,
і мушу я трымаць сябе «у форме»...
Вось мой сямейны дом,
пейзажа шкло тут на сцяне,
на кухні — цеста ў форме.

Вось ложак пад крухмальным палатном
з яшчэ дзявочай вышыўкай па краю...
Сваіх жанчын адкрыта сустракаю,
і тыя бачаць: гэтак і жывём!

Ці прыкладна жывём для прыгажунь,
як гаспадыня, я не дазнаюся...
Пра белізну палотнаў клапачуся
і каб мая не блякла ў рамцы рунь...

*1976*

* * *

Калі рабіна не жадала
адной застацца на вяку,
дык ягады штогод люляла
пры сонейкавым бальшаку.

Хоць раздарыла шматгалоссе
сваіх курчавых дзіцянят,
ды трохі й поплеч засталося —
стаіць з маленечкімі ў рад.

Ёсць пашаптацца з кім, паплакаць
пад непрыкаяным дажджом,
а той галінкаю паляпаць
таго, хто горбіцца плячом...

На што ж істота спадзяецца,
калі ашчадным быў вянец?
Рабіне ў прыцемку здаецца
з каралаў мёрзлых грабянец...

*1975*



## СНЫ

Складу свой соннік, як умею,
няхай смяюцца хлапчукі...
Мне на дарогу сняцца змеі
і доўгія палавікі...

Яечак крушня — на нястачу,
грыбы ўсялякія — на хвор,
і пацалункі — не іначай
як на хваробу ці дакор.

Сасню сябе ў сукенцы белай —
каханне ступіць на парог.
Сасню, што капялюш надзела, —
хтось акаўпачыць, далібог!..

Быў сон — губляла свой пярсцёнак,
губляла шчасце сапраўды.
Быў чалавек у сне — дзіцёнак,
малым, душой і справамі,
застаўся на гады...

А коні!..
Даруйце мне, прыгажуны,
што праклінаць мне вас і сёння...
Нашто прымчаліся у сны?

Ужо я верыла, што буду
жаданай, як той светлы май,
вы ж праімчаліся з упуду —
і хоць вачэй не адчыняй:

падману быць, ён быстраногі,
ён налятае дратаваць.
У сне я клічу дапамогі,
а дапамогі не чуваць...

*1977*

* * *

Мы амаль што чужыя, у нас
Толькі некалькі сціплых сустрэч,
Але нават бязлітасны час
Не прагоніць ніводную прэч.

Мы ішлі па расе басанож.
Дарагіх ты мне слоў не сказаў.
Але я іх пачула усё ж —
Ты іх дрэвам усе перадаў.

І дубы шалясцелі ўначы
І уздрыгвалі да каранёў...
Спачываў на дзявочым плячы
Ціхі ліст у агні прамянёў.

Калі выдасца момант цяжкі,
Я іду — дзе раса, дзе масток,
І тулю да гарачай шчакі
Са знаёмага дрэва лісток...

*1960*

* * *

У жыцці з яго днямі крутымі,
у быцці, дзе і хітрасць, і зман,
сустракаюцца людзі, з якімі
прастата — самы лепшы твой стан.
Адчуваеш — твой жарт зразумелы,
зразумелы настрой за сталом...
Не ўпіваюцца словы, як стрэлы,
а папрок не мяжуе са злом.
Ды прычыны няма для папрокаў:
вось твой стол,
                    вось твой хлеб,
                                        вось і жарт...
Чалавек, што лунае высока,
з вышыні не даказвае гарт.
А сядзіць насупроць — важкаваты
ад хады, ад крутога жыцця,
і цярэбіць свой лоб гузаваты,
і смяецца вачмі, як дзіця...

*1974*

* * *

Хадзіў збіраць сваё каменне,
пачуўшы пра знаходкі звон, —
і высыпаў мне на калені
зусім-зусім не халцэдон...
Бабінкі шпату і граніту,
якую-небудзь кроплю шкла,
што морам мыта-перамыта
і перайначана датла...
Шукаў, дзе скалы, вецце раскі,
і радасны пачуўся крык!
Як здагадаўся без падказкі,
што на далоні — сердалік?
А так, па колеры адзіным,
што толькі з ружаю сарвеш,
па лёгкасці яго радзіннай
і па празрыстасці... Як верш...

*1975*

* * *

Спакайней, спакайней, дарагая,
маладосць пакрысе адыходзіць...
Незнаёмка — пара другая,
але новае нешта народзіць!..

Ты ж заўсёды любіла, што нова,
што яшчэ толькі стукае ў дзверы.
Успрымі, як лісток кляновы,
а не ліст шурпатай паперы...

Зрэшты, можна і на шурпатай
маляваць свае хрызантэмы,
шкадаваць пад абветранай хатай
гваздзікоў непагасных бярэмы...

*1975*

## ВЕРАСНЮ

Яшчэ ліства не злятае,
Яшчэ не відаць слаты,
А я іду і пытаю:
— Верасень,
гэта ты?

Верыцца і не верыцца —
Сіверка завіхрыў...
Верасень,
Можа, вернешся
Туды, дзе ўсё лета быў?

Можа, дасі дагрэцца
Лістам і атаве сырой?
Абяцаю з табой сустрэцца,
Але — за дальняй гарой!..

Не слухае,
непаседа,
Ветразь барвовы плыве...
А я ж прашу дзеля лета,
Якое
жыве.

*1964*

## НА ЛАСІНЫМ БАЛОЦЕ

Жыву на Ласіным балоце, —
а дзе яшчэ жыць я магу!
У гэтай прабеленай слоце,
на гэтым купчастым імху.

На купінах, побач з лясінай,
рудой і высокай — да хмар.
У дружбе з сям'ёю ласінай,
што гэты абрала абшар.

Страчаю сям'ю пералётных,
па сонцы ў брусніцу бягу...
У слове «балота»
балотных
адценняў трываць не магу...

*1976*

## ДАЎНІ ЗДЫМАК

*У. К.*

Чаго мне на яго ўглядацца?
Гусцейшы волас, лоб гладзей...
На ім на дзесяць ці пятнаццаць
гадоў я ўсё-ткі маладзей...

Тады чаму сышліся бровы
да пераносся, і далонь
шчаку падперла, і суровы
застыў у позірку агонь?

Так фотакор, вядомы майстра,
мяне стараўся «памудрыць»,
а ўвекавечыў адчуванне
бяды, што ў полі набяжыць...

Пражыла, старых даволі...
Зрабі мне здымачкі са два
у прадчуванні шчаснай долі,
у прадчуванні хараства!

*1976*

* * *

Ці гэта я нядаўна бедавала,
Што сціснулася сэрца нематой,
І па харошым ранку сумавала,
Калі загавару з надзеяй той,

Што кожны дзень мяне заве, гукае
І дзівіцца нібы, калі маўчу.
Я свежы ранак шчыра сустракаю,
Спяшаюся, натхняюся, лячу.

Мне некалі. Дагнаць мне тое трэба,
Што упусціла, седзячы ў журбе.
Хай дзівіцца палюбленае неба,
Хай забіраюць шаты да сябе!

Мне ім зрабіць, мне ім сказаць —
нямала,
Я ім такія словы прынясу,
Што ў самым сэрцы доўга гадавала,
Каб усхваліць надзею і красу!

*1976*

* * *

Калі на Ўшаччыну я еду,
дык думаюць, што я дамоў...
Ад дому там няма і следу,
як ад сакáвіцкіх грамоў.

Там я ў гасцініцы начую,
заходжу часам у райком.
Пясок нагамі бараную,
а ў горле вечна жалю ком.

Такі той дом, зямля такая,
што толькі плакаць на траве...
Жывым ўсё мёртвае ўзнікае,
і дужа цяжка галаве...

І не запеўкі, а заплачкі
паездкі гэтыя даюць...
Адна і ўцеха, што зямлячку
на кожнай вулцы пазнаюць!

*1976*

* * *

«Не шкадую таго, што было і што ёсць...»
Хіба гэтыя словы патрэбны,
калі ты ёй — сапраўдны жаданы, не госць
ў садовым палацы паднебным!

Калі сэрца застылае раптам пяе
сярод дня і духмянае ночы...
Калі бачыш: ад шчасця, ад шчасця яе
загараюцца сінія вочы!..

За няпраўдай хаваеш душу, ягамосць,
адмаўляеш самому у цудзе...
Ты падзякуй таму, што было і што ёсць,
а то болей нічога не будзе.

*1976*

## ТРЫЯЛЕТ

Чакаю я твайго ліста —
Прыносяць ліст не твой, другога...
Няма запалу маладога:
Чакаю я твайго ліста!

Зірну на лістаносца строга,
Спытаю, а ці ўсе дастаў...
Чакаю я твайго ліста —
Прыносяць ліст не твой, другога.

*1957*

## ШКОЛЬНЫ ПАЭТ

Свой верш чытаў хлапчук смуглявы...
І уявілася:
з ракі
павеяў вецер кучаравы
і закугікалі ныркі.

Заліўся салавейка вольны,
кусты заззялі пад расой...
Паэт ён, мне сказалі,
школьны,
а я падумала: ён мой...

Ці ж я не тое адчувала,
ці ж ён не тое напісаў,
што родная зямля сказала
і весні вецер нашаптаў?

Ці ж я не ўспомніла аб страце,
аб тым, што ўжо схавала даль?..
Расці, паэт, расці, мой браце,
з душою чыстай, як крышталь!

*1966*

## ПРАЎДА ПАЭЗІІ

Жартоўны верш аднойчы напісала,
хто ў добры час не любіць жартаваць!
Канчаўся ён —
ні многа і ні мала:
«пад дубам... маладога цалаваць».

Жартоўны верш у перакладзе боскім
пайшоў гуляць па свеце, і дайшоў
да пэўнае калоніі за Омскам,
і чытача журботнага знайшоў.

І піша ён мне ўжо не пяцігоддзе,
а нават больш,
што вершамі жыве,
і просьбу незвычайную даводзіць,
і просьба тая вечна ў галаве:

— Сястра мая,
прашу вас,
не пішыце:
«Пад дубам... маладога цалаваць!»
Як уяўлю,
што вы к яму імчыце,
дык мне і сонца ў небе не відаць...

О божачка,
куды я тут імчала,
ні маладых, ні сталых у мяне.
Благога не падумаўшы, сказала,
а чалавеку рэўнасць плечы гне...

*1976*

* * *

Не вінаваты высакосны год,
Што перажыта бедаў да скanання...
Нядобра спланавала свой паход
За песнямі, за шчырасцю кахання!

На нейкім кіламетры быў завал,
На нейкім — дзікаватая засада.
Не разгараўся полымем запал,
Мелодыю перапыняла звада...

У новым годзе — новае спяваць
Пра шыр палёў і сонца напрадвесні...
Але патрэбна добра спланаваць
Свае паходы па дабро і песню!

*1974*

* * *

Чаму значэння не надам,
калі душой перажываю
я лёгкі закід ваш, мадам,
майму нялёгкай долі краю!

Мы гаварылі пра вайну...
Вядома, як у нас жылося
тады, калі не знала сну
ні чалавецтва, ні калоссе...

А вы сказалі: «Каму — як!..»
Лясныя згадваю туманы,
травой замешаны праснак...
Як вам жылося, партызаны?

Як вам жылося, землякі,
на пятачку зямлі чырвонай,
калі даймалі не ваўкі,
а зграі арміі шалёнай?!

Мае сябры з гарэлых школ,
як вам жылося, не кажыце:
у сэрцы — ружжаў частакол
і вашы курганочкі ў жыце.

Дык кіньце жартачкі, мадам,
з усмешкай вашаю чужацкай:
жылося нам не так, як вам, —
далёка ад бяды зямляцкай!..

*1972*

* * *

Ужо магу хадзіць без плачу
па сцежках беднага маленства,
глядзець з мастка ў сваю Ушачу,
успомненую да каленца,
і уяўляць
людзей і песні,
якія там жылі, дзе пуста,
ці дзе, пакуль аж лёд не трэсне,
сінее сытая капуста...

Загартавалася. Не плачу
па страчанаму дарагому
і тых у сэрцы сарамачу,
каторыя баяцца дому...

*1975*

## ПА РАДЫЁ ПЕСНЯ...

Па радыё песня мая прагучала,
я ведала, песня і сына кране.
А ён засаромеўся, мой запявала:
— У класе цяпер пасмяюцца з мяне...
— Чаму?!
— Ды таму, што пяецца пра сына...
Ну, як апраўдацца прад чыстай душой!
Песні пачутай не трэба супыну,
любае слова хай свеціцца ў ёй.

Сябры даражэнькія, вырай наш вескі,
такі шчабятлівы, спагадлівы клас!
Чаго ж вам смяяцца з матулінай песні?
Лічыце, што песня — пра кожнага з вас!

*1973*



* * *

Свайму уменню рада і не рада,
яго, як боль няпрошаны, таю.
Я чалавека з першага пагляду,
ці добры ён, ці дрэнны, — пазнаю.

Калі ён добры — раскрываю сэрца,
калі паганы — не магу хітрыць,
і незычліўца хутка нажываю,
бо не магу з ім сэрцам гаварыць...

А часам спадзяюся на памылку
і думаю, што усталюю лад
якраз з такім, каго знішчаў у былку
беспамылковы першы той пагляд!..

*1973*

## ПАДЗЯКА

Жывучы ў зарэччы лясістым,
У малыя свае гады
Я зайздросціла ўсім машыністам,
Што па рэйках вядуць паязды.

Я лічыла, што лепшай на свеце,
Чымся іхняя, працы няма.
І ў зацішаным падпаскавым леце
Той прафесіі прагла сама.

Гэта ж, думала я, чалавеку,
Што заўсёды на цягніку,
Гарады ўсе відаць, і рэкі,
І ласі ў прыдарожным барку.

А народу якога не бачаць
Машыністы на розных пуцях!..
Я сачыла, як конікі скачуць,
І тады ж парашыла: у шлях!

За бары, за лясы, за пасёлкі,
За змяістыя рэчкі хутчэй —
Аж туды, дзе ўстаюць вясёлкі,
Дзе без цёмных жывуць начэй,

Дзе, напэўна, дымяць заводы,
Дзе друкуюцца кніжак стусы!..
І рыпелі ўначы падводы,
І шапталі «ідзі» верасы...

Шмат пабачыла, вочы не плачуць,
Шмат прайшоўшы, я зноў устаю...
Машыністы, як вам аддзячыць,
Што паклікалі мару маю!

*1974*

## РАБОЧАЯ СЕРАБРАНКА

Вячэрні вятрыска
звініць серабром,
бы просіцца ў новы сярэбраны дом.

А ў новым сярэбраным доме
балконаў утульных, як сот.
А ў доме на волі, на строме
жыве незвычайны народ.

Народ гэты просты, нячынны,
яшчэ не ў мудрэцкіх гадах,
а робіць такую машыну,
што цудам завуць на палях!

Яе як жывую люляюць,
даюць ёй і сэрца і зрок,
шчаслівае долі жадаюць,
жыцця без заган і памрок.

Імя яна гордае мае,
завуць, як Радзіму, яе...
У доме народ спачывае,
што трактар наш слаўны куе.

Куе залатое багацце
ў сусветна вядомых цахах.
Барвовыя блікі на плацці,
гарачая стома ў руках...

Рабочы куток — Серабранка,
сярэбрана вецер звініць.
Ускраінная заранка
у шыбы ад ранку глядзіць...

*1976*

## РУКІ МУЖЧЫНСКІЯ

Рукі, вы даяце нам хлеб
І сакавіцкія сінія кветкі.
Робіце ўсё вы за іншыя лепш,
Робіце добрае — неўзаметку.

Цяжкую, рукі, вы працу змаглі,
Поле аралі, рабілі пакоўкі.
Але вы лёгкія вельмі, калі
Гладзіце неслухаў родных галоўкі.

Вы трапяткія, калі бераце
Рукі нявесты ці жонкі адданай.
Дужасць прывабная ваша расце
Ў працы сумленнай,
старраннай.

Слаўна вам сеяць і гадаваць,
Горкае век не зазнаўшы прынукі, —
Зброі б вось толькі зусім не трымаць
Вам, залатыя мужчынскія рукі!

*1964*

* * *

Выпадак у жыцці не рэдкі:
лічыў ты сябра дарагім,
а ён аказваўся не гэткім,
а ён аказваўся не тым...

Ты да яго, як да святога,
ішоў з удачай і дабром,
а ён не нёс табе нічога,
апроч камення пад крысом...

І ён жыве, і ён не скрозь біт,
але заўважыць і дзіця,
хто з двух вас шчаслівейшы носьбіт
у ходзе чыстага жыцця!..

*1975*

## ЭКСКУРСІЯ Ў РЫГУ

Павярхоўных экскурсій не трэба,
тлумачэнняў не трэба вядомых...
Дайце госці спакойнае неба,
дайце сцежку ад дома да дома.

Пагляджу,
                што вякі збудавалі,
што сябрамі вякам абяцана.
Буду жвавай на Даўгавы хвалі,
буду ціхай на хвалі аргана...

На алеі,
            дзе Райнісу кветкі,
скінуць госця гатова абуткі, —
і прыпыняцца ногі паэткі
ля звычайнай, над провадам, будкі...

Гэты провад —
                        хіба ён не звяжа
момант існы з няшчадна мінулым?
Гэты провад —
                        хіба не раскажа
пра душу,
              што зусім не заснула?!

Ні гары перад будкай, ні ганка,
ні маланак навокал, ні грому...
Патапталася экскурсантка
і паехала ў суме дадому...

*1974*

* * *

Позна вечарам у горадзе пустынна,
ні вітрыны не гудуць,
ні кабарэ.
Позна вечарам як едзеш,
штохвілінна
сум няпрошаны душу
ў палон бярэ...

Не бядней мы за славутыя еўропы, —
проста надта заклапочаны народ...
Нам баляць
усе патравы і патопы,
і шкадуем мы сябе на ўсякі зброд.

Нас на познія ў неонах пагулянкі,
каб і вельмі захацелі,
не стае.
Над дзятвою рабацягі-гараджанкі,
гараджанін вечар планам аддае.

Бо мацней за вольны вечар
любіць ранне,
што пакліча да працоўнага стырна...
Рупнай нацыі нязводнае старанне,
каб звялася ўсё ж нязводная вайна!

...Позна вечарам у горадзе пустынна,
ззяе ціхае цяпельца ліхтароў.
І заве на сцежку роздуму гасцінна
кожны садзік
белізной сваіх снягоў...

*1976*

* * *

Пра ўсё пагаварылі, мой харошы, —
пра новы год і новы мой убор,
пра дарагую снежную парошу,
што кліча з сутарэння на прастор...

Пра ўсё пагаварылі з добрай мерай
умення, ведаў, стрыманасці той,
што не забудзе паглядзець на дзверы,
дзе ходзіць люд з цікаўнасцю людской...

Пагаварылі: вершы і навука,
адкрыты ямб і плазменны сакрэт...
Але скажы мне: дзе яна, зарука
ад той маланкі, што абдасць наш свет!

Няма зарукі, як няма разгадкі
палёту мыслі, голасу душы, —
і на ілбе сваім высокім складкі
з-за гэтага зусім не варушы...

Працэс пачаўся, заірдзела слова,
і палыхне прыстойнасці туга,
як палыхае ў вас «дуга Пятрова»
ці, можа, «К... дуга»!..

*1975*

* * *

Якія зараз дзеці вырастаюць!
Народжаныя ў шчасці, дабрыні,
яны растуць як на драждждах, зірні,
падлеткамі аблокаў дасягаюць.

Ідзе пры маме гэтакі атлет —
спартыўная пастава і адзенне...
Насустрач — дзеўчаня на заглядзенне,
і ножкі — хоць сягоння у балет!..

О ножкі, ножкі, дзе яны, балеты
для тых, што плюшчыў бежанскі
хатуль!
Сама адтуль,
дзе плакалі ад куль
і елі лебядовыя «катлеты»...

Шкадую ўсіх, хто з год маіх
нішчымных,
і шчасная за ўсіх, хто ўстаў пасля.
Сваімі дзецьмі цешыцца зямля
і славіць дабрабыт у росных гімнах...

*1976*

* * *

Калі вас не зразумелі —
Горка гэта.
Áдказаць не захацелі —
Крыўдна гэта.
Міма вас прайшліся хмарай —
Гэта цяжка,
Пыхнуў твар агнём-пажарам —
Ой, як цяжка!
Калі вас не зразумелі —
Памаўчыце.
Ў слёзы хустку тонкай белі
Не мачыце.
Хай збірае час-збавіцель
Крыўды крошкі.
Хай памучыцца крыўдзіцель,
Хоць бы трошкі...

*1956*

* * *

Ёсць у вершах запісныя ныцікі,
ім і ураджай — як недарод...
...Злосныя радкі шануюць крытыкі,
добрыя радкі бярэ народ.

*1975*

* * *

Як многа добрых вершаў, божа мой!
Вось «Дзень паэзіі» — не дзень, а год...
У добрым вершы — радуга дугой
І молата знясіленага ўзлёт.

Чыясь любоў, спякота даўніх ран,
Яснота зацікаўленых вачэй...
У добрым вершы нават золкі зман
І подласць выглядаюць харашэй.

Адно шкада, што добрыя радкі
Ніколі не чытаюць падлюкі...

*1976*

## ЗВОНЬ

Над Звонню — звон, ля Звоні — сінь:
Званочкі ладзяць карагоды...
Пад Звонню шапку ў грэчку кінь —
І шапка ўраз прапахне мёдам!

Госць вёску Звонь не абміне:
І вып'е ў меру, і закусіць.
А гора ў гэтай старане —
Што мо пчала калі укусіць!

У Звоні любяць пчолаў гуд,
Званок на ганку сямігодкі,
Падковак стук аб гулкі груд
І крыгазвон у дні паводкі...

Звіняць у поўдзень мурагі
Мелодыяй калгаснай працы,
Каб звон нялюдскі і благі
Павек сюды не змог прабрацца!

*1957*

## ЗАМЕСТ ПЕСНІ

Сягоння субота,
а заўтра нядзеля...
Чаму ў цябе, сынку,
хусцінка не бела?

Хусцінка не бела,
матуля хварэла...
Не рожай нягожай,
не тыфам хварэла.

Хварэла-стагнала,
малога люляла...
Ад крыўды людское
матуля стагнала...

Памыта хусцінка,
святлее хлапчынка.
Не вымыта крыўда,
яна ж не хусцінка!..

*1975*

## ВЯЧЭРНІ МІНСК

Вячэрні Мінск у мроіве агнёў,
бліскучыя праспекты маладыя,
а на газонах — травы лугавыя,
а ў шуме паркаў — подыхі гаёў!..

Ніхто само у горад не прыйшло —
ні парастак бярозкі, ні цагліна...
Рукам удзячна кожная руіна,
рукам, што білі друз і мылі шкло.

Рабоце рукі не давалі стыць,
яны будоўлі не ўракліся смелай, —
і Свіслачы, ад гора закарэлай,
прамылі твар, і вось яна бруіць.

І вось масты ажурныя над ёй,
глядзяць палацы чыстыя у воды...
Вышэйшае няма узнагароды
для рук, што будавалі горад мой!

Няма для сэрца даражэй зямлі,
чым тая, што ў нядолі ўзгадавала...
Гукаю: «Вечар добранькі, Купала,
а мы да шчасця ўсё-ткі дажылі!

Зірніце, як пашырыўся Ваш сад
і колькі ў ім сяброў звонкагалосых!
Уся трава у дыяментах-росах,
а ў небе цёмна-сінім — зоркапад...»

Прасторны горад любы песняру,
ён быццам падае свой згодны голас...
І ў роздуме схіліўся мудры Колас,
вячэрнюю страчаючы зару...

*1976*

* * *

Ёсць раён, адкуль ты родам,
ёсць мясціны, дзе жывуць
людзі добрыя, нядарам
іх па-добраму завуць.
Будзеш госцем, калі пойдзеш
ад сяла і да сяла.
На прасёлках тое знойдзеш,
чаго ў свеце не знайшла.
Кожны лапік сэрцу мілы,
кожны жаваранак — свой.
І няма на свеце сілы
адабраць яго ў жывой...

*1975*

* * *

Мне людзі не даюць маіх гадоў,
я рада маладжавасці нязманнай...
Лёс не карміў мяне нябеснай маннай,
не грэлі кушчы райскія садоў.

Я ўдзячная сівой сваёй вясне,
яна заўжды са мной на сцежцы спеўнай
і ў тым, што клічуць чысцінёй
душэўнай
у іншых, а магчыма, і ў мяне...

*1976*

* * *

У горадзе такіх вятроў няма,
як тут ірвуць, дзе наваселле наша...
Прыезджы кажа: «Проста Калыма!» —
і сам сябе, і сябра гэтым страшыць...

Ну, Калыма, ну, хай сабе гудзе,
не кожны для праспектаў нарадзіўся...
Я сунуся ў завеі, што нідзе,
і вецер не малю, каб адчапіўся.

Няхай мяце з патугай самай злой,
вясне-красне дарогу размятае!
Завеі скончацца! На Калыме маёй
жаўронак самы першы заспявае!..

*1975*

* * *

Перад касьбою мурагі жаўцей
і даражэй румянка і званочак...
Я пачынаю шкадаваць дзяцей,
нібыта ўсе яны мне — як сыночак...
Яны — наш жоўты з дзьмухаўца вянок,
сцяблінкавае наша паўтарэнне...
У даль сыду, а па слядах званок
зазвоніць, сіні, і вясну сустрэне!

*1969*

* * *

І смешна, калі нейкі зух лапоча
за каньяком ці першаком сівым:
«Народнай стаць кабета ці не хоча,
ці не карціць ёй званне ў сне тым-сім!»

Спыніцеся, бо зайздрасці прадонне
мяжуе зрок і прытупляе слых.
А я чыя, па-вашаму, і сёння —
без званняў і рэгалій запісных?

Што ні на ёсць народная — з-пад болю,
з-пад снегу, з-пад няўтульнага дажджу,
з усёй айчыннай волі і няволі
на свет вачамі горкімі гляджу.

Інакшых і не ведаю пагодаў,
інакшай не прымаю пекнаты...
Калі ты не народны, не народаў,
дык, можа быць, антынародны ты?

Тады кідай пяро і не марнуйся:
абгоніць паўзуна лясны мой лось!
За месца ў сэрцах людцаў не таргуйся —
яно ў мяне такое, як і ёсць.

Якое ж будзе — хай рашаюць людзі,
я з імі без рысоўкі гавару,
і марачы і не — аб гордым цудзе,
што, можа, лёс вядомых паўтару...

*1975*

## НЕНАПІСАНЫ ПАРТРЭТ

*Памяці І. Ахрэмчыка*

Якой бы я была на тым партрэце —
не ведаю, яго забрала смерць...
Над ім цяпер вярбы плакучай вецце,
журботнае лістоты кругаверць...

Кажу — «над ім», і гэта зразумела:
над белым майстрам вобразаў жывых.
Кажу — «над ім», хаця б і не хацела:
над вобразам нястворапым сваім...

Гаворкі з мастаком успамінаю
і шум бяроз у восеньскім бары.
Званок ягоны: «Сёння пачынаем!..»
Праз дзень: «Памёр стары»...

Не пачалі... Уражаная, чую
плач Шумана над крэпавай труной
і плачу забабонна не дарую,
бо ён гучыць крыху і нада мной...

*1976*

## ПОМНІК РЭГУЛІРОЎШЧЫЦЫ

Такую, як сустрэла ў стэпе,
я знаю з песень і кіно...
У полі жоўтым, бы ў сурэпе,
яна стаіць ужо даўно.
Ваенная не збыта праца,
шырокі пругкіх рук размах...
А ў спёку ластаўкі садзяцца
спачыць на бронзавых сцяжках.
А скрозь не танкі, не гарматы —
камбайны, трактары гудуць.
Да скрыжавання хлапчаняты
абозы хлебныя вядуць.
Паспець патрэбна па пагодзе
ды без патрат, без пацярух...
Дзяўчына гэтая ў пілотцы
і сёння рэгулюе рух!

*1976*

* * *

Гляджу на сонца з-пад рукі —
яно пайшло да Лісабона...
Мы — еўрапейцы, землякі,
наш мацярык — Еўропы лона...

У нас прыгожа — божа мой!
У нас каштоўнасцей і флёру!
Мы лёгкай лашчаны зімой,
на спёку ў нас няма дакору.

І моўнае няма сцяны —
вучыцца мовам лепей сталі...
Разумнікі, прыгажуны
на шчасцейка павырасталі!

Матуля кожным дзіцянём
гатова шчыра ганарыцца —
і стаць пакутным камянём,
калі не здолеем мірыцца...

*1975*

## МАЙСКІ ЦУД

Грымнуў гром над лясамі голымі,
над ляснымі птушынымі школамі...
Грымнуў гром — і дажджу накапала,
быццам з радасці хмарка заплакала.
Паліліся светлыя слёзы
на бярозанькі,
на бярозы!
І глядзіш — зямля пацяплела,
птушаня ў гняздзе пасмялела,
пасмялелі травінкі кволыя
і бярозы мае вясёлыя...
Я вясну
душой сустракаю,
я вясновых цудаў чакаю...
Спевакоў я чакаю смелых
і галінак ружова-белых.
Пра шляхі я мару юначыя,
пра кастры на прывалах
гарачыя...
Зараз пыхнуць сцягі маёвыя,
касманаўты аб'явяцца новыя...
Зараз нешта такое здарыцца,
аб чым нават не марыцца!

*1966*

## ЗВАНОК СЯБРОЎКІ

*В. С.*

«Вы пішаце добрыя вершы, —
чаго ж вам тады сумаваць!..»
Мая даражэнькая Вера,
ну што мне табе адказаць?

Ну што адказаць пра самоту,
пра гэты няўрымслівы жаль,
што з рук выбівае работу,
хмурынай зацягвае даль?

Гадоў,
          як каменьчыкаў дробат,
слязьмі сакавік наляшыў...
Ніякі навучаны робат
не выкажа суму душы.

Патрэбна, як бачым, размова,
спагаднай усмешкі святло,
недыпламаванае слова,
такое,
          каб дух узняло...

Мой прыклад далёка не першы...
Так многія без цеплыні,
выдатныя пішучы вершы,
губілі ў тузе свае дні...

*1975*

## ЛАСІ

Ласёў багата развялося,
Людзей умелых, баявых.
Гадуюць важкае калоссе,
Стаяць ля топак агнявых.

Ёсць Лось — хірург,
Ёсць Лось — мастак,
Ратуюць так,
Малююць так,
Што я зайздрошчу ім душою,
Але і ганаруся ўслед:
Зямляцкай рослаю сям'ёю
Заселен недарэмна свет!

Ёсць будаўнік на рыштаванні,
Ёсць жартаўнік на баляванні,
Ёсць аграномка, поля кветка,
Ёсць нават смелая паэтка.

У кожным радасным пачыне,
Усюды, дзе патрэбны лад,
Працуе вывадак ласіны,
Гучыць імя ляснога склад!

*1975*

* * *

*Сястры Марыйцы*

Галоў засечкі на ілбе...
Ты не бядуй, што пасталела.
Затое ў працы, ў барацьбе
Душа гарэла, а не тлела.

*1974*

* * *

«Я — надоўга», — кажа дуб шумлівы.
«Я — надоўга», — дзятлічак дзяўбе.
І спявае промень зіхатлівы...
«Я — надоўга», — гавару сабе...

Гавару — і трошачкі баюся:
Лёс — ён лёс, не выпрасіш вякоў.
Я на век сынулі спадзяюся:
Там і я знайду сабе гадкоў...

*1975*

## МАТЧЫНЫ СТРОФЫ

Расце сынок,
як дрэўца ў полі...
На рост за тое не сярдуй
і на людзях,
у той жа школе,
яго ўжо,
мама,
не цалуй...

Ён не даецца ўжо на рукі,
дый не падымеш бальшуна!
Усё глыбей яго навукі,
усё мудрэе гамана.

Ён задае пытанняў столькі,
што ўспомніш,
мама,
інстытут!
І ведае твае ўсе болькі,
і адчувае груз пакут.

Імкнецца,
хоць не прызнаецца,
плячо падставіць пад цяжар.
Тваёю бурай
скаланецца,
тваёй імглой
замружыць твар...

А ўжо калі пашчасціць маці,
які ён радасны тады!
І песні голасныя ў хаце,
і ў сшытках меншае бяды...

Матуля шчасце заклікае,
каб не збягала хваляй рэк,

хаця б таму,
што падзяляе
яго з ёй верны чалавек!

* * *

Калі ўжо вянуць я павінна,
то хай не шкодзяць мне багі
аддаць да кроплі сокі —
сыну,
хай ён іх вып'е без тугі...

* * *

Ні тэлефон,
ні ліст не зможа
глухое ростані тугу...
Сын без мяне,
напэўна, можа,
ды я без сына не магу...

* * *

Калі ўсё добра —
то патрэбна шмат,
калі ўсё кепска —
дык нішто не міла:
ні сынава «пяцёрка»,
ні той сад,
дзе кожную прышчэпку апчапіла...

Але жыву у прадчуванні змен:
расце мой сын,
і сад,
і мая сталасць.
На «добра»
перацягвае бязмен,
на «кепска»
застаецца дужа мала...

*1976*

## ЦЫКЛОН

Цыклон з Венгерскай нізіны
пранёсся ажно над намі.
Ламае бяроз галіны,
вочы слепіць даждж́амі.

Марнее маці сівая
з-за злога таго цыклону...
Бачыце, не трывае
цыклону з-пад Балатону...

Словы з жудасцю нейкай
падаюць на бярозы:
«Гэта плача Сяргейка,
у гэтым дажджы — яго слёзы...»

А сына вяла атака
зусім не па тым раздоллі.
Паміраючы, ён заплакаў
на сухім кукурузным полі...

*1975*

## РЭЛІКВІІ

Здалёку, з пашанаю звыклай,
вучоныя пісьмы ляцяць...
Просяць музеі рэліквій...
А дзе іх, салдацкія, браць?

Згарэла адзежа і кнігі,
якія чытаў па начах...
Сплылі яго веснія крыгі,
і сад ружакветны зачах.

Ні цвет не пашлеш, ні радзінны
музею абшар баравы...
А з фронту ёсць здымак адзіны —
прыслаў пабрацім баявы.

На здымку — харошы, нягрозны,
у годнасці звання свайго...
Мне кожны свой дзень самы розны
патрэбна усмешка яго!

Мой сын, далібог, гэтаксама
сягоння ўсміхаецца ўсім...
Я буду нядобрая мама,
як знікне узор перад ім.

Таму хоць зварот разумею,
нічым вам не дапамагу,
сардэчныя людзі з музея,
што дзесь на ўкраінскім лагу...

Балючая памяць гартае
ўсёй бітвы з фашызмам гады.
«Рэліквія» наша святая
у вас на вачах заўсягды...

Там вольна птушынаму побыту,
і спяць там пад зоркай адной
і воіны Людвіка Свобады,
і брат мой, мой вечны герой...

*1975*

* * *

Я па тваіх дарогах, братка,
іду і проста прыстаю...
Ужо й не думала, што Вятка
у долю выльецца маю...

Але яна мяне чакала
ў пухнатай шапцы снегавой.
Вятрамі з поўначы гукала
і назвай вёскі баравой.

...Па рэйках колы грукацелі,
міналі ростані вайны...
Уратаваць цябе хацелі?
Закалыхаць ад болю сны?

Цяжкое тое калыханне...
Дзе дом, дзе сёстры, дзе радня?!
Ні адрасу, ні развітання,
ні ў бой надзейнага каня, —

каб вынес хлопца з далі вяцкай
назад, на захад, да сваіх!
Каб сын удачаю салдацкай
прынёс бацькам палёгкі ўздых...

Сустрэла хата ў завірусе
лістоў, што праглі прывітаць.
— Дзень добры... Мы тут — з Беларусі...
А болей нечага казаць...

І людзі роспыт не ўсчынялі,
чаму зняможаны, худы.
Валы памыцца падавалі
і есці, што было тады...

Шукаю вёску і дзяўчыну,
якой пісаў свае лісты, —

і плачу проста без упыну,
бо ведаю: тут плакаў ты...

Твая дзяўчына ўнукаў мае,
твая дзяўчына — не свая.
Але мне плакаць памагае,
бо помніць. Помніць, які я...

*1976*

* * *

Даўно гляджу, як бронзу дожджык мые,
цяплеючы ад касак і штыкоў...
На помніках салдаты — пажылыя,
а больш за ўсё палегла юнакоў.

Было па дваццаць ім і па семнаццаць, —
дзядзькі пазней прыходзілі ў страі.
Уздоўж граніц адвагаю юнацкай
у сорак першым дыхалі баі.

У танках і пад танкамі гарэлі,
сабой масцілі трактаў палатно,
палалі ў небе; з крыламі арэлі
метэарытам падалі ў дзярно...

І з шынялёў, нядаўненька адзетых,
з кішэняў гімнасцёрак тых салдат
вымалі камсамольскія білеты
і фота мам, а зрэдку і дзяўчат...

Няхай даруюць горкае зважанне:
дзядзькі, відаць, мудрэйшыя былі,
асцеражней былі ў агні змагання
і да парадных маршаў дажылі.

А тыя... Іх касіла перавага
у наступальнай сіле тапара
і, можа, безаглядкавая прага
закрыць зямлі хоць метра паўтара...

*1975*

* * *

Прадаўжаецца лёс,
прадаўжаецца радасць —
у сынковых абдымках,
у працы цяжкой.
Узнялася трава,
акрылілася младасць,
налятаюць надзеі
жывой талакой...

Прадаўжаецца лёс,
каляровыя барвы
мне малююць дарогу,
на грунце ляжаць.
Успрымаю жыццё
як прыгожыя чары.
Прадаўжаю,
бо маю што
прадаўжаць!..

*1976*

## З БЕЛЫХ ПЯЛЁСТКАЎ

(Паэма)

За пікамі густога частаколу,
за слепатой бальнічнага акна
шчымлівую сваю адкрыла школу
далёкая, далёкая вясна...
І вучыць ліст, як трэба развінацца,
і вучыць ландыш, як яму ўзысці,
як птушцы у гняздзе уладкавацца,
якой дарогай дожджыку ісці.
Падказвае ігрушкам сарамлівым,
што ім шаптаць на узыходзе дня.
Дыктуе ручаям негаманлівым,
каб беглі нібы з цокатам каня...
А ўжо калі асмеліцца крылаты,
хоць самы дробны, нешта заспяваць,
як мудрая і родная, яна тут
не стоміцца да ночы дыктаваць!
Я вобраз дарагі яе малюю
у трохі хмельным ад лякарстваў сне —
адзінае дыктатаркі, якую
жывое сэрца хваліць — не кляне...
Адзіная, далёкая, як горад
за агароджай, дыхае яна...
Пішу ёй ліст балючы, ды не хворы
за шыбамі высокага акна...

### Ліст першы

Хачу згадаць — была яна, алея,
яе душою хораша кранаць...
Алея з сакавітымі кустамі,
з духмянымі вянкамі арабін,
а сярод дрэўцаў ён буяў сукамі —
і гонкі, і раскідзісты язмін...
Як здолеў ён на ветравым пагорку,
на глебе пуставатай стаць такім!
Вёў з сонейкам і дожджыкам гаворку,
я стала «загавораная» ім...

Упершыню было так хваляваццаǃ
Палохалася беднае дзяўчо,
калі ішло з канспектамі займацца
і ён схіляў галінку на плячо...
Схіляў уранні, днём вітаў здалёку,
змярканнем вабіў песняю без слоў...
Такая далікатнасць, і палёгка,
і столькі шчасця між былых муроўǃ
Ад хараства нямела і хмялела,
ад любасці кружылася ўваччу...
Семнаццатай вясной яго сустрэла.
Ад той вясны ўсе іншыя лічу...
Красы я не наламвала бярэмы,
нясмелай да канца вясны была,
але на светлых косах дыядэма
з язміну белакіпенна цвіла!..

Пастскрыптум:
малалая, маладая,
ужо тады магла шчаслівай быць...
Вясна людзей каханню навучае,
а хто ж любоўю вучыць даражыць?!

**Ліст другі**

Я берагла, ды іншыя зламалі...
Пад корань, у цвіценні веснавым...
Але душу гукаюць тыя ж далі,
там пачынала жыць радком жывым...
Як раптам, дарагой парою весняй,
сябе здзівіўшы сполахам душы,
зайшлася, нібы жаваранак, песняй
у некранутай бэзавай глушы!
Як тая песня вырвалася, божа, —
з вайны, з лапцей, з халоднага кута,
ішла са мною з нараджэння, можа,
цягнулася, як доўгая вярста!
І, можа, засталася б за плячыма,
за торбаю дарожнай, каб не ён —
прыгожы, чысты, як язмін, хлапчына,
што гэтак зрушыў мой дзявочы сон.
Успамінаю срэбра поўні белай,
бялюткі сад і росную траву...
А я на падаконніку сядзела,

паклаўшы на калені галаву.
І адчувала: сэрца не стрывае
усіх маіх нявыказаных бед!..
Так, можа, цяжка парастку бывае
з зямлі прабіцца зелена на свет...
Не заўважала, што і гаварыла,
якія словы шчырыя былі!
Свяціла поўня белая, свяціла,
і у вачах пялёсткі аж плылі...
Пялёстак да пялёстка,
гولька к гольцы —
і вырас твор, паэма тых гадзін.
Ад радасці кружылася у польцы...
Паэма называлася — «Язмін»...
Збярогся сшытак з творам пакінелым,
баюся перачытваць з нейкіх пор...
Не ўсё ў паглядзе засталося белым...
Старэю я, ды не старэе твор...
Не друкаваўся ён тады і потым,
хоць кансультант, вядомы ягамосць,
здзівіўся на радку якімсь двухсотым:
«А ведаеце — нешта ў творы ёсць!..»
Якое «нешта» — споведзь веснавая,
яе не паўтарыць, няма тых слоў, —
у сённяшняй жыве любоў другая,
а там была — світальная любоў!..

Пастскрыптум:
дарагое нараканне —
а мы нярэдка губім маладосць,
не падтрымаўшы першае каханне
і першы спеў, калі ў ім нешта ёсць...

## Ліст трэці

...Тады вясна была ўжо зыркім летам,
запозненага шчасця мела ўзлёт...
І зваў мяне патрошачкі паэтам
не толькі кансультант і блізкі род.
Прыкмецілі рабочыя, сяляне,
жанкі, дзяўчаты, хлопцы і дзядзькі.
Заўважылі журбу і хваляванне,
пачулі песні простыя радкі...
Каб не людская ўвага і прыветы,

каб не жадалі людзі песню чуць,
я б сто гадоў назад забыла гэты
занятак, што паэзіяй завуць!..
А так — жыву, пры памяці, пры веры,
не кветкаю — дык лістам на галлі;
а так — гляджу на сто гадоў наперад,
хоць, пэўна, жыць мне меней на зямлі...
...Мой трэці ліст канчаецца; у думках,
як і заўсёды, родны бацянок.
А вунь і ён, у ценевых карунках,
ідзе праведаць хворую сынок.
Яшчэ падрос! Акно маё шукае,
відаць мне — быццам песеньку пяе...
Да фортачкі адкрытай падбягае,
галінку з белым цветам падае...
Язмін! Язмін!.. Бялюсенькі, духмяны...
Ды ён цвіце, нібы й не адцвітаў!
Нібы далёкі мой незабываны
за частаколам вёсен прывітаў...

Пастскрыптум:
шчасце ўсё-ткі наганяе...
Калі ж яго адразу атрымаць,
калі яно гатовае бывае,
тады чаго істоце дасягаць?..
Сядзець за шчасцем, як за самаварам,
і песеньку мурлыкаць у вусы?
Тады нашто і нараджацца марам
пра свет народам высненай красы!..

*1977*

## ДУМКІ

### I

### *Для будучыні*

...Я людзям, што узнімуцца, як гай,
што сёння толькі дрэмле у насенні,
ім пра сваю любоў пяю з натхненнем,
з іх кожнаму кажу:
«Не забывай!..

Ты харашэй, шчаслівей за нас,
і спадчыну ты атрымаў запроста.
У ёй ані руінаў, ані ўбоства,
у ёй лісток ніводзін не пагас.

Ды спадчыну узгадавалі мы —
умелыя, няўмелыя, сівыя...
За намі не слупочкі верставыя
ўставалі —
абеліскі і дымы...

Зямлю сваю з шурпатай шалухі
мы вылупілі вам, нібы яечка...
Маім святлом, каштанавая свечка,
ты ўспыхнула ў дзень сонечнай смугі!

Мой розум на жыццё благаславіў
разбуджанага лазера магутнасць...
Наступныя, я тая ваша сутнасць,
якую корань ваш на рост абвіў...»

### II

### *Там*

Там не будуць разбівацца самалёты,
пісьмы чорныя не будуць прылятаць...
Там не будуць мець турэмшчыкі работы,
бо і вязнем хто ў жыцці захоча стаць?

Будзе чыста, будзе вольна і бязмежна,
як захочаш — куды хочаш паляціш:

то заззяюць Кардыльеры табе снежна,
то атуліць флёрам бэзавым Парыж...

Ані здзекаў, ані звады, ані здрады,
маеш вочы, маеш сэрца — дык любі!
Грудзі зоркамі абсыпяць зарапады,
абпраменяць вочы яханты глыбінь...

Не·пра ўтопію кажу, кажу пра існасць —
толькі трэба пачакаць яе, на жаль,
трэба вымучыць яе, бяссоннем высніць,
скараціць хадой нямераную даль...

III

*Сёння*

А сёння ўсё маё: зямля, што родзіць
і з ранніх год па ясных сцежках водзіць.

А на зямлі — мой сын,
а ў небе — вершы,
што мне дыктуе жаваранак першы.

А пад зямлёй усе мае скарбонкі:
ступаю — чую водгаласак звонкі!

Я сёння ўстала рана на дасвецці,
акно раскрыла ў лісцвяное веццє.

Я сёння рашчыню ў дзяжы рашчыну
і шчыра абдыму свайго мужчыну...

Мне сёння жыць у свеце маладосці...
Наступнікі шчаслівыя, зайздросце!

*1976*

* * *

Радзіма,
Беларусь,
сівы затон,
У сінім небе — жаваранак весні, —
Пяю — табе;
калі ж пачуеш стогн,
Лічы, што гэта усё роўна песня!

*1966*

* * *

«Той, хто зладзіў калодзеж,
Не памірае»...

А хто вырасціў колас?
А хто выкаваў полаз?
А хто вытаптаў сцежку,
Падарыў
Дарагую
Усмешку?

Я гляджуся
Ў бяздонны калодзеж.
Я з табой,
Несмяротны народзе!..

*1965*

## БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

Еўдакія Якаўлеўна Лось нарадзілася 1.3.1929 года ў вёсцы Старына Ушацкага раёна Віцебскай вобласці ў сялянскай сям'і.

У 1947 годзе скончыла Глыбоцкае педвучылішча, у 1955 годзе — філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М.Горкага. Працавала рэдактарам Вучэбна-педагагічнага выдавецтва БССР. У 1960 годзе скончыла Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Была літработнікам газеты «Звязда», адказным сакратаром часопіса «Работніца і сялянка», галоўным рэдактарам часопіса «Вясёлка».

Памерла 3.7.1977 года.

Выступіла ў друку ў 1948 годзе. Аўтар зборнікаў паэзіі «Сакавік» (1958), «Палачанка» (1962), «Людзі добрыя» (1963), «Хараство» (1965), «Яснавокія мальвы» (1967), «Вянцы зруба» (1969, выбранае), «Перавал» (1971), «Галінка з яблыкам» (1973), «Лірыка» (1975), «Лірыка ліпеня» (1977). Для дзяцей выйшлі кніжкі вершаў «Абутая елачка» (1961), «Казка пра Ласку» (1963), «Вяселікі» (1964), «Зайчык-выхваляйчык» (1970), «Дванаццаць загадак» (1974),«Смачныя літары» (1978). У 1979 годзе выйшлі «Выбраныя творы» ў 2-х тамах. Напісала кнігі прозы «Пацеркі» (1966, апавяданні) і «Травіца брат-сястрыца» (1970, апавяданні, замалёўкі).

ЗМЕСТ

2

3

**Лось Е.**

Л79 І каласуе даўгалеццe: Вершы/Уклад. М. Я. Ярашэвіч, М. Я. Клімовіч. — Мн.: Маст. літ., 1998. 367 с.— (Залатая серыя. Паэзія XX стагоддзя).

ISBN 985-02-0436-2.

Спавядальна-шчырыя, сагрэтыя пачуццём любові да Беларусі і яе людзей паэтычныя творы Е.Лось (1929—1977) займаюць адметнае месца ў айчыннай літаратуры. У кнігу ўвайшлі лепшыя вершы і паэмы з кніг «Палачанка», «Людзі добрыя», «Лірыка ліпеня», «Яснавокія мальвы», а таксама створаны напрыканцы жыцця «Бараўлянскі сшытак», трагічныя матывы якога ўсё ж не здольныя перамагчы вялікага жыццёвага аптымізму паэтэсы.

**УДК 882.6-1**
**ББК 84(4Беи)6**

Літаратурна-мастацкае выданне

*Залатая серыя. Паэзія XX стагоддзя*

**Лось Еўдакія Якаўлеўна**

**І КАЛАСУЕ ДАЎГАЛЕЦЦЕ**

Вершы

*На вокладцы фрагмент карціны І. Т. Хруцкага «Партрэт невядомай з кветкамі і фруктамі»*,1838 г.

Рэдактар М. М. Мятліцкі
Мастак А. І. Цароў
Мастацкі рэдактар А. М. Малышава
Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова
Аператары Т. Я. Святлова, Р. І. Марфіна
Камп'ютэрная вёрстка Л. В. Сторажава
Карэктар Я. А. Бебель

Падп. да друку 20.04.98. Фармат 84x100 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная № 1.
Гарнітура Тып Таймс. Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 17,94. Ум. фарб.-адб. 18,33. Ул.-выд. арк.11,11. Тыраж 3000 экз. Зак. 823.

Выдавецкае дзяржаўнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура»
Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку.
Ліцэнзія ЛВ № 3 ад 19.11.97. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат ВПП імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.